ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

25 лістапада 1994 г. | № 47 (3769) | Кошт 75 руб.

## КАНФЛІКТ НА МАРАСЕЙЦЫ

***Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ:* "Беларусь перажывае перыяд станаўлення дзяржаўнасці, адбываецца працэс адрыву ад колісь маналітнага імперскага мацерыка. Пара ўжо выпрацаваць знешнепалітычную канцэпцыю ў адносінах да дзяржаў "бліжняга замежжа", зыходзячы з дзяржаўных прыярытэтаў, а не панславянскіх ці савецкіх перажыткаў. І калі ў Міністэрстве замежных спраў РБ гавораць пра абарону правоў дыяспары як пра галоўны клопат любога пасольства, то сказанае не вельмі стасуецца з тым, што мы маем у Маскве".**

**5**

## ВЕРСЭТЫ

***Алеся РАЗАНАВА***

**8--9**

## "НАША МІНУЛАЕ — НАША БУДУЧЫНЯ"

***Алан ФЛАЎЭРС:* "Праблемы мінулага абудзілі ваш нацыянальны дух, вялікую нацыянальную энергію, прымусілі людзей працаваць і мяняцца якасна. Можна сказаць, што гэта трагічная работа Бога -- дзіўным чынам карысная. Карысная тым, што вам выпадае магчымасць паразумецца і супрацоўнічаць з цэлым светам, адукоўвацца, неверагодна хутка развіваць здольнасці і мысленне. Я веру ў Будучыню Беларусі".**

**10**



## ІМПРАВІЗАЦЫЯ НА ТЭМУ...

Мы спрабуем жыць уласным жыццём, чужынскіх святаў у календары амаль не маем. Вось і 7 лістапада цяпер — звычайны дзень. У гэты звычайны дзень у канцэртнай зале сталічнай філармоніі пачаўся джазавы фестываль. Не прысвечаны аніякай гадавіне. Хаця, з джазавага пункту гледжання, гэты год — юбілейны. Сёлета — "круглыя" даты Каўнта Бэйсі, Адольфа Сакса, Глена Мілера...

Тры дні філармонія была пляцоўкаю джазавага фэсту, які можна было б назваць імпрэзай аднаго калектыву — Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга: яго музыканты ўдзельнічалі ва ўсіх канцэртах. Але ж аркестр быў толькі базай фэсту, даўшы магчымасць удзельнічаць у ім іншым калектывам і салістам.

Тры дні фестывалю — тры абсалютна розныя праграмы. Першы дзень належаў уласна аркестру, дакладней, бэнду М. Фінберга (струнная група тады не прысутнічала). Які ўжо раз аркестр прадэманстраваў сваё жаданне не злоўжываць колішнімі дасягненнямі, імкненне пашыраць і разнастаіць рэпертуар. У свой час аркестр парадаваў публіку цудоўнымі праграмамі з музыкай Д. Элінгтана, К. Бэйсі, Т. Джонса, Г. Мілера, выконваў асобныя творы іншых класікаў джаза. Гэтым разам адбылося знаёмства публікі з творамі ды аранжыроўкамі Боба Мінцэра — аднаго з апалагетаў сучаснай плыні аркестравага джаза. Гэта яшчэ адзін доказ таго, што шырыня творчых поглядаў М. Фінберга, высокі прафесіяналізм музыкантаў робяць гэты аркестр сапраўды універсальным, здольным выконваць усялякую музыку. Дарэчы, наступным летам калектыў збіраецца ў вандроўку на радзіму джаза. Кажуць, у Тулу са сваім самаварам не ездзяць, але ж можна быць упэўненым, што пасля адной-дзвюх п'ес у выкананні нашага аркестра амерыканцы забудуцца на тое, што музыканты прыехалі з нейкай невядомай ім краіны. Словам, уведаюць, што ёсць такая Беларусь, дзе джаз — не горшы за амерыканскі.

У аркестры шмат выдатных, яркіх салістаў. Пэўна, з цягам часу яны адно за адным пакідалі б калектыў, каб заняцца ўласнай джазавай кар'ерай, калі б М. Фінберг не заахвочваў іхнія імкненні выказваць уласныя музычныя схільнасці, не даваў бы магчымасць

*(Працяг на стар. 13)*

*Беларускія пасланцы зноў зачасцілі ў Маскву. Падпісваюцца нейкія дамовы, заключаюцца нейкія саюзы. Кошт усім гэтым ваяжам і паперам мы ведаем з часоў Кебіча: Масква праводзіла і будзе праводзіць адносна Беларусі толькі выгадную ёй палітыку, ніколькі не зважаючы на падпісаныя пагадненні -- перакрывала і будзе перакрываць падачу паліва, ускладняла і будзе ўскладняць мытневыя правілы... Чаму ж песенька "Нам не жить без России" зноў на слыху? Пэўна ж, не толькі таму, што адзін з нейкіх там сабораў абвінавацію прэзідэнта ў празаходняй арыентацыі. Гэта, на наш погляд, яшчэ адно пацвярджэнне таго, што ў прэзідэнта і ягонай каманды няма адмысловай, выверанай праграмы вываду хворае краіны з крызісу. А калі топішся, кажуць беларусы, то і за саломіну ўхопішся...*

## "КАМПРАМІС" ТЫДНЯ

Канстытуцыйны суд у рэшце рэшт прыслухаўся да вокрыку прэзідэнта і "прыняў рашэнне", якое "задаволіла" абодва бакі: "прэзідэнцкая вертыкаль" з Мінска будзе будавацца толькі да райцэнтраў. У вёсках жа ўлада застанецца старая — савецкая, сельсаветаўская. Ці гэтым павінен займацца Канстытуцыйны суд? Бо галоўнага ён так і не зрабіў: адказу на пытанне "Ці адпавядае прыдуманая прэзідэнтам "вертыкаль" нашай Канстытуцыі?" — мы не пачулі...

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

1 мільярд 200 мільёнаў долараў складае цяпер знешні доўг Беларусі, альбо больш за 100 долараў на кожнага, нават толькі народжанага, жыхара краіны. У асноўным — Расіі, за энерганосьбіты. Толькі за газ мы вінаваты "сястры" 420 мільёнаў долараў. Набліжаецца зіма. І не цяжка прадказаць сёння, якой яна для нас будзе, улічваючы перыядычныя ультыматумы Масквы.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Мы мусім вярнуць на нашую зямлю нармальны, людскі парадак рэчаў і паўсюль ды кожнаму сцвердзіць, што беларус — не ўбогі жабрак, а чалавек, якога трэба паважаць; што Беларусь — не заштатны дадатак да Расіі, не прахадны двор, а — краіна, якую трэба паважаць; што беларускі парадак — гэта не бязладдзе марыянетак альбо заезджых гаспадароў і злачынцаў, а дакладна вызначаны падзел: дзе сваё, а дзе не сваё, дзе свае людзі, а дзе людзі чужыя, дзе інтарэсы свае, а дзе іншых дзяржаў, і — хто ў гэтай краіне гаспадар".

*(З "Маральнага крэда Беларускага згуртавання вайскоўцаў", "Свабода", N 44).*

## СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Інфармацыйнае агенцтва "Мас-Медыя Цэнтр" распаўсюдзіла паведамленне, з якога вынікае, што Беларусь збіраецца прадаць адной амерыкана-канадскай фірме ракетны комплекс С-300. Зрабіць гэта хацеў яшчэ ўрад Кебіча. Аднак ён не змог дамовіцца з расійскімі ўладамі. Кошт найсучаснейшага комплексу — 500 мільёнаў долараў ЗША. Зразумела, такім чынам беларускі ўрад хацеў бы паправіць незайздроснае становішча ў эканоміцы. Але ці адбудзецца здзелка? Бо манаполію на продаж любой зброі Расія ні ў якім разе не хоча выпускаць са сваіх рук. "Военные секреты России могут быть проданы в Минске", — лямантуюць "Известия" і тут жа супярэчаць сабе: Расія даўно гандлюе падобнай тэхнікай, зусім нядаўна Кітаю прададзена некалькі зенітна-ракетных дывізіёнаў С-300, Беларусі быў пастаўлены толькі комплекс, які служыў вучэбнай базай для курсантаў зенітна-ракетнага вучылішча, тая ж фірма крыху раней хацела купіць падобны комплекс у Расіі, але там прапанавалі трохі не тое, што фірме трэба... Афіцыйныя колы Беларусі і Расіі пакуль ніяк не выказаліся наконт гэтай сенсацыі, якая паступова перарастае ў скандал.

## КАНТРАКТ ТЫДНЯ

Пакістан купіць у мінскіх трактаразаводцаў 12 тысяч трактароў МТЗ-50, якія сыходзяць з канвеера ўжо чацвёртае дзесяцігоддзе. Такі буйны замежны заказ за час свайго існавання МТЗ атрымаў упершыню. Прычым не атрымаў, а дабіўся ў нялёгкай канкурэнтнай барацьбе з прадпрыемствамі Польшчы, Чэхіі, Аўстрыі, Кітая і Расіі. Ужо зараз пакістанскія фермеры падалі больш за 70 тысяч заявак на трактары "Беларусь". А значыць, будуць новыя кантракты. Да канца года ў Пакістан будзе накіраваны 4 тысячы трактароў.

Прыбыццё першай тысячы нашых трактароў будзе адзначацца як усенароднае свята і, магчыма, параход з трактарамі будзе сустракаць прэм'ер-міністр Пакістана... А што Расія? Яе трактары, якія выпускаюцца на альтэрнатыўным мінскаму ліпецкім заводзе, канкурэнцыі не вытрымалі, бо матор на тых трактарах, па словах спецыялістаў, адстае ад мінскага па якасці на 50 гадоў... Але ў "русских собственная гордость" і замест таго, каб купляць прызнаныя ва ўсім свеце беларускія (у ЗША, у некаторых штатах больш паловы працуючых па палях трактароў — маркі "Беларусь"), яны будуюць свой завод.

## АСЕНІЗАЦЫЯ ТЫДНЯ

Народны рух па барацьбе з карупцыяй і злачыннасцю ў рэспубліцы пад назовам "Ачышчэнне" многія называлі праобразам ці асновай прэзідэнцкай партыі. Узнік рух у Гародні не без удзелу С. Посахава, які працуе сёння дарадцам прэзідэнта. У мінулую суботу адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Народнага саюза "Ачышчэнне", на якой зацверджаны яго статут, які будзе перададзены для рэгістрацыі ў Мінюст, і выбраны кіруючы орган — рада НС "Ачышчэнне". Старшыня саюза пакуль не выбраны і кіраваць ім даручана... Сяргею Гайдукевічу. Таму самаму, які ўзначальваў Народны рух Беларусі, што на мінулых прэзідэнцкіх выбарах адкрыта зрабіў стаўку на В. Кебіча і адмежаваўся ад Лукашэнкі. Такіх метамарфоз і ачышчэнняў (асенізацый), пэўна, не чакаў ніхто.

## СОРАМ ТЫДНЯ

Перадача ТБ "Пяць хвілін на жарты" на мінулым тыдні адзначыла свой год — ужо год "радуе" яна тэлегледачоў сваім убоствам. Безгустоўным і шэрым атрымаўся і гадзінны тэлеюбілей "жартаў". Нецікавы, занадта задаволены сабою, вядучы; нецікавыя, празмерна зацятыя ў сабе, госці. І ад экраннае дзеі вее такім духам графаманства і бескультур'я, што робіцца сорамна за нас усіх і за "наша" тэлебачанне.

**P. S.** Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка аператыўна адрэагаваў на паведамленне, што рух "Ачышчэнне" ўзначаліў С. Гайдукевіч. Ён упаўнаважыў А. Фядуту заявіць наступнае: "Президент Беларуси не нуждается в услугах г-на Гайдукевича и тех структур, которые он возглавлял, возглавляет и будет возглавлять. Не прибегнет к их услугам Президент даже в том случае, если в это время будет решаться вопрос его личной жизни и смерти". Сам факт з'яўлення Гайдукевіча на чале руху прэзідэнт расцаніў як правакацыю з боку сіл, што знаходзіліся раней ля ўлады. Як правакацыю, дарэчы, расцэньвае прэзідэнт і чуткі пра продаж зенітна-ракетнай установкі С-300.

# «ЗАВЯЗАНЫ» НА ЎСХОДНІМ СУСЕДЗЕ...

## З ЧАРГОВАЙ УРАДАВАЙ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

Калі гаварыць пра, так бы мовіць, "псіхалагічную" тэмпературу прэс-канферэнцыі (а да гэтага схіляе сама яе тэма "Аб становішчы ў рэспубліцы з энергарэсурсамі"), дык была яна такой зменлівай, што прысутных журналістаў кідала то ў холад, то ў гарачку.

Мяркуйце самі. Сваё паведамленне для прэсы віцэ-прэм'ер Кабінета Міністраў Валерый Кокараў пачаў з такога змрочнага факта: 15 лістапада расійскія пастаўшчыкі газу скарацілі яго падачу ў рэспубліку адразу на 50 працэнтаў, што прымусіла краіну прыняць надзвычайныя меры па абмежаванні карыстання гэтым відам паліва. У першую чаргу яго былі пазбаўлены прамысловыя прадпрыемствы, якія задаўжалі за газ вялікія сумы. У якую капейчыну ім абышоўся гэты вымушаны прастой, спадар Кокараў не паведаміў. Затое ён палічыў абавязковым падкрэсліць, што паліўны крызіс не зачапіў насельніцтва -- падача газу ў жыллёвы сектар, школы, дзіцячыя сады і г. д. не спынялася. Праўда, для гэтага прыйшлося выкарыстаць недатыкальны запас газу, які меўся ў рэспубліцы.

Але ўжо раніцай 17 лістапада падача яго ў Беларусь была аднаўлена ў ранейшых аб'ёмах. Для гэтага В. Кокараву "со товарищи" давялося ў пажарным парадку выязджаць у Маскву і весці там перамовы з кіраўніцтвам усясільнага Расійскага акцыянернага таварыства "Газпрам", манапаліста ў здабычы і рэалізацыі газу.

Журналістаў зацікавіла, чаго гэта газпрамаўцы раптам змянілі гнеў на міласць і пагадзіліся зноў адкруціць "кранік"? Валерый Іванавіч адказаў, што перамовы ішлі надзвычай цяжка, але, у рэшце рэшт, расіян удалося пераканаць, што Беларусь зробіць усё магчымае, каб расплаціцца з даўгамі за газ, даўшы пры гэтым канкрэтныя гарантыі.

І сапраўды, паводле слоў віцэ-прэм'ера, за апошнія некалькі дзён справа з выплатай "нядоімак" расійскаму боку прыкметна пасунулася наперад. Колькі ўсяго мы засталіся вінны? Ні многа, ні мала -- 460 мільёнаў долараў, з іх 420 за газ, астатняе — за нафту.

Якім спосабам урад мяркуе выбірацца з даўгавой ямы? Выбар тут не вельмі багаты. Выплата даўгоў за энерганосьбіты будзе часткова ажыццяўляцца і за кошт знешніх займаў. Гэта складзе недзе 50 мільёнаў долараў, хоць, як заўважыў Валерый Іванавіч, хацелася б выкарыстаць гэтыя сродкі па прамым прызначэнні – для структурных змен у эканоміцы. Другая крыніца пакрыцця даўгоў — маёмасць, якой Беларусь вымушана будзе расплаціцца з расіянамі. І трэцяя крыніца — з тых, пра якія ў народзе кажуць "знайшоў сякеру пад лаўкай": жорсткая тарыфная палітыка, а, карацей кажучы, рэзкае павышэнне тарыфаў за карыстанне тым жа газам або электраэнергіяй.

І віцэ-прэм'еру, і кіраўнікам энергетычных службаў рэспублікі (газ, нафта, электрычнасць), якія таксама прынялі ўдзел у прэс-канферэнцыі, было зададзена нямала пытанняў аб шляхах выхаду Беларусі з энергетычнага крызісу, які, мяркуючы па ўсім, будзе ўзмацняцца. Адказы былі аднатыпныя: 90 працэнтаў энерганосьбітаў паступае ў рэспубліку з Расійскай Федэрацыі і нам наканавана быць эканамічна "завязанымі" менавіта на ўсходнім суседзе. Буду аб'ектыўным: прадстаўнікі ўрада аперыравалі пры гэтым канкрэтнымі лічбамі і фактамі, чаго не скажаш пра нашага брата-журналіста. Так, сёння мы купляем ў Расіі нафту па 75 долараў за тону пры сусветных цэнах 105—110 долараў. Значна ніжэй за сусветныя цэны купляем мы там і газ. У мяне няма падстаў не верыць гэтым лічбам, але, паводле слоў таго ж В. Кокарава, з новага 1995 года Расія мае намер перайсці на сусветныя цэны. Што будзе з намі тады? Тым больш, што па яго ж прызнанні здабыча той жа нафты ў Расійскай Федэрацыі штогод зніжаецца, а таму і змяншаюцца квоты яе продажу краінам СНД, і можа адбыцца так, што цяперашняя квота для Беларусі ў 10 мільёнаў тон у год праз два-тры гады не складзе і паловы гэтай колькасці.

Аднак бачання вырашэння ўсіх гэтых складанейшых праблем арганізатары прэс-канферэнцыі не прадэманстравалі. На пытанне аднаго з журналістаў, як кіраўнікі энергасістэм рэспублікі ставяцца да ідэі балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектара, пачуўся адказ, што сама па сабе яна цікавая, але наўрад ці ажыццявімая, бо толькі Беларусі гэта будзе каштаваць недзе 2—3 мільярды рублёў.

Пэўныя надзеі, па словах віцэ-прэм'ера, яны ўскладаюць на газаправод Ямал — Еўропа, які будзе пракладвацца праз тэрыторыю Беларусі. Як можна было зразумець, з гіганцкага патоку газу, які пацячэ па трубах з усходу на захад, нейкую частку яго мы зможам выкарыстаць у сваіх мэтах.

Зайшла на прэс-канферэнцыі размова і пра альтэрнатыўную сёння энергетыку, г. зн. там, дзе выкарыстоўваецца сіла вады, ветру і некаторых іншых крыніц. Як засведчылі прысутныя на каферэнцыі спецыялісты, сёння ў Еўропе на долю "альтэрнатыўнай" энергетыкі прыпадае не больш чатырох працэнтаў усяго аб'ёму энергарэсурсаў. Што робіцца ў гэтым плане ў нас? Мяркуючы па адказах (дарэчы, досыць агульных), сёе-тое робіцца, ды перспектыў асаблівых не бачна, бо справу моцна тармозіць дэфіцыт сродкаў.

"Градус" прэс-канферэнцыі адразу павысіўся, калі гаворка зайшла пра "ўзаемаадносіны" энергетыкі і экалогіі. І хоць віцэ-прэм'ер і начальнікі службаў, якія яго суправаджалі, у адзін голас сцвярджалі, што прымаюцца ўсе меры перасцярогі, каб папярэдзіць уцечку прадуктаў з газа- і нафтаправодаў, што праляглі па тэрыторыі рэспублікі, В. Кокараў, уздыхнуўшы, заўважыў: "Вядома, поўнасцю гарантаваць, што ў нас не можа здарыцца таго, што здарылася на АТ "Комінафта", дзе ў выніку аварыі нафтай былі забруджаныя навакольныя землі і рэкі, — нельга".

Ці не на гэтай мінорнай ноце і завяршылася сустрэча кіраўнікоў беларускай энергетыкі з журналістамі.

**М. ЗАМСКІ**

Госці

# ВАРШАЎСКАЯ МЕЛОДЫЯ

На мінулым тыдні Мінск наведаў знакаміты Даніэль Альбрыхскі. Разам з Барбарай Вжэсіньскай на малой сцэне купалаўскага тэатра ён сыграў спектакль "Любоўныя лісты" ("The Love letters") А. Р. Гарні ў рэжысуры Анны Матысяк. Хто паглядзеў -- быў узрушаны. Хто не паглядзеў — не тое, каб шмат чаго страціў, а, кажучы, больш дакладна, не набыў штосьці значнае, важнае, істотнае менавіта для дня сённяшняга.

Увогуле, ціхі гэты спектакль і нарадзіўся неяк нягучна, без калятэатральнага ажыятажу, якога можна было б чакаць, зважаючы на ўзровень прапанаванага відовішча, прыналежнасць яго да высокай польскай сцэнічнай культуры і ўдзел у ім славутай зоркі тэатра і кіно. Спектаклю не папярэднічала камерцыйная "раскрутка", дзякуючы спонсарам Дзён польскай культуры -- Фонду Сораса -- Беларусь, Фонду Стэфана Баторыя, СП "Люм'ер" -- атрымалася прыблізна так: ішлі па Мінску, завіталі ў тэатр, а там Альбрыхскі... І нібыта так і трэба. Хоць, вядома, так і трэба.

П'еса А. Р. Гарні прымушае згадаць і "Двое на арэлях", і "Гульню ў джын", і "Варшаўскую мелодыю", і "У будучым годзе на тым самым месцы", і шэраг іншых твораў "на дваіх", якія з задавальненнем глядзяцца і іграюцца. Напісаная лёгка, дасціпна, нават з бляскам, яна і паслужыла падставай віртуознага дуэта Альбрыхскі -- Вжэсіньска.

Ён і Яна, мужчына і жанчына пішуць адно аднаму пісьмы, перапіска доўжыцца цэлае жыццё, сапраўды са школы да скону. Гэткі раманліставанне... Пераказ фабулы выглядаў бы наборам банальнасцей з на-



годы "супярэчлівасцей лёсу". Спектакль жа, вырастаючы нібыта з нічога, калі і настойваў на чымсьці, дык на унікальнасці чалавечых дачыненняў.

Польскія акцёры распавялі нам адну з гісторый багатай кнігі жыцця. Зрабілі гэта нязмушана, далікатна, з той красамоўнай недагаворанасцю, якая ёсць адзнакай высокага майстэрства.

**А. ГАНЧАРОЎ**

*На здымку: Даніэль Альбрыхскі.*

*Фота Ж. МАЁРАВАЙ*

•

Падобна, Дні польскай культуры ў Мінску становяцца традыцыяй. У мінулым годзе, як помніцца, акурат у гэтым часе сталіца мела магчымасць пазнаёміцца з мастацтвам Кшыштафа Занусі; зараз стрыжнем дзён сталася рэтраспектыва фільмаў Анджэя Вайды (яе змест "ЛіМ" паведаміў у папярэднім нумары). Апроч кінематографа, мінчукі маглі паглядзець спектакль "Лісты кахання" з удзелам вядомых польскіх акцёраў Барбары Ужэсіньскай і Данііеля Альбрыхскага — на Малой сцэне Нацыянальнага тэатра імя Я. Купалы, а таксама сустрэцца з гэтымі артыстамі ў кінатэатры "Перамога", дзе 17—22 лістапада і дэманстраваліся фільмы. Такая ж сустрэча адбылася з актрысай і спявачкай Станіславай Цэліньскай. У зале Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі быў пастаўлены монаспектакль "Усміхніся!" з удзелам артысткі.

Варта адзначыць прадстаўленне фільмаў А. Вайды польскімі крытыкамі І. Слабадзян і Я. Шчэрбам, а таксама майстэрскі іх пераклад на рускую мову Я. Гендэлем.

У "палітычнай частцы" дзён адбылася сустрэча з дэпутатам Польскага Сената Анджэем Цэліньскім.

Да арганізацыі культурнай праграмы спрычыніліся Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі і Саюз кінематаграфістаў Рэспублікі Беларусь (пры ўдзеле міністэрстваў культуры абедзвюх краін), фундатарамі выступілі Беларускі Фонд Сораса, Фонд Стэфана Баторыя (Польшча) і СП "Люм'ер" (Мінск).

**Н. К.**

# РОДНАЯ МОВА: БОЛЬ І ТРЫВОГА

Два асноўныя пытанні былі вынесены на чарговае пасяджэнне Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, што адбылося 18 лістапада ў Доме літаратара: "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і Дзяржаўная моўная палітыка" і "Аб задачах ТБМ у перыяд падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет і мясцовыя органы ўлады".

Тое, што гэтыя пытанні ўзаемазвязаны, падкрэсліў у сваім выступленні і старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Н. Гілевіч. Ніл Сымонавіч, у прыватнасці, зазначыў, што хоць таварыства з'яўляецца культурна-асветнай арганізацыяй, яно не можа быць абыякавым да палітычных падзей, да таго, як уплываюць яны на стан беларускай мовы ў дзяржаве. У сваім выступленні Н. Гілевіч падрабязна ахарактарызаваў становішча, што склалася на сённяшні дзень у дзяржаве, адносна стаўлення да беларускай мовы. У нечым пачаўся своеасаблівы адкат. Знаходзяцца тыя (а штуршком для гэтага, як вядома, сталі выступленні некаторых асоб з вышэйшага эшалона дзяржаўнай улады), хто па сутнасці пачынае сумнявацца ў дзяржаўнасці беларускай мовы, усё настойлівей узнімае пытанне аб дзяржаўным двухмоўі. Павялічылася і колькасць заяў бацькоў, якія выступаюць супраць таго, каб іх дзеці вучыліся па-беларуску.

Пытанні моўнай палітыкі на сучасным этапе, абароны беларускай мовы як дзяржаўнай закраналіся ў выступленнях намесніка старшыні ТБМ Я.Цумарава, М. Савіцкага, Я. Стэпановіча, В. Болбаса, В. Косткі, А. Шастаковіча, А. Пяткевіча, Г. Сокалава-Кубая і іншых.

На пасяджэнні прыняты Зварот да грамадзян Беларусі, у якім гучыць заклік да ўсіх свядомых грамадзян Беларусі — супрацьстаяць змрочнай антыбеларускай плыні,выступаць у абарону беларускасці.

# СЛУЦКІМ ПАЎСТАНЦАМ!

## ДА 74-Й ГАДАВІНЫ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

26 лістапада з 10.00 да 12.00 у мястэчку Грозаў Капыльскага раёна адбудзецца ўсталяванне і асвячэнне памятнага вайсковага крыжа ў гонар славутай падзеі ў нашай гісторыі — фармавання ў лістападзе 1920 года 2-га Грозаўскага палка абаронцаў Беларускай Народнай Рэспублікі. У гэты дзень у Грозаў збяруцца прадстаўнікі дэмакратычных патрыятычных арганізацый, рухаў, навукоўцы, творчыя работнікі з Менска і іншых гарадоў і вёсак Беларусі.

У гэты ж дзень а 15.00 гадзіне дэлегацыі з розных куткоў краіны і жыхары Семежава ўшануюць памяць герояў Слуцкага збройнага чыну ля памятнага крыжа, які ўсталяваны ў гэтым мястэчку, дзе ў лістападзе 1920 года размяшчаўся штаб Слуцкай рады БНР.

Аргкамітэт па святкаванні 74-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну заклікае жыхароў Беларусі ўзяць удзел у святочных урачыстасцях.

**Аргкамітэт**

# У АБАРОНУ ПРАВОЎ ВЕТЭРАНАЎ

Гэты грамадскі рух нарадзіўся невыпадкова. Як вядома, у існуючых саветах ветэранаў заселі і кіруюць былыя военачальнікі і партакраты, якія ўпарта стаяць на пракамуністычных і рэтраградскіх пазіцыях. Асабліва гэта праяўляецца ў дзейнасці ветэранскай фракцыі ў парламенце, якая паслядоўна выступае супраць дэмакратычных пераўтварэнняў у грамадстве, суверэнітэту і нацыянальнага адраджэння. У сапраўднасці ж не ўсе ветэраны і наогул старэйшае пакаленне падзяляюць падобныя погляды, бачаць выйсце з крызісу ў вяртанні назад, да мінулага. Каб не заводзіць грамадскасць у зман, і нарадзілася ідэя стварыць альтэрнатыўнае згуртаванне "Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ветэранаў" (БДАВ).

Днямі аб'яднанне зарэгістравана Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь і тым самым набыло статус юрыдычнай асобы.

Паводле зацверджанага Статута, асноўныя мэты дзейнасці БДАВ — абарона грамадскіх, палітычных, сацыяльных правоў ветэранаў і асоб пенсійнага ўзросту, іх духоўнае зблiжэнне, удзел у выхаванні моладзі.

**Я.ІВАНОВІЧ,**
**ветэран вайны і працы**

# ЯШЧЭ АДЗІН КРОК...

16—17 лістапада адбылася чарговая (штогадовая) навуковая сесія Аддзялення гуманітарных навук АН Беларусі. Тэма сесіі на гэты раз была вызначана так: "Беларусь: гістарычны лёс народа і культуры". Абмеркаванне праходзіла па пяці секцыях, кожная з якіх ахоплівала пэўны гістарычны адрэзак — ад старажытнасці да нашага часу. У такой арганізацыі працы быў свой рэзон: на секцыях аб'ядналіся прадстаўнікі розных гуманітарных дысцыплін — гісторыі, філасофіі, літаратура- і мовазнаўства... Безумоўна, абмеркаванне пэўных пытанняў гісторыі, асабліва датычных савецкага перыяду і найноўшага часу, не магло не выклікаць спрэчак. Аднак жа праз тое, трэба думаць, і рухаецца наперад гуманітарная думка; праз тое і пераадольваюцца стэрэатыпы. Пэўна, вырашэнню гэтай задачы і заклiканы служыць агульнаакадэмічныя сесіі.

**Н. К.**

# І СВЯТА, І ВУЧОБА



З 15 да 21 лістапада ў Віцебску праходзіў VIII Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі. Сярод заснавальнікаў фэсту — сумеснае беларуска-германскае прадпрыемства "Белвест", Міністэрства культуры і друку РБ, Віцебскі Палац культуры прафсаюзаў, кампанія "АРТ МАРК" (Віцебск), упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама.

На фестываль з'ехаліся вядомыя артысты, харэографы і калектывы: Ізабэла Ранкаглiё і Фрэдэрык Лескюр з Парыжа, Крысцін Брунэль з Германіі, школа-студыя "Вольны балет" пад кіраўніцтвам М. Агрызкава (Масква), тэатр "Правінцыяльныя танцы" з Екацерынбурга, тэатр сучаснага танца Наталлі Фіксель з Новасібірска, Рускі камерны балет "Масква", група "Трое з Вільнюса".

У межах фестывалю адбыўся Нацыянальны конкурс сучаснай харэаграфіі, у якім прымалі ўдзел 6 беларускіх калектываў: фольк-тэатр "Госціца" з Мінска, балет "АРТ 7" з Гомеля, тэатр-студыя "Раёк" з Брэста, мадэрн-балет "Галерэя", група "ТАД", тэатр сучаснай пластыкі "Мілен" (усе з Гродна). Прызавы фонд складаўся з 5 млн. рублёў, якія ахвяраваў Цэнтральны камітэт Саюза моладзі Беларусі. Рашэннем міжнароднага журы на чале з В. Елізар'евым прэмія "За харэаграфічны пошук" у памеры 2 млн. руб. была прысуджана харэографу Д. Куракулаву, мастацкаму кіраўніку групы "ТАД". Прэмію "За цэльнасць мастацкага твора" ў памеры 3 млн. руб. атрымаў фольк-тэатр "Госціца" Дзяржтэлерадыёкампаніі РБ (мастацкі кіраўнік, харэограф-пастаноўшчык Л. Сімаковіч) за аднаактовы балет "Інтуіцыя міфа".

Па словах М. Раманоўскай, дырэктара фестывалю і прэзідэнта кампаніі "АРТ МАРК", асноўнай мэтай фэсту была дапамога беларускім артыстам. Замежныя харэографы шчодра праводзілі майстар-класы, у прэс-зале дэманстраваліся відэакасеты з разнастайнымі запісамі балетных спектакляў і харэаграфічных мініяцюр. Вядомыя крытыкі і навукоўцы склалі так званую "даследчую лабараторыю", якую ўзначаліла Н. Чарнова з Масквы. Члены лабараторыі не толькі распрацоўвалі канцэпцыю конкурсу-95, які мае быць міжнародным, але і праводзілі "круглыя сталы", давалі парады кіраўнікам беларускіх калектываў.

**Н. БУНЦЭВІЧ**



*На здымках: выступаюць фольк-тэатр "Госціца" (уверсе) і тэатр-студыя "Вольны балет".*

*Фота А. ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ*

Пошта

# ПРА СЛАВЯНСКУЮ ПАРТЫЮ, САБОР, ЗОНУ, БАЗАР І... МАЛАКО

Ох і цяжка ж аднавіць тое, што разбурана. Узяць былы Савецкі Саюз. Аднаўленню не падлягае. Вось і спрабуюць аб'яднаць хоць бы тры славянскія краіны: Расію, Украіну і Беларусь. Але і з гэтага нічога не атрымоўваецца, як ні стараюцца некаторыя палітыкі і дзеячы культуры. Праўда, іх высілкі па славянскім аб'яднанні, аднак, не праходзяць марна.

Стаіць каля універмага цётка, прытупвае ад холаду і гандлюе бляшанкамі са згушчоным малаком. Даўно я не бачыў гэтага прадукта ў нашых крамах. Падышоў бліжэй і чытаю надпіс на этыкетцы: "згушчонае абястлушчанае славянскае малако з цукрам". А побач — такая сімпатычная пыска кароўкі-славяначкі.

Вось, думаю, неразумныя мы людзі-славяне, ніяк не аб'яднаемся. А тут — на табе! — "славянская згушчонка". З кароўкамі, значыць, прасцей: узяў пугу і пагнаў куды трэба. Пэўна, сагналі іх з Расіі, Украіны і Беларусі ў адзін вялікі славянскі хлеў і вось з'явілася амаль забытая "згушчонка". Ды не абыякая, а славянская! Ешце на здароўе!

Цётка, апярэдзіўшы маё пытанне, запэўніла, што згушчонка з Глыбокага, а не з Рагачова, не радыяцыйная, і каштуе ўсяго 3 тысячы. Што ж тут рабіць: і хочацца, і колецца. Дарагавата, але спакуса пакаштаваць новы прадукт перамагла. Малако, сапраўды, аказалася вельмі смачнае.

Не паспеў я з'есці гэтую славянскую згушчонку, як чую раніцай (8 лістапада) — выступае ў "Радыёфакце" вядомы мастак Аляксей Кузьміч. Ну, думаю, напэўна, намаляваў новую Мадонну, бо спецыялізуецца ён у гэтым жанры жывапісу. Ажно — не! Заклікае ён славян аб'ядноўвацца, уступаць у нейкую партыю. З вялікай перасцярогай гаварыў аб пагрозе нам, славянам, з боку Захаду, які разбурае наш славянскі свет, культуру і г. д. Трэба бараніцца! Асабліва звяртаўся ён да жанчын: каб перавыхоўвалі сваіх мужчын у славянскім духу. Ён так ганіў гэты Захад, што мне падумалася: чаму ж ён вазіў туды на выставу сваіх Мадоннаў? І чаму ж ён слова чужое, неславянскае, узяў для назвы сваіх твораў? Калі ён так супраць усяго заходняга, дык няўжо не змог знайсці слова-адпаведніка ў славянскіх мовах?

Размаўляў жа спадар Кузьміч у эфіры Беларускага радыё на рускай мове, як быццам наша мова не ёсць славянская. Ён так палка і шчыра заклікаў ствараць усюды славянскія ячэйкі, што прамовіў нават адно слова па-беларуску: "даже в каждой вёсачцы". Яшчэ раз пераконваў слухачоў, што Расія — адзіная, толькі называецца яна — Вялікая, Малая і Белая. За такое стараннe вядучы паабяцаў запрасіць яго яшчэ раз на "Радыёфакт".

Пераключыў я нацыянальнае радыё на другую праграму, а там дыктар акурат паведамляе, што "Славянский Собор" прапануе стварыць на тэрыторыі Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцей свабодную эканамічную зону з Расіяй. Амаль як у 21-м годзе, спачатку падзяліць Беларусь, а потым, як у 39-м, уз'яднаць. Толькі ўжо з Расіяй.

Слухаў я ўсё тое і думаў-разважаў. Што ж гэта робіцца? Да гэтай пары я быў упэўнены, што я ўжо па спадчынных генах — славянін. Але цяпер (пасля музычнага фестывалю "Славянский базар", пасля заклікаў "Славянского Собора" і мастака Кузьміча) пачаў сумнявацца. Гэта ж, аказваецца, каб быць сапраўдным славянінам, трэба аб'ядноўвацца з іншымі славянамі, уступіць у славянскую партыю, спяваць славянскія песні на базары, жыць у славянскай эканамічнай зоне і есці славянскую згушчонку. Няйнакш і з крызісу мы выйдзем толькі пасля славянскага аб'яднання. Будзем мець не толькі "Останкинскую колбасу", "Российский" сыр і аўтамабіль "Москвич", але і шмат іншых славянскіх прадуктаў харчавання і рэчаў.

Да ўсяго гэтага прапаную прыгнаць у наш славянскі хлеў таксама кароў з Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Славеніі, Сербіі ды Балгарыі, бо яны таксама славянскія. І тады славянскае згушчонае малако будзе яшчэ смачнейшае, а галоўнае — яго будзе болей, і тады не адна цётка каля універмага гандляваць будзе ім, а ва ўсіх крамах будзе яно прадавацца і не па спекулятыўнай цане.

**П. ЛУБОЎСКІ**

*г. Мінск*

ЛІМ
ЧАСАПІС



## ВІТАЛІ ЗЕМЛЯКІ...

**Нарадзіўся Алесь Рыбак у вёсцы Макаўцы Дзяржынскага раёна, але сталася так, што яму давялося парадніцца са Стаўбцоўшчынай. Рана застаўся без бацькоў – загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Выхоўваўся ў сям'і старэйшай сястры, заканчваў Мікалаеўшчынскую сярэднюю школу, якая цяпер носіць імя Якуба Коласа. Тым самым тутэйшая зямля Алесю Пятровічу дарагая і блізкая, а калі ўлічыць, што і лецішча ён мае непадалёку ад Стоўбцаў, дык можна сказаць стала прапісаўся ў Коласавых краях.**

**У Мікалаеўшчыне адзначыў А. Рыбак і сваё 60-годдзе. Спачатку былі ўскладзены жывыя кветкі да помніка незабыўнаму Якубу Коласу, а пасля ў памяшканні сярэдняй школы прайшлі ўрачыстасці.**

**Адкрыў сустрэчу дырэктар А. Каменка. Перад прысутнымі выступілі народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, аднакласнік і сябра Алеся Пятровіча У. Радкевіч, старшыня чарнобыльскага фонду "Палескі смутак" паэт М. Мятліцкі, Г. Шупенька, К. Цвірка, М. Маляўка, Я. Лецка, Я. Хвалей, А. Камароўскі, С. Белы, К. Жук, загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама А. Грэкаў... Яны гаварылі аб праўдзівасці прозы А. Рыбака, яе вялікай жыццёвасці.**

**З цікавасцю слухалі прысутныя самога віноўніка ўрачыстасці. А. Рыбак падарыў роднай школе бібліятэчку больш чым за 300 кніг, якія набыць яму дапамог фонд "Палескі смутак".**

**Адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці, у якім прынялі ўдзел школьныя артысты і калектыў са Стоўбцаў.**

## ПАКУТНЫМ ШЛЯХАМ



**Раніцай у Віцебску падаў дробны снег, а на Дзвіне ад берагу адрываліся тонкія крыгі льду. Апоўдні разам з боем гадзінніка на ратушы пачалася працэсія, аб якой загадзя інфармавалі расклееныя афішы чорнага колеру. Яны заклікалі не на палітычную маніфестацыю альбо партыйны мітынг, а запрашалі стаць сведкамі твора сучаснага мастацтва -- перформенсу, аўтарам якога стаў мастак Алесь Пушкін.**

**Мастацкая акцыя прысвячалася трагічнаму акту забойства уніяцкага полацкага біскупа Язафата Кунцэвіча ў лістападзе 1623 года. Пакутны шлях ад Успенскай горкі да берагу Дзвіны, пабудаваны праз мову метафар, вяртаў ад мінулых стагоддзяў да пытання недазволенасці фанатычнага насілля. Няспешна рухалася калона, над якой узвышаўся крыж, а крокі аголеных ступней мастака па асфальце сярод астраўкоў першага снегу пазбаўлялі акцыю штучнай тэатралізаванасці. Ля берагу чакаў човен, у якім Алесь Пушкін працягнуў свой сімвалічны шлях. Прысутныя доўга назіралі з берагу і моста безабаронны човен, які знікаў па цячэнню ракі...**

**Міхал БАРАЗНА**

## ЗАПРАШАЕ ДОМ ЛІТАРАТАРА

**"Сэрца, раскрытае насцеж" – юбілейная вечарына, прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння Язэпа Семяжона, запланавана на 1 снежня.**

**5 снежня пройдзе вечарына сучаснай ізраільскай паэзіі.**

**Магчымасць паразважаць пра жыццё і шматгранную адраджэнскую дзейнасць Язэпа Лёсіка, з дня нараджэння якога нядаўна споўнілася 110 гадоў, прадастаўляецца 7 снежня.**

**А 20 снежня – ушанаванне ўдзельнікаў конкурсу прыпевак "Жывы фальклор", арганізаванага газетай "Звязда" і фірмай "Дайнова".**

**Літаратары з перасяленцамі з чарнобыльскай зоны сустракаюцца 22 снежня – "Чарнобыль Чарнобылем, а жыць трэба!"**

**Хто любіць гумар, калі ласка, прыйдзіце 26 снежня на калядную вечарыну з аўцюкоўскімі жартамі.**

**Усе гэтыя мерапрыемствы пачынаюцца ў 18 гадзін 30 мінут.**

**Творчая ж вечарына пісьменнікаў Беласточчыны "Чаша" з прэзентацыяй кнігі Надзеі Артымовіч і Алеся Разанава "Дзверы: тэкст і кантэкст" пачнецца 13 снежня а 18 гадзіне.**

**Секцыя перакладу збіраецца на сваё чарговае пасяджэнне 21 снежня ў 15 гадзін.**

Пошта

# МОЖА І ПАВІНЕН НАЛЕЖАЦЬ -- ДЗЕЦЯМ!

Апошнім часам у Віцебску рэзка абвастрылася сітуацыя адносна лёсу былой Віцебскай мужчынскай гімназіі (вул. Крылова, 7). Становішча ўскладнілі захады Віцебскай епархіі Маскоўскага патрыярхата Рускай праваслаўнай царквы атрымаць гэты будынак ва ўласнае карыстанне. Фактычна адбываецца захоп будынка, бо ў "круглай" зале робіцца алтар, пачалі праводзіцца набажэнствы, выказаны намер наладзіць у будынку гандаль рэлігійнаю літаратураю.

На сённяшні дзень будынак па вул. Крылова, 7 знаходзіцца на балансе АП "Візас". На нарадзе сяброў АП "Візас", што мела месца 20.12.93 г., было вырашана адмовіць царкве ў бязвыплатнай перадачы ёй будынка. Але сёння карыстацца гэтым будынкам царква пачала з вуснай згоды кіраўніцтва АП.

Трэба адзначыць, што сёння ў Віцебску дзейнічаюць 5 праваслаўных цэркваў. Акрамя гэтага, Віцебскаму епархіяльнаму ўпраўленню ўжо перададзены шэраг будынкаў (вул. Б. Хмяльніцкага, 11/6; вул. Шубіна, 2; вул. Талстога, 15), якія з'яўляюцца помнікамі беларускага дойлідства, але дасюль не прыведзены да належнага стану. Трэба пагадзіцца з рэальнасцю – вострай неабходнасці ў будынках, якой можна было б растлумачыць дзеянні царквы, проста не існуе.

Гісторыя дадзенага будынка мае вялікую культурна-гістарычную значнасць для ўсёй Беларусі. Ён быў пабудаваны ў 1803 годзе для патрэб Народнага вучылішча. На вялікі жаль, у даведніцкай літаратуры былі надрукаваны памылковыя звесткі, што будынак з'яўляўся часткай Базыльянскага кляштара. Але сама дата пабудовы скасоўвае ўсялякія магчымасці гэткіх тэорый, бо Базыльянскі кляштар быў скасаваны ў 1799 годзе, а будынак узняўся на 4 гады пазней. У 1808 годзе Народнае вучылішча было ператворана ў губернскую мужчынскую гімназію, якая праіснавала ў ім да 1876 года.

Уражвае нават кароткі пералік імёнаў былых навучэнцаў Віцебскай гімназіі:

– Аляксандр Рыпінскі– беларускі і польскі паэт, фальклярыст, графік і кнігавыдавец;

-- Максіміліян Маркс, заарыштаваны па падазрэннях у сувязях з паўстанцамі 1863 года, пазней па крымінальнай адказнасці па справе Каракоза сасланы ў Сібір; ён заснаваў у Енісейску першую сібірскую метэастанцыю, пакінуў нам у спадчыну яшчэ і "Запіскі старога" -- цікавейшыя ўспаміны аб Віцебску 20-30-ых гадоў мінулага стагоддзя;

– Геранім Марцінкевіч – беларускі і польскі пісьменнік, перакладчык на польскую мову беларускіх народных песень, вершаў Гётэ і Лермантава;

– Каэтан Касовіч -- адзін з першых у Расіі санскрытэолагаў, сябра шматлікіх замежных навуковых таварыстваў, які прысвяціў сваё жыццё вывучэнню Усходу;

– Канстанцін Вераніцын – аўтар "Тараса на Парнасе";

– Аляксей Сапуноў -- выдатны беларускі гісторык і знаўца краю, аўтар цікавых і змястоўных прац па гісторыі Віцебшчыны...

Трэба абавязкова адзначыць, што гісторыя Віцебскай гімназіі непасрэдна звязана з развіццём мясцовага краязнаўчага руху. У розныя гады тут выкладалі такія знакамітыя краязнаўцы, як П. Шэйн, М. Нікіфароўскі, Е. Раманаў. А мастацтву маладыя віцябляне вучыліся ў І. Трутнева – заснавальніка малявальнай школы ў Вільні.

Такім чынам, у гісторыю Віцебска і ўсёй Беларусі будынак па вул. Крылова, 7 увайшоў як значны цэнтр асветы і адукацыі, з якім звязаны славутыя імёны беларускай, рускай і польскай гісторыі. Каштоўнасць гэтага будынка для беларускай культуры можа быць параўнана з роляй Царскасельскага ліцэя для Расіі.

У 1876 годзе будынак быў перададзены ў праваслаўнае ведамства і да 1917 года ў ім размяшчалася духоўная семінарыя. У 20-я гады тут быў адчынены палітэхнікум, падчас другой сусветнай вайны тут знаходзілася служба СД, а сутарэнні яго ператварылі ў турму.

Грамадскасць Віцебска неаднаразова выказвалася за перадачу будынка дзеля патрэб музейнай справы і адукацыі. І сёння мы яшчэ раз выказваемся за тое, каб гэты будынак быў уключаны ў культурнае жыццё краіны як аб'ект, знітаваны са сваім першапачатковым гістарычным прызначэннем. У гэтым унікальным будынку, звязаным з развіццём асветы і адукацыі на Беларусі, правамерна было б адчыніць музей гісторыі адукацыі альбо музей Віцебскай гімназіі, альбо дзеючы аб'ект адукацыі – ліцэй ці гімназію. Магчыма, варта было б з гэтае нагоды перадаць гэты будынак Міністэрству адукацыі, але ва ўсіх выпадках рашэнняў лёсу будынка, клопат аб ім – справа агульнадзяржаўная.

Мы выступаем супраць дзеянняў Віцебскай епархіі, накіраваных на выключэнне гэтага будынка са свецкага" кантэксту, на практычную змену функцыянальнага прызначэння і перапробку яго ў культавую ўстанову.

Будынак можа і павінен належаць толькі адной катэгорыі нашага грамадства, якой усімі законамі гарантуецца ўсё лепшае, а па сутнасці дастаўся чарнобыльскі пыл і нястача, але ад якой залежыць будучыня, – дзецям Беларусі.

Мы разумеем усе складанасці сённяшняга эканамічнага становішча нашай краіны і пры немагчымасці вырашыць гэтае пытанне на карысць дзяцей сёння, прапануем прыняць рашэнне на перспектыву і пакінуць сёння будынак у такім стане, як ёсць.

**Л. МІХНЕВІЧ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Віцебскага мастацкага музея,**
**Г. БЕБРЫНА,**
**экскурсавод мастацкага музея,**
**А. ПУШКІН, мастак,**
**П. САРАПЕНЯ, мастак,**
**У. МАТАРАС,**
**вядучы архітэктар "Віцебскпраектрэстаўрацыя",**
**В. ДАШКЕВІЧ,**
**акцёр тэатра імя Я. Коласа**
**і іншыя -- усяго 53 подпісы.**

Фестывалі

# ЯШЧЭ АДНА «ВОСЕНЬ...»

Кожны з нас, і мо неаднойчы, пераканаўся, што сёлетні лістапад – месяц непрадказальны, небяспечны, слушна вызначаны вучонымі як самы цяжкі жыццёвы прамежак у XX стагоддзі. Міжнародны фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень" пасвойму зведаў гэты цяжар. Традыцыйная папярэдняя сустрэча арганізатараў свята з журналістамі прыпала на той шалёны будзень, калі наша сталіца прачнулася, скаваная балючай лядоваю сутаргай... Адкрыццё "Восені" было пазбаўлена заўсёднага ўрачыстага бляску, і цікавая прэм'ера – Шостая сімфонія А. Янчанкі "Апакаліпсіс" (для чытальніка, ансамбля салістаў, хору ды сімфанічнага аркестра) – не атрымала належнага грамадскага рэзанансу... Пярэдадзень наступнага канцэрта складваўся неспрыяльна: прарочылі ці не правал. Бо здарылася тое, што і прадбачыць было нельга: напярэдадні фестывальнага выступлення знаны мінскі калектыў – аркестр духавых інструментаў "Няміга" застаўся без дырыжора.

Не будзем шукаць вінаватых, але факт ёсць факт: мастацкі кіраўнік "Нямігі" А. Берын у выніку непаразуменняў з калектывам пакінуў пульт. Што гэта: часовая сітуацыя ў творчым жыцці, на якую можна й не зважаць? Або – глыбокі катаклізм з непапраўнымі наступствамі?.. Як бы там ні было, а канцэрт "Нямігі" значыўся ў афішы "Беларускай музычнай восені", яго чакала публіка... І што ж? Канцэрт адбыўся!

За неверагодна сціслы рэпетыцыйны тэрмін у праграму ўвайшлі новыя салісты і -- новы дырыжор. Дакладней, гэта быў дэбют у якасці дырыжора духавога аркестра – дэбют знанага маэстра Анатоля Лапунова, які сёння ўзначальвае Сімфанічны аркестр Беларускага радыё. Калі б ён толькі "ўратаваў" гонар фестывальнага мундзіра, правёўшы канцэрт, якому была ўжо наканавана адмена, – ужо тады А. Лапуноў заслужыў бы шчыры паклон усіх добрых людзей, неабыякавых да мастацкага жыцця. Але ж маэстра быў у той вечар, здаецца, на вяршыні свайго прафесіяналізму, натхнення, самааддачы, і таму так горача падтрымлівала зала кожны нумар праграмы, і таму так часта чулася персанальнае: "Брава Лапунову!"

"Брава" -- за магутнае гучанне марша з балета "Спартак", "брава" -- за годнае партнёрства з дэбютантам-салістам М. Бабровым у "Канцэрціна для кларнета" К. М. Вебера, "брава" – за іскрысты артыстызм у адмысловых рытмічных віражах твораў Г. Хіменэса, А. Журбіна, Э. Фарберава... Цеплыню глядацкай удзячнасці адчула і салістка оперы Т. Кучынская, удзельніца праграмы, і брасквінтэт (ансамбль музыкантаў "Нямігі") пад кіраўніцтвам выдатнага трубача В. Волкава...

Воклічамі "брава!" зала філармоніі поўнілася і наступным вечарам, падчас канцэрта з твораў А. Шнітке, наладжанага ў гонар 60-годдзя сусветна прызнанага Майстра. Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі дырыжыраваў госць фестывалю, даўні сябра нашых музыкантаў і ўлюбёнец беларускай публікі, сталы ўдзельнік музычных імпрэз у Полацкай Сафіі, -- Валеры Палянскі. Салíравалі як мінскія музыканты, так і госці: скрыпачы І. Бачкова, С. Яковіч, М. Штэйн, фартэпіянны дуэт Н. Сцяпанава ды В. Баравікоў.

"Восень" прабудзе да 30 лістапада і правядзе па музычных сцэнах краіны досыць прывабны (але без колішняй традыцыйнай помпы) парад салістаў, мастацкіх калектываў, дырыжораў. Дай Бог кожнаму Артысту пачуць у гэтыя дні нестрыманы голас удзячнай публікі: "Брава, Маэстра!"

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

Анонс

# "МЕТАМАРФОЗЫ ЧАСУ"



1 снежня ў Зале камернай музыкі Белдзяржфілармоніі адбудзецца першы аўтарскі канцэрт Аляксандра Літвіноўскага. Праграма вечара абяцае быць насычанай і цікавай. У сваёй творчасці малады і ўжо досыць вядомы беларускі кампазітар А. Літвіноўскі абапіраецца на багатую спадчыну нашай старажытнай культуры, прытым не ўяўляючы сабе беларускую музыку ў адрыве ад сусветнай традыцыі. Шырокая эрудыцыя, бесперапынны творчы пошук і яркі мастакоўскі талент дазваляюць А. Літвіноўскаму працаваць у розных напрамках -- ад камернага да сімфанічнага, ад акустычнага да электроннага, ад традыцыйнага да авангарднага. У праграме гэтай тэатралізаванай імпрэзы, названай "Метамарфозы часу", і вядомыя, і зусім новыя творы, якія ўнясуць у атмасферу вечара асаблівы, прэм'ерны настрой. Арганізавала імпрэзу музыказнаўца І. Шайхатовіч. Раім паруліцца пра білеты – сустрэча з музыкай А. Літвіноўскага абяцае адкрыцці!

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

# КАНФЛІКТ НА МАРАСЕЙЦЫ

## ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА АДКРЫТАГА ЛІСТА

*"Чаго ж ты хочаш ад тых,*
*якія спяць?"*
*"Не такі я бедны, каб даваць".*

*Ф. НІЦШЭ*

Ідучы па Марасейцы (былой вуліцы Б. Хмяльніцкага), за нумарамі я не сачыла: спадзявалася пазнаць наша пасольства па бел-чырвона-беламу сцяжку. А "пазнала" па міліцэйскай будцы і шыльдзе. Сцяг, як мне сказалі, знаходзіцца высока на купале дома-палаца, і з вуліцы ён не відзён. Мабыць, яго бачаць зоркі на небе ды жыхары бліжэйшых высокіх дамоў.

Мяне прывёў у Маскву адкрыты ліст рады Таварыства беларускай культуры за подпісамі Генадзя Леха і Таісы Мішчанкі ("ЛіМ" за 21.10. г.г.). Нам падалося, што ўзнятыя ў лісце пытанні досыць сур'ёзныя і патрабуюць непасрэднага карэспандэнцкага ўмяшання. Ведаючы меркаванне аднаго боку, пажадана выслухаць і другі — пасольства РБ у Расійскай Федэрацыі. Не лішне разабрацца ў дэталях канфлікту, і ўвогуле пагляДдзець, што за людзі прадстаўляюць інтарэсы Беларусі ў суседняй дзяржаве.

Адметнасць становішча большасці дыпламатычных супрацоўнікаў — пазнака "выконваючыя абавязкі", бо амаль усе яны — грамадзяне Расійскай Федэрацыі. Падвойнага грамадзянства для падобных выпадкаў у законе РБ не прадугледжана, а мяняць грамадзянства (і прапіску) не выпадае: у адных сем'і тут, другія на пенсію збіраюцца і г. д. Акрамя таго, не адпрацаваны сам механізм змены грамадзянства, ён звязаны са шматлікімі бюракратычнымі цяжкасцямі. Так, ва ўсякім разе, мне тлумачылі гэтае сакраментальнае "в/а".

Як і паўсюль, людзі ў пасольстве "хорошие и разные", і адкрыты ліст яны ўспрынялі па-рознаму: адны — з алімпійскім спакоем, другія аспрэчвалі пэўныя моманты, трэція крыўдавалі. Што гэты дом асяродкам беларушчыны не з'яўляецца — не іх асабістая віна, а вынік, скажам так, кадравых традыцый. Што традыцыі трэба мяняць — зноў жа не іх турбота. Ці здолеюць гэтыя людзі ўсвядоміць новыя грамадскія патрэбы і адпавядаць ім — пытанне адкрытае.

Шмат цікавага я даведалася пра тое, хто як разумее задачы і мэты пасольства. Прэсаташэ А. Гарагляд, напрыклад, лічыць, што іх ведамства абавязана праводзіць лінію ўрада — хто б гэты ўрад ні ўзначальваў, Кебіч або Пазняк; усялякая іншая дзейнасць будзе супрацьзаконнай. Выконваючы абавязкі саветніка пасланніка В. Азаронак мяркуе трохі інакш: пасольства — выканаўчы орган Міністэрства замежных спраў РБ і карыстаецца ў сваёй дзейнасці выключна яго ўказаннямі.

Не цяжка зразумець, што пасольства ўласнай палітыкі не выпрацоўвае і з'яўляецца па сутнасці сколкам з нашых тутэйшых кіраўнічых структур. Цяжэй акрэсліць межы самастойнасці і дапушчальнай ініцыятывы. Спасылацца на вышэйстаячых у дадзеным выпадку рызыкоўна, інакш можна падумаць, што гэта з Мінска загадалі па магчымасці тармазіць справу з памяшканнем для суайчыннікаў.

З памяшканнем пытанне блытанае і мае сваю прадгісторыю. Некалі планавалася аддаць пад культурны цэнтр старадаўні палац графа Румянцава-Задунайскага, дзе размешчана пасольства, а новы будынак для яго ўзвесці ў двары, побач. Выстаўляліся і праекты нацыянальна-культурнага цэнтра — беларускага і маскоўскага архітэктараў. За гэты час (адлічваем ад пачатку перабудовы) грузіны паспелі атрымаць ад мясцовых улад тры будыніны на старым Арбаце, адкрыліся многія іншыя нацыянальныя цэнтры, школы, садкі, тэатры, мастацкія галерэі. Выйграў той, хто паварушыўся і паспеў уладкавацца да лета 1991 года. Сёння ўступілі ў сілу законы рынку, дарма ўжо ніхто нічога не дае, і без долараў нікуды не патыкайся.

Парадокс заключаецца ў тым, што пастпрэдства не здолела скарыстаць у поўным аб'ёме нават выдзеленыя маскоўскімі ўладамі будынкі, што размешчаны ў двары. Не адключаць жа — зноў тлумачаць мне — электрычнасць і ваду, каб выжыць усе дробныя арганізацыі, што там атабарыліся. Не клікаць жа "Амон" на дапамогу... Ды і хто будзе ваяваць дзеля ТБК, калі з гэтым самым ТБК адносіны ўсё горш і горш?

Тут мы падышлі да самага балючага і прыкрага. З вясны гэтага года пасольства РБ і актывісты ТБК знаходзяцца амаль што ў стане "халоднай вайны". Апошнія не забіраюць нават пошту, што прыходзіць у пасольства на іх імя, і адмовіліся сустракацца з карэспандэнтам "ЛіМа" ў доме на Марасейцы. Кожная з пазіцый, якую я спрабавала высветліць, асвятлялася з розных бакоў па-рознаму, дыяметральна супрацьлеглым чынам. Вось як прыблізна гэта выглядае.

— Дапамагалі таварыству ў правядзенні культурных мерапрыемстваў, садзейнічалі фінансава...

— Не дапамагалі і не садзейнічалі, не прымаюць удзелу ў імпрэзах...

— Яны мелі ў нас свой пакой і страцілі яго з-за сваіх некарэктных, скандальных паводзінаў...

— Нас выжылі з пакоя старой мэбляй і скрынямі з гуманітарнай дапамогай, бо не хочуць мець з беларусамі справу...

— З усімі ранейшымі кіраўнікамі суполкі мы ладзілі і працавалі сумесна...

— Ніколі не было нармальных стасункаў, яны заўжды глядзелі на нас як на ворагаў.

(З выказванняў пасольскіх супрацоўнікаў: "Калі глядзець як на ворагаў, то ніякіх адносінаў, акрамя "Добры дзень", быць не можа"; "Усе, хто прыходзіць да нас з канструктыўнымі прапановамі, а не з патрабаваннямі "Далоў!" і "Дайце!", супрацоўнічаюць з намі".)

Няўжо гэта той выпадак, калі ў кожнага свая праўда?!

Адзначым, што дзейнасць пасольства засяроджана пераважна на эканамічных пытаннях, праблемамі суайчыннікаў займаецца практычна адна Р. Мануйлава, саветнік па культуры. У сферы яе ўвагі, акрамя таго, — асвета, навука, ахова здароўя (?), сацыяльная сфера, уся перапіска і інш. (Для параўнання: ва ўкраінскім пасольстве "на культуру" працуюць яшчэ рэферэнт і сакратар). Вось чаму выпад у адрас Мануйлавай у адкрытым лісце многім здаўся самым несправядлівым.

Што папярэднія старшыні ТБК дарогу ў гэты дом ведалі і агульную мову знаходзілі — чыстая праўда. Але да кіраўніцтва тут зараз прыйшлі маладзейшыя, у большасці — прыхільнікі БНФ. Яны не прывыклі гнуцца ды прасіць, а лічаць нармальным — патрабаваць. З'явіўся яшчэ адзін істотны фактар для непрымірымасці — фактар палітычны. Ён унёс раскол і ў само таварыства імя Скарыны, дзе многія не прымаюць накірунку і метадаў дзейнасці цяперашніх членаў рады.

Пачутае ад людзей старэйшага веку я зараз коратка перакажу. Ідэйным бацькам згуртавання беларусаў Масквы быў Аляксей Каўка — надзвычай аўтарытэтны і сумленны чалавек. З цягам часу, аднак жа, ён адышоў убок, нічога нікому не патлумачыўшы. Радыкалізм моладзі, як паказвае жыццё, не на карысць агульнай справе. Калі беларусаў дзеляць на "праведных" і "няправедных" па моўнай прыкмеце, то гэта толькі адштурхоўвае людзей. Ведаюць яны мову ці не — няхай бы прысутнічалі, пранікаліся беларускім духам. На жаль, былі выпадкі, калі з-за мовы ўсчыняліся скандалы з вахцёркамі, з артыстамі, што прыязджалі з Мінска. Мерапрыемствы палітызаваліся, можна было пачуць выразы тыпу "Мы жывём на варожай тэрыторыі" і да т. п. Хіба ад былога сервілізму трэба кідацца адразу ў фобіі?

Пра факт адкрытага ліста былы вайсковы будаўнік Антон Сабалеўскі выказаўся так: "Закінулі чмяля пад кашулю...".

Такім самым "чмялём", калі не большым, была сакавіцкая маніфестацыя ля пасольскіх сцен, накіраваная супроць урада Кебіча, адзінай рублёвай зоны і нежадання амбасады займацца справамі дыяспары. Дзеля такога выпадку запрасілі прэсу. Запахла не толькі палітыкай, але і міжнародным скандалам, і дыпламаты адчулі сур'ёзную небяспеку для свайго рэнаме, а мо і кар'еры.

Сёння тут размежаванне выразнае: **"Мы"** і **"Яны"**. Пры ўсіх дэкларацыях і запэўніваннях некаторыя моманты бянтэжаць. Ну хаця б наступны. Супрацоўнік консульскага аддзела: "Мы газеты чытаем. У Беларусі вунь бацькі бастуюць, каб па-беларуску дзяцей не вучыць, а мы тут школы адкрываць будзем". (пераклад мой. — Г. К.).



*Малюнак А. ГУРСКАГА*

Да адкрыцця школкі, якая так і не адкрылася, ён, спадзяюся, не меў адносін, але ж логіка якая!

Другі, сам родам з Палесся, у гаворцы назваў беларусаў "кроўнымі братамі". Я аж перапытала, вушам не паверыўшы. Так і ёсць, мы для яго — браты. Відавочна, штось у свядомасці гэтага чалавека незваротна зрушана, і зрушана не ў той бок, які — даруйце за таўталогію — на карысць нашаму боку.

Трэці дыпламатычны работнік увогуле абыходзіцца без сантыментаў: "Усе яны грамадзяне Расіі, і дапамагаць ім павінна расійская дзяржава" (І дапамагае, да слова кажучы).

Звярніце ўвагу: перад вамі казырны аргумент многіх дыпламатычных прадстаўніцтваў — не толькі беларускага і не толькі ў РФ.

А цяпер згадайце ўсю нашу адраджэнскую рыторыку — "Айчына", "Бацькаўшчына", "родная мова" — і станьце на месца маскоўскіх беларусаў. Няма ні культурнага цэнтра, ні проста памяшкання, дзе магла б гуртавацца беларуская дыяспара. Сустрэчы па кватэрах патыхаюць партызаншчынай, на іх не ўсякі пойдзе. Кожную капейку для дзейнасці трэба недзе выпрошваць, "свае" бізнесмены ў белакаменнай ёсць, але ТБК, "Пагоні", "Бацькаўшчыне" грошы пакуль не прапаноўвалі. Дапамога спарадычная, у асноўным па лініі Міністэрства культуры і друку Беларусі.

Давайце ж падсумуем.

У адных — голыя эмоцыі, у другіх — фармальная логіка.

У адных — безграшовы грамадскі клопат, абіванне парогаў і мітрэнга, у другіх — стабільнае існаванне на акладзе (хай сабе і рублёвым, а не доларавым), прэстыжнасць дзяржаўнай службы.

У адных — абвостранае адчуванне нацыянальнай адрознасці, жаданне быць карыснымі радзіме, у другіх — камфорт злітнасці з іншай ментальнасцю.

Дык ці роўныя яны ў гэтым чыста беларускім канфлікце — дзяржаўнае ведамства і грамадская, не дужа з'ядналая суполка? І хто з іх у большай ступені павінен валодаць Божым дарам дыпламатыі?

Пра адсутнасць у нас, беларусаў, гэтай карыснай для жыцця якасці варта паразважаць асобна.

Дзе трэба патлумачвацца, даказваць сваю рацыю, там мы адыходзім убок, замыкаемся ў сабе. Дзе трэба знаходзіць чалавечыя падыходы, там казыраем ідэяй ды цешымся сваёй сярмяжнай праўдай. Дзе трэба ісці ды кантактавацца асабіста, трацім час на перапіску — праз пошту ці праз газету.

Філіі БНФ у Маскве ў гэтым сэнсе ёсць з каго браць прыклад — з самога БНФ, які пасля І тура прэзідэнцкіх выбараў адпрэчыў Грамаду, які нават з БЗВ умудрыўся займець рознагалоссі і разысціся.

Але ж ніякай асаблівай дыпламатыі ў адносінах да суполкі не праявіла і дыпламатычная ўстанова. (Прыкладаў, ва ўсякім разе, прывесці не магу). І не толькі з-за "чалавечага фактара". Не забудзьма, што пасольства вырасла з былога гандлёвага прадстаўніцтва і па функцыях, змесце работы дагэтуль ім у значнай меры з'яўляецца. Адсюль старыя падыходы і псіхалагічныя стэрэатыпы. Якая дыяспара магла быць да Гарбачова?! Само слова не так даўно ўзбагаціла наш лексікон. Аднак сітуацыя мяняецца, Беларусь перажывае перыяд станаўлення дзяржаўнасці, адбываецца працэс адрыву ад колісь маналітнага імперскага мацерыка. Пара ўжо выпрацаваць знешнепалітычную канцэпцыю ў адносінах да дзяржаў "бліжняга замежжа", сыходзячы з дзяржаўных прыярытэтаў, а не панславянскіх ці савецкіх перажыткаў. І калі ў Міністэрстве замежных спраў РБ гавораць пра абарону правоў дыяспары як пра галоўны клопат **любога** пасольства, то сказанае не вельмі стасуецца з тым, што мы маем у Маскве.

Нядаўна ў нашай прэсе прайшла інфармацыя пра тое, што беларуская абшчына Малдовы выказала публічную падзяку тамтэйшаму прадстаўніцтву і ўраду РБ за клопат і дапамогу маламаёмасным сем'ям. Відаць, не ўсюды чакаюць "указанняў", каб зрабіць добрую справу...

Беларуская дыяспара паўсюль слабая і разрозненая — то асаблівасць менталітэту. Яна такая, якая ёсць, і трэба з ёй супрацоўнічаць найперш па службовым абавязку, калі не па асабістых сімпатыях. З другога боку, дзеля агульнай справы шчырым беларусам таксама варта было б "паступіцца прынцыпамі", не абвастраць канфліктаў, не ставіць палітычныя погляды вышэй за культурна-асветніцкія задачы.

Хто мог бы праводзіць больш ураўнаважаную і канструктыўную палітыку ў асяроддзі беларускай дыяспары, тыя ці занялі пазіцыю назіральнікаў, ці ўвогуле ігнаруюць зямляцкія пачуцці і пятую пашпартную графу. У прыватнасці, былая наменклатура, якая дзесяцігоддзямі" вымывалася" з Мінска і дасюль знаходзіцца на кіруючых пасадах, не мае душэўнай патрэбы ў арганізацыйным аб'яднанні і скакаць праз вогнішча на Купалле наўрад ці пойдзе. Тым не менш, іх спрыянне, іх дапамога, іх уплыў у сваіх сферах не былі б лішнімі для Рэспублікі Беларусь. Няхай сабе пазней за іншыя, але беларуская дыяспара ў Расіі ўсё роўна вызначыцца і заявіць пра сябе на поўны голас. Вось чаму так важна з боку нашага ўрада і Міністэрства замежных спраў і мець інфармацыю пра гэты аспект дыпламатычнай дзейнасці, і паспрыяць згуртаванню беларусаў блізкага замежжа — дзеля заўтрашняга дня, дзеля будучага нашай дзяржавы.

А што самім фактам адкрытага ліста вынесена "смецце з хаты" — не страшна. Чысцей будзе!

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*Масква—Мінск*

## "І ЗНОЎ Я ДОМА, ДОМА, ДОМА..."

**Гэтыя радкі Алеся Каско як нельга лепш стасаваліся да сустрэчы з ім, што прайшла ў Ганцавічах. Па ініцыятыве супрацоўнікаў цэнтральнай раённай бібліятэкі і настаўнікаў СШ N1 адбылася прэм'ера кнігі А. Каско "Час прысутнасці". Сваімі ўражаннямі ад твораў віноўніка ўрачыстасці падзяліліся В. Сахарчук, супрацоўнік раённай газеты К. Мохар, загадчык аддзела абслугоўвання бібліятэкі В. Шаламіцкая, а настаўнік І. Бондар прапанаваў уласныя песні на вершы А. Каско, якія падхапіла зала.**

**Алесь Каско прачытаў свае творы, адказаў на шматлікія пытанні, пазнаёміў прысутных з дзейнасцю Брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, адказным сакратаром якога з'яўляецца.**

**Т. ВАЛУЕВІЧ**

## НАЙПЕРШ НАСТАЎНІКАМ

**спатрэбіцца кніга В. Ляшук "Вывучэнне беларускай літаратуры ў школе", дарогу якой да чытача дало выдавецтва "Універсітэцкае". У першай частцы дапаможніка гаворка ідзе пра творы, што з'явіліся ў дваццатыя гады, якія, безумоўна, сталі адраджэнцкімі і хоць яны нядоўга працягваліся, тым не менш мелі важкі плён. Паколькі аўтарам жанр выдання вызначаны, як гісторыка-метадычны нарыс, беларуская літаратура разглядаецца як вучэбны прадмет. У другой частцы ад канца 20-х гадоў да пачатку вайны. Каштоўнасць кнігі і ў тым, што ў ёй змешчаны артыкулы, прысвечаныя І. Замоціну, М. Каспяровічу, І. Самковічу, якія, як вядома, вельмі шмат зрабілі, даючы метадычныя парады, як вучаць беларускую літаратуру ў школе, а таксама вышэйшых навучальных установах.**

## ДЗЯКУЙ СПОНСАРАМ!

**Спонсары, мецэнаты, фундатары... Гэтыя словы пакрысе прыжываюцца ў нашым быце, асабліва ў асяродку творчай інтэлігенцыі, у прыватнасці, пісьменніцкай. Сапраўды, хіба ж маглі б пісьменнікі Магілёўшчыны выдаць калектыўны мастацка-літаратурны зборнік-альманах "Дняпроўскія хвалі", калі б не фінансавая падтрымка аблвыканкама і гарвыканкама, прафкама вытворчага аб'яднання "Хімвалакно", абласнога таварыства "Кніга"?!**

**Выйшла кніжка ў свет і зноў знайшлася справа для спонсараў. Магілёўскае малое прадпрыемства "АРГО" выкупіла 500 экземпляраў гэтага зборніка і перадало школам горада ў якасці свайго дарунка.**

**Зараз абласное аддзяленне СП Беларусі рыхтуе чарговы выпуск згаданага зборніка. Хочацца спадзявацца, што і гэтым разам адгукнуцца спонсары.**

**А пакуль вялікі дзякуй калектыву прадпрыемства "АРГО" і асабіста яго дырэктару Генадзю Гузія.**

**І. АНОШКІН,**
**сакратар Магілёўскага абласнога аддзялення СП Беларусі**

## СКАЗ ПРА ГЕРОЯЎ

**Журналіст-краязнаўца, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Уладзімір Ліхачоў, які пражывае ў Полацку, не адзін год аддаў збору матэрыялаў пра ўраджэнцаў горада і Полацкага раёна, удастоеных ганаровага звання Героя Савецкага Саюза. Нарысы, прысвечаныя лёсам семнаццаці чалавек, увайшлі ў кнігу "Героі-палачане", прадмову да якой напісаў пісьменнік Герман Кірылаў. Кнігу выпусціла полацкая друкарня імя Ф. Скарыны, а каб гэтае выданне змагло пабачыць свет парупіліся спонсары: вытворчае аб'яднанне "Шкловалакно", швейная фабрыка, камбінат хлебапрадуктаў, фабрыка мастацкіх вырабаў і іншыя прадпрыемствы Полацка.**

## КАЛЯ ПАЎТАРЫ ТЫСЯЧЫ СЛОЎ

**уключае "Слоўнік з малюнкамі" Міколы Яленскага, што пабачыў свет у выдавецтве "Народная асвета". Гэта унікальнае выданне, безумоўна, акажа добрую паслугу вучням у авалоданні роднай мовай. Семантызацыя беларускіх слоў прыводзіцца праз малюнак, кантэкст, а, пры неабходнасці, даецца і апісанне. У якасці кантэксту ў асноўным выкарыстоўваюцца творы беларускіх паэтаў, а таксама прыказкі, прымаўкі.**

*Крытыка*

# ЗВОНЯЦЬ СПЕЛЫЯ КАЛАСКІ

Колькі год назад на старонках "ЛіМа" крытык С. Кавалёў з сумнівам разважаў пра мастацкую якасць літаратурных казак для дзяцей, марыў пра свой беларускі "Залаты ключык". "А варта пашукаць!" — пярэчачы С. Кавалёву, заклікала даследчыца дзіцячай літаратуры М. Яфімава. З вуснаў рускамоўных мам і татаў увогуле неаднойчы прыходзілася чуць пра беднасць ды непаўнавартасць нашай дзіцячай літаратуры ў параўнанні з рускай. Маўляў, няма на беларускай мове твораў, падобных да шэдэўраў А. Барто, К. Чукоўскага, С. Маршака... Гэткі нігілізм можна зразумець, вытлумачыўшы яго не толькі моўнай праблемай. Ці багата, скажам, новых выданняў дзіцячай класікі вы сустрэнеце на гандлёвых паліцах? Для імпэтна-сцвярджальнага адказу, здаецца, падстаў няма. Да таго ж, трэба прызнаць, што ў рукі бацькоў і іхніх дзетак трапляюць і пасрэдныя кніжачкі, па якіх робіцца выснова пра вартасць усяго беларускага дзіцячага пісьменства. Часам пры пасадзе ці сяброўскіх сувязях нараджаецца чарговы пісьменнік-выхавацель дзіцячых душ, хоць яму на самай справе лепш было б не мучаць пяро.

Калі б мая воля, то ў цяперашні час, калі пакрысе зварушваецца нацыянальная свядомасць грамадства, я б аб'явіў выданне беларускай дзіцячай класічнай спадчыны адной з першачарговых, прыярытэтных нацыянальна-дзяржаўных праграм. Трымаючы ў руках два тамы новай чытанкі для дзяцей "Залатыя каласкі", нібы і пераконваешся, што ў нашым цяжкім крызісным жыцці кнігавыдавецкая палітыка ў адносінах да юнага пакалення Беларусі пачынае мяняцца ў лепшы бок. Зрэшты, яшчэ крыху раней каліва аптымізму ў маёй душы збудзіў зборнік "Свяці, свяці, сонейка", які сёлета паклаў пачатак выхаду дзесяцітомнай бібліятэкі беларускай дзіцячай літаратуры.

Чытанка-хрэстаматыя "Залатыя каласкі" ўяўляе сабой своеасаблівую анталогію беларускай дзіцячай літаратуры. Перадусім яна складае плён вуснай творчасці нашага народа, а таксама працы шматлікіх нашых пісьменнікаў XIX—XX стст. Больш за 100 літаратурных імёнаў прадстаўлена тут: ад тых, хто стаяў ля вытокаў станаўлення дзіцячага слоўнага мастацтва, да сённяшняга маладзейшага пісьменніцкага пакалення. Калі творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, Цёткі, Я. Журбы стала прапісаліся ў беларускіх чытанках і хрэстаматыях па дзіцячай літаратуры, то лепшыя ўзоры з творчай спадчыны Я. Лучыны, Ядвігіна Ш., К. Лейкі, В. Ластоўскага, А. Гаруна, З. Верас, Л. Чарняўскай, Г. Леўчыка ў нашы дні яшчэ толькі пачынаюць выходзіць на старонкі падобных выданняў — і найперш дзякуючы такім кнігам, як "Залатыя каласкі". Сёння, напрыклад, мы разумеем, чаму замоўчвалася імя В. Ластоўскага. Здаецца, толькі ў замежжы пра яго ўспомнілі як пра пісьменніка, што пісаў для дзяцей. Ён друкаваўся ў зборніку "Беларускія казкі", выдадзеным у другой палове 50-х гг. у Мюнхене. Толькі нядаўна зноў адбылося знаёмства з творчасцю для дзяцей А. Гаруна. Не вельмі аблашчанымі ўвагай складальнікаў буквароў і чытанак былі З. Верас і Л. Чарняўская — руплівыя асветніцы, якія не толькі пісалі выдатныя дзіцячыя творы, але і праяўлялі дзейсны клопат пра выданні для маленькіх чытачоў. Пры канцы 80-х у "Хрэстаматыі па беларускай дзіцячай літаратуры", складзенай М. Шаўлоўскай, праўда, змешчаны асобныя раздзелы, прысвечаныя А. Гаруну і З. Верас.

У "Залатых каласках" не засталіся па-за ўвагай па-мастацку самабытныя вершы і апавяданні пісьменнікаў 20—30-х гг.: У. Дубоўкі, Я. Пушчы, У. Галубка, А. Александровіча, П. Труса, А. Жаўрука і інш. І ўжо сапраўды чытанка каласіцца багаццем імёнаў і твораў сучасных аўтараў. Каб пералічыць іх усіх, спатрэбіцца нямала газетнай плошчы. Прытым адчуваецца, што ў складальнікаў (а імі з'яўляюцца супрацоўнікі Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей М. Федасеенка, Г. Разанава, Т. Прохарава, Н. Янушкевіч) няма асаблівых сімпатый і антыпатый. Нашы жывыя класікі і "аблаўрэачаныя" прадстаўнікі дзіцячай літаратуры ніяк не зацямняюць таленавітых твораў іншых пісьменнікаў. І што нельга не адзначыць, дык гэта ўменне адабраць яркія бліскаўкі з творчага наробку маладзейшага пакалення, якое сёння даволі плённа працуе на ніве дзяцячага слоўнага мастацтва. Імёны У. Ягоўдзіка, С. Сокалава-Воюша, Л. Пранчака, Г. Івановай, У. Мазго, А. Бадака і некаторых іншых ужо не адзін год на слыху тых, хто сочыць за развіццём мастацкай творчасці для дзяцей.

У чытанцы выбраны тэматычны (1-ая кніга) і жанравы (2-ая кніга) прынцыпы ўкладання. Такі падыход бачыцца найбольш аптымальным і, як думаецца, добра акрэслівае прадмет цікавасці як для малых чытачоў і слухачоў, так і выхаваццеляў садкоў, настаўнікаў пачатковых класаў, якія намерыліся правесці ранішнік, конкурс чытальнікаў, канцэрт альбо сабраліся з дзецьмі проста пачытаць.

Гэта проста выдатна, што "Залатыя каласкі" пачынаюцца з твораў пра мінулае беларускай зямлі. У раздзеле "З нашай мінуўшчыны" фальклорныя паданні і легенды, а таксама творы, напісаныя літаратарамі, апавядаюць пра паходжанне старажытных гарадоў, азёр і рэк, дзён тыдня, раслін і жывёл. Далей гучаць шчырыя і пранікнёныя песні пра родны край, нашу Бацькаўшчыну-Беларусь (раздзел "Мой чароўны беларускі край"). Маці ў вершах Я. Купалы, З. Верас, Д. Бічэль-Загнетавай адкрывае дзіцячай душы свет радзімы. Як на маё ўспрыманне, дык зусім не ўпісваюцца ў гэты раздзел верш Л. Парэмскага "Турнір" пра шпакоў і апавяданне Я. Брыля "Жыў-быў вожык".

Наступныя чатыры раздзелы першага тома склалі вершы і апавяданні пісьменнікаў пра поры года. Гэта своеасаблівы мастацкі каляндар прыроды, напоўнены паэтызацыяй характва, дзівоснасці навакольнага свету. Вельмі арганічна і дарэчы тут пададзены народныя прыкметы пра надвор'е ў розныя часіны года. Завяршае першы том раздзел "Калі рана ўстанеш", дзе сабраны творы разнастайнай тэматыкі. Урывак "Раніца ў нядзельку" з "Новай зямлі" Я. Коласа, як мы памятаем, жыва, з гумарам узнаўляе дзіцячы сняданак. Творы М. Танка "Лемантар", Е. Лось "Сонечныя літары", П. Пранузы "Мяккі знак" уводзяць у чароўны свет мовы. Праўда, у "Лемантары" ўкладальнікам (а яшчэ раней самому М. Танку) не зашкодзіла б патлумачыць сэнс слоў тыпу "ёўня", "жур" і інш. На многіх старонках чытанкі з добрым веданнем дзіцячай псіхалогіі апавядаецца пра норавы хлопчыкаў і дзяўчынак, іхнія ўзаемаадносіны з дарослымі, іхнія мары-жаданні, працавітасць і гультайства, свавольства і гарэзлівасць (творы В. Віткі, Э. Валасевіча, М. Чарняўскага, Я. Бяганскай, У. Юрэвіча, П. Макаля, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, В. Гардзея, Л. Арабей, Г. Каржанеўскай, М. Дуксы...). Надзвычай кранальна напісаны вершы і апавяданні пра самых любімых людзей на зямлі — нашых мам і бабуль ("Маці і дзеці" К. Лейкі, "Мама" А. Бачылы, "Бабулі" А. Дзеружынскага, "Маме" Э. Агняцвет, "Самая лепшая" У. Карызны). У заключным раздзеле шмат змешчана па-мастацку ўражлівых твораў пра жывёл і звяроў, жыццё і паводзіны якіх выклікаюць адухоўленае суперажыванне. Аднак, як падаецца, не дацягваюць да анталагічных, узорна-яркіх твораў вершы "Хлебная скарынка" А. Дзеружынскага, "Пра абавязкі" В. Жуковіча, "Папрашайка" і "Кузня дзятла" Л. Парэмскага.

Асабіста я не ў захапленні ад агульнага ўзроўню вершаў Л. Парэмскага. Цікава, ці чытанка адкрывае нам новае імя ў дзіцячай паэзіі, ці гэта чарговы псеўданім ужо вядомага паэта? (Такія выпадкі ў літаратуры маюць месца). Як бы мы ні губляліся ў здагадках, відавочна, што Л. Парэмскаму бракуе яркасці апавядання, моўна-стылёвай выкшталцонасці, мастацкага густу:

**Кот Мурлыка справу знае:**
**Ён заўсёды рыбакоў**
**Каля возера стракае,**
**Каб займець і свой "улоў".**
**Ці цудоўная пагода,**
**Ці ўсчанецца бушаваць —**
**У Мурлыкі ёсць нагода**
**Колькі рыбак атрымаць.**

(падкрэслена мной. — **А. Б.**)

* *"Залатыя каласкі". Чытанка для дзяцей. У 2-х кнігах. Мінск, "Лазурак", 1994.*

*Часопісы ў кастрычніку*

# УЗВЫШЭННЕ НАД БУДНЯМІ

Не ведаю, як у каго, а ў мяне часам, калі атрымліваю чарговы нумар "тоўстага" часопіса, з'яўляецца жаданне "стварыць" для сябе як бы невялікую анталогію аднаго верша. Паэзія звычайна друкуецца шчодра, і сярод многіх твораў абавязкова знаходзяцца тыя, што найбольш кранаюць цябе і адначасова ўспрымаюцца як безумоўныя творчыя дасягненні аўтараў.

Разгортваю дзесяты нумар "Полымя". З чарговымі падборкамі выступаюць У. Паўлаў, А. Звонак, Л. Галубовіч, В. Аксак. Паэты розныя і непадобныя, кожны з іх, несумненна, мае сваё месца ў літаратуры, хоць адны даўно і трывала прапісаліся ў ёй, а другія працягваюць выяўленне творчай індывідуальнасці. А што да выбару аднаго верша, дык зрабіць гэта досыць лёгка. У кожнага са згаданых аўтараў ёсць тое, што варта асаблівай увагі. Вось нізка У. Паўлава. "Анталагічны" верш тут, канечне ж, "Радзіма за шлагбаумам". Ён прысвечаны Міколу Мятліцкаму. Задума верша нарадзілася падчас наведання радыяцыйнай, той самай 30-кіламетровай зоны, адкуль выселены жыхары. Трапіў у яе і родны Бабчын М. Мятліцкага. Ды радзіма не адпускае ад сябе паэта, пры першай жа магчымасці наведваецца ён туды, едзе і адзін, і з сябрамі:

**Напроці вецер выставіў грудзіну**
**І не пускае тубыльца дахаты.**
**На Колеву маленькую радзіму**
**Мы едзем за шлагбаум паласаты.**

Уладзімір Паўлаў ашчадны ў выяўленчых сродках, а за гэтай ашчаднасцю — старанная ўзважанасць радка. Няхай гэта і звычайныя словы, але яны прамоўлены шчыра, выніклі з самой душы. І ў выніку паўстае тое, што, адлюстроўваючы рэаліі пэўнага лёсу, выходзіць за межы асабістага і сваёй трывогай, гаркотнасцю кранаецца сэрца многіх:

**Ступаем па нябачнае мяжы**
**Жыцця і смерці, як па зрэзу сутак.**
**І на магіле мацеры ляжыць**
**Твой зборнік вершаў,**
**твой "Палескі смутак".**

Алесь жа Звонак жыве той даўняй памяцю, якая і пякельная, і ачышчальная. Не забываецца аўтару перажытае, і гэта асабліва бачна ў вершы "Кругі": "Ах, памяць, колькі месціш лішку ў чарапку! //Вось зноў ты на зямлю мярзлот вяртаеш клічам //за Верхаян хрыбты, на Калыму-раку, //дзе Жоўты Д'ябал смерці баль спраўляў калісьці!". Але вяртанне — гэта і жаданне разабрацца ў дні сённяшнім, зразумець яго ва ўсёй складанасці і як бы нейкай наканаванасці. Няпроста гэта рабіць. Няпроста, але патрэбна, бо "завалаклі туманы ясны далягляд, //дзе й так скупых надзей агеньчык кволы тоне, //чарнобыльскай атрутай дыхае зямля //і адраджэння пробліск чэзне у сутонні...".

Лірычны герой Л. Галубовіча, як бачна з новых вершаў, перажывае момант, калі з'яўляецца жаданне ва ўсім разабрацца. Таму і задумваецца ён над вартасцю набыткаў і непазбежнасцю страт, таму жыве (зрэшты, як і раней) сумненнем, а ці так было ўсё, як трэба... Гэтае "самакапанне" ў сабе настройвае на адпаведны лад і мяне, чытача, бо адчуваю, што за ім — патрэба душэўнага абнаўлення, а не проста жаданне аўтара стаць у гэткую мэтраўскую позу (што, на жаль, раней здаралася ў Л. Галубовіча). А цяпер чытаю верш "Любоў" і гатовы на пытанне, што стаіць у пачатку твора: "Як выказаць любоў да маці яе ссівеламу дзіцяці?", адказаць: "Ды так, як гэта зроблена ў вершы!". Хоць пра саму любоў да блізкага чалавека, калі разважыць, амаль не гаворыцца. Любоў гэтая вырастае — і прарастае! — праз жаданне, па меры магчымасці, дапамагчы: "перастаўлю плот ямчэй, //калодзеж вычышчу ад плаву, //дроў накалю, пасля яшчэ //адсуну, вынесу, папраўлю...". І канстатуецца духоўнай паяднанасцю, за якой само разуменне незваротнасці таго, што адбываецца. І з-за разумення

Гэтаму ж аўтару прыпісаны чамусьці і верш Н. Гілевіча "Калі ранец лёгкі і калі цяжкі".

Знаёмячыся з другім томам "Залатых каласкоў", яшчэ больш пераконваешся ў эстэтычным багацці беларускай дзіцячай літаратуры. Творы самых розных жанраў згрупаваны ў асобныя раздзелы, назвы якіх гавораць самі за сябе: "Калі ласка, паслухай казку", "Зайграй жа мне, дударочку", "Калыханкі", "Забаўлянкі, пацешкі", "Небыліцы, жарты, смяшынкі", "Дражнілкі, лічылкі", "Скорагаворкі", "Гульні", "Прыказкі, прымаўкі, загадкі і адгадкі". Народныя і літаратурныя казкі, несумненна, завабяць малых слухачоў і чытачоў у свет дабра і зла, адгукнуцца спагадлівасцю і чуласцю пачуццяў. Цудоўна напісана вершаваная казка У. Дубоўкі "Як сінячок да сонца лётаў". А хіба не заслугоўваюць высокай ацэнкі такія творы, як "Зелянушка і кракатушка" М. Машары ці "Чортаў скарб" У. Караткевіча?

Унікальным выданне "Залатых каласкоў" робіць і тое, што ў раздзеле народнай і прафесійнай песеннай творчасці "Зайграй жа мне, дударочку" пададзены нотны запіс мелодый. Без мелодыі, як вядома, песня, што птушка без крылаў. Так што "Залатыя каласкі" — выдатны дарунак і юным музыкам, музычным работнікам, што працуюць з дзецьмі.

Думаецца, чытанка ўразіць багаццем літаратурных калыханак, якія належаць пяру Я. Лучыны, З. Бядулі, А. Александровіча, Э. Агняцвет, Л. Геніюш, Р. Барадуліна, Н. Арсенневай, С. Новіка-Пеюна, В. Віткі, С. Грахоўскага, Г. Бураўкіна, Г. Івановай. А колькі займальнага, сапраўды вясёлага, дасціпнага і запамінальнага чакае дзяцей на іншых старонках! Чытанка і гульні цікавыя падкажа, і народнай мудрасці дадасць, і падумаць-разважыць ненавязліва прымусіць.

Слабыя творы ў "Залатых каласках" — на шчасце, рэдкае выключэнне...

Чытанка, з густам афармленая мастаком П. Драчовым, стала першым дарункам нядаўна створанага выдавецтва "Лазурак". Выйшла яна ў выдатным паліграфічным выкананні, з эмблемай Міжнароднага года сям'і. Пабачылі свет "Залатыя каласкі" вельмі аператыўна: паміж датай здачы іх у набор і падпісаннем у друк прайшло ўсяго паўтара месяца. З аднаго боку, гэта радуе. А з другога, і насцярожвае, бо ў выданні засталося нямала нявыпраўленых граматычных памылак (часам па некалькі на старонку). Не забывайма, што кнігі будуць чытаць дзеці. Паспешлівасць, як падаецца, ідзе не на карысць падобным выданням. Выклікае пярэчанне разнабой графікі: паасобныя тэксты падаюцца ў адпаведнасці са старым правапісам, скажам "Сож і Дняпро" В. Ластоўскага ці К. Лейкі "Маці і дзеці". Не вытрымліваецца аднолькавае напісанне імені "Таццянка" ў апавяданні У. Юрэвіча "Шумны лістапад" і Т. Бушко "Сняжынка". Вельмі спатрэбіўся б разгорнуты змест кожнай з кніг, бо аднае назвы раздзела часам зусім недастаткова, каб хутка адшукаць патрэбнага аўтара і ягоны твор. І яшчэ. Прыходзіцца шкадаваць, што па-за чытанкай засталіся творы для дзяцей А. Гурло, І. Шуцько, А. Лойкі, С. Панізніка, Л. Шырына, Т. Кляшторнай, І. Курбекі. Можа, на будучае пра іх не забудуць ні ўкладальнікі, ні рэдактары.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

# У ДОБРЫ ШЛЯХ

У верасні 1994 года пабачыў свет першы нумар часопіса "Bialoruskie Zeszyty Historyczne" ("Беларускі гістарычны сшытак"), выдадзены ў Беластоку намаганнямі сяброў Беларускага гістарычнага таварыства.

Трохі гісторыі. Даволі значную частку насельніцтва ўсходняй Польшчы, так званай Беласточчыны, складаюць беларусы, аўтахтоны гэтай тэрыторыі. Цярністыя шляхі гісторыі адзялілі іх мяжой ад Бацькаўшчыны, і яны апынуліся нацыянальнай меншасцю на сваёй роднай зямлі. Аб'ектыўна і суб'ектыўна беларусы Беласточчыны паступова асімілююцца польскай культурай, польскім ладам жыцця. Часам далёкімі ад талерантнасці бываюць адносіны да беларусаў з боку польскіх уладаў і пэўных палітычных сіл. Яшчэ больш дзіўным і незразумелым падаецца факт ізаляванасці, адмежавання ад праблем нашых суродзічаў у Польшчы з боку кіраўніцтва савецка-камуністычнай Беларусі (традыцыя, рэлікты якой у пэўнай ступені захаваліся, у апошнія гады, на шчасце, інтэнсіўна парушаецца). Немагчыма ўявіць, як цяжка ў гэтай сітуацыі было заставацца беларусам, захоўваць мову, ствараць літаратуру, узбагачаць культуру.

Настаў час пісаць сваю гісторыю. У апошнія дзесяцігоддзі ў Кракаўскім, Варшаўскім і іншых універсітэтах атрымалі гістарычную адукацыю некалькі дзесяткаў беларусаў. Шмат хто з іх свае навуковыя працы прысвяціў менавіта гісторыі беларусаў у Польшчы. Сярод навукоўцаў-беларусаў даўно выспела ідэя стварэння адпаведнай інстытуцыі. Лагічна было б стварыць Інстытут беларускай культуры ў Беластоку. Гэтая навуковая адзінка магла б займацца праблемамі гісторыі, этнаграфіі, мовы, сацыялогіі беларусаў на Беласточчыне. Аднак ужо больш за чатыры гады праект не знаходзіць падтрымкі ў палітычным і навуковым асяроддзі Польшчы. Праўда, у такой сітуацыі значную дапамогу пры рэалізацыі ідэі стварэння беларусазнаўчай інстытуцыі ў Польшчы павінны аказаць беларускія ўлады. Ёсць спадзяванні, што так і будзе.

А тым часам група маладых гісторыкаў-беларусістаў, пераважна з Беласточчыны, арганізавалася дзеля сумеснага даследавання сваёй мінуўшчыны. 30 верасня 1993 года афіцыйна было зарэгістравана Беларускае гістарычнае таварыства. Галоўныя мэты таварыства — вывучэнне, напісанне і папулярызацыя гісторыі беларусаў Беласточчыны і ўсёй Польшчы.

Адным з важных элементаў у працы сябры таварыства лічаць выданне навуковага часопіса (не менш двух разоў на год) пад тытулам "Беларускі гістарычны сшытак", які б рэпрэзентаваў гістарычную думку беларусаў Польшчы. У склад рэдакцыйнай рады ўвайшлі асобы больш ці менш вядомыя на Беларусі: Веслаў Харужы, Даратэй Фіёнік, Славамір Іванюк, Юрка Каліна, Алесь Карпюк, Алег Латышонак, Антось ды Яўген Міраповічы, Яўген Вапа. Дарэчы, большасць з іх з'яўляюцца аўтарамі першага нумара. Аўтарская абмежаванасць тлумачыцца працэсам станаўлення. Выданне прафінансавана часткова праз Міністэрства культуры і мастацтва Рэспублікі Польшча і беластоцкую фірму "Эльвімэкс".

Структура часопіса традыцыйна акадэмічная, даўно апрабаваная ў еўрапейскім навуковым асяроддзі. Яна складаецца з асноўнай часткі — навуковыя артыкулы; потым публікуюцца крыніцы; далей — біяграфічныя матэрыялы; завяршае часопіс раздзел рэцэнзій і палемік. Часопіс польскамоўны, аднак у канцы кожнага артыкула рэзюме па-беларуску і па-ангельску.

Пачынаецца часопіс артыкулам Ірэны Матус з Бельска-Падляскага "Бібліятэкі-чытальні імя Фларэнція Паўлянкова і крэдытныя таварыствы ў беларускіх вёсках Падляшша ў пачатку XX ст.". Аўтарка даводзіць, што заснаванне і функцыянаванне гэтых бібліятэк-чытальняў мела важнае значэнне для абуджэння ініцыятывы мясцовых сялян, вучыла іх грамадскай і гаспадарчай самастойнасці. А першыя арганізацыі сялянскай самадапамогі — крэдытныя таварыствы — падтрымлівалі іх эканамічна. Гэтыя прагрэсіўныя з'явы прыпыніліся ў гады першай сусветнай вайны.

Эвалюцыі адносін беларускіх палітыкаў да польскай дзяржавы ў 1918—1925 гг. прысвечаны артыкул Яўгена Міраповіча. Юрка Каліна апавядае аб партызанскім руху ў 1921—1922 гг. на тэрыторыі Беласточчыны і Гарадзеншчыны. Інспіраваная Беларускай партыяй сацыял-рэвалюцыянераў і беларускім эміграцыйным урадам у Коўне "партызанка" называлася тут Беларускае сялянскае брацтва. На чале гэтага руху былі Вера Маслоўская і Герман Шыманюк (псеўданім "Скамарох"). Узброены атрад Скамароха правёў супроць польскай адміністрацыі некалькі акцый, нават напады на паліцэйскія пастарункі. Цікавым момантам у дзейнасці Беларускага сялянскага брацтва было выданне беларускамоўнай газеты "Беларускі партызан" (аб ёй гаворка пойдзе ніжэй).

Аб дзейнасці Беларускай сялянска-работніцкай Грамады ў 1925—1927 гадах у Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім паветах гаворыцца ў матэрыяле Веслава Харужага. Аб аўтарытэце гэтай партыі сярод беларускага насельніцтва сведчыць наступны факт: на студзень 1927 года існавала 130 гурткоў "Грамады", да якіх належала каля 5400 сябраў. Пасля разгрому польскімі ўладамі ў 1927 годзе Беларускай сялянска-работніцкай Грамады змяніліся магчымасці і формы дзейнасці беларускіх палітыкаў. Аб новых палітычных плынях у Заходняй Беларусі (т. зв. "Цэнтрасаюз") у 1929—1930 гг. апавядаецца ў артыкуле Яўгена Вапы.

Славамір Іванюк і Аляксандр Карпюк свае матэрыялы прысвяцілі праблемам беларускай асветы на Беласточчыне ў 1950—1953 гг. (першы) і дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы ў 1956—1970 гг. (другі).

Трэба адзначыць, што большасць матэрыялаў выкананы на высокім навуковым узроўні. Аднак засмучае храналагічная абмежаванасць тэматыкі першага нумара. Літаральна ўсе артыкулы датычацца навейшай гісторыі беларускага народа. Рэдактарам часопіса неабходна паглыбіцца ў часе. Калі не хапае беларусаў-медыявістаў у Польшчы, хачу параіць звярнуцца па дапамогу да польскіх спецыялістаў і да калег з Беларусі. Бо доўгае творчае жыццё "Беларускага гістарычнага сшытка" залежыць ад актыўнага ўдзелу шматлікіх прафесіяналаў-беларусістаў.

Гістарычныя крыніцы ў часопісе прадстаўлены "Регестрам заблудаўскіх маёмасцей з 1670 г." з багатай генеалагічнай, сацыяльнай, эканамічнай і дэмаграфічнай інфармацыяй па гісторыі ВКЛ. Падрыхтаваў дакумент да друку А. Міраповіч.

Яшчэ больш унікальнай крыніцай па навейшай гісторыі беларускага народа з'яўляецца надрукаваная на старонках часопіса газета "Беларускі партызан". Упэўнены, яна мала вядома нават спецыялістам. Газета выходзіла са жніўня па снежань 1922 года. Усяго пабачыла свет 5 нумароў (з іх два з падвойнай нумарацыяй). Як пазначана пад тытулам, "Месячная безпартыйная часопісь Змагароў за Бацькаўшчыну" выдавалася Галоўным штабам беларускіх партызан у Белавежскай пушчы. Змест перыядычнага выдання складалі антыпольскія прапагандысцкія тэксты, адозвы і дэкларацыі, аналітычныя тэксты аб палітычнай сітуацыі ў Польшчы, і, самае галоўнае, бягучая інфармацыя аб дзейнасці беларускіх партызан на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Біяграфічныя матэрыялы прадстаўлены артыкулам Алены Глагоўскай з Гданьска аб Гасане Канапацкім — татарыне з Мінска, які прыняў актыўны ўдзел у фармаванні беларускіх вайсковых адзінак у 1919—1920 гг. і быў прызначаны ў гэты час Ю. Пілсудскім камандуючым беларускага войска. У 20—30-я гады Г. Канапацкі выконваў шматлікія грамадзянскія і палітычныя абавязкі ў розных беларускіх інстытуцыях Заходняй Беларусі. Памёр гэты цікавы чалавек 11 мая 1953 г. у Быдгашчы, куды прыехаў як "рэпатрыянт" у 1946 г.

Другі біяграфічны артыкул прысвечаны цікавай асобе — праваслаўнаму святару з Беласточчыны Рыгору Сосне (нарадзіўся 30.04.1939 г.), які свае душапастарскія абавязкі спалучае з навуковай, публіцыстычнай і грамадскай дзейнасцю. Сярод гісторыкаў праваслаўнай царквы добра вядомая і паважаная яго фундаментальная праца "Бібліяграфія праваслаўных парафій на Беласточчыне".

Сярод рэцэнзуемых кніг чытач сустрэне польскія выданні апошніх гадоў, якія прысвечаны праблемам гісторыі беларускага народа, беларусаў і праваслаўнай царквы ў Польшчы. Трэба адзначыць, што большасць пазіцый невядомы ў Беларусі.

Такім чынам, першы нумар "Беларускага гістарычнага сшытка" з Беласточчыны — прыкметная з'ява ў навуковым і грамадскім жыцці не толькі Польшчы. Гэта значны дадатак у даследаванні па гісторыі беларускага народа. Гісторыі, якая не ведае сучасных адміністрацыйных падзелаў. Хочацца пажадаць стваральнікам гэтага часопіса доўгага і плённага жыцця іх твору. Беларускім жа ўладам варта было б паспрыяць у распаўсюджванні унікальнага выдання ў нашай краіне ў беларускамоўным варыянце.

**Генадзь СЕМЯНЧУК,**
**дацэнт Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы**

гэтага яшчэ больш узмацняецца тая ж любоў:

**...Развітвацца...**
**Няўцям стаяць...**
**Гадзіннік спынены заводзіць —**
**Свой час паспешна падганяць**
**І — мамін,**

што вось-вось сыходзіць...

Просіцца ў гэтую ўяўную анталогію аднаго верша і адзін з твораў В. Аксак. Паэтэса звычайна не абыходзіць увагай хрысціянскіх матываў, імкнучыся ўзняцца над дробязнасцю быцця (што ёй удаецца). У вершы ж, які хочацца прывесці цалкам, паўстае акурат адна з падобных "дробязей". На колькі гэта па-майстэрску сказана, меркаваць чытачу. На маю ж думку, згаданы верш — адзін з лепшых твораў В. Аксак:

**Мне сын сказаў:**
**настаўніца старая,**
**ёй ажно дваццаць шэсць гадоў!**
**Ну што тут запярэчыш,**
**рацыю ён мае — жанчыны маладыя**
**хіба ставяць**
**мужчынаў**
**тварам**
**да**
**кутоў?**

Вострасучасным атрымаўся раман Т. Бондар "Мечаная" (у "Полымі" апублікаваны пачатак). Безумоўна, аб вартасцях ці недахопах твора можна будзе гаварыць пасля знаёмства з ім цалкам, але і цяпер відочна, што аўтару ўдалося праз вобраз галоўнай гераіні Стэфы праўдзіва паказаць, да чаго вядзе і да чаго прыводзіць чалавека (ды і грамадства!) бездухоўнасць, забыццё і адмаўленне спрадвечных ісцін: "Душа ў яе глухая, бяскрылая — вось і не можа развінуць крылы і ўзляцець, хоць зрэдку ўзляцець, атросшыся ад зямнога пылу і шуму. Вось і трымаецца слоў, заўсёды лжывых і пустых, вось і не чуе нічога за імі".

Не часта друкуецца М. Клебановіч, але калі выступае з новымі творамі, дык, звычайна, прайсці міма іх не выпадае. Прыцягвае і цудоўнае веданне аўтарам мовы, і здатнасць хораша індывідуалізаваць гаворку персанажаў, і "незаезджанасць" сюжэтаў. Пацвярджаюць гэта і два новыя апавяданні М. Клебановіча ў "Полымі" — "Каму верыць?" і "Былы ганарар". Праўда, наконт першага можна сказаць, што ўсё ж відочна пэўная сюжэтная "завуаляванасць", пры якой пытанне, што вынесена ў загаловак твора, і на самай справе да месца. Адказ ускладняецца. А вось "Былы ганарар" — дакладна схопленыя моманты з жыцця творчай брацці так званых застойных часоў.

У тым жа "Полымі" — падборка дакументальна-мастацкіх навел і абразкоў М. Капыловіча ў раздзеле "Публіцыстыка. Нарысы". Назва падборкі — інтрыгуючая: "Запіскі начнога мэра". М. Капыловіч працуе "вахцёрам у будынку Маладзечанскага гарвыканкама", вось і ахрысцілі сябры "начным мэрам". Але, як сведчыць аўтар, "мае пісьменніцкія назіранні не абмяжоўваюцца толькі адным Маладзечнам. Бывае, наведваю тутэйшыя вёскі і роднае, блізкае майму сэрцу Палессе. Там, у глыбінцы, цячэ сваё адметнае жыццё, цікавае на неспадзяваныя сустрэчы і непрадказальныя выпадкі і сітуацыі. І тое, што ўдалося пабачыць і пачуць, я занатоўваў у блакнот".

З "Запісак начнога мэра" паўстае жыццё — такое, якое яно ёсць. А гэта значыць, камічнае (скажам, "Пакаранне за звышпільнасць") перамяжоўваецца з трагічным (прыкладам "Дзіцячы плач"). Найчасцей жа ўсё ўзаемазвязана, і нялёгка сказаць, дзе плакаць трэба, а дзе смяяцца. Найлепшы прыклад — навела "Дзед Антон і Лена", пра ўзаемаадносіны старога і маладой дзяўчыны, у якой нарадзілася дзіця: "Каб памяць пра дзеда Антона не звялася. Добры, харошы быў дзед!".

З цыклам апавяданняў Г. Далідовіча "Жар кахання" чытачы знаёмы па публікацыях у "ЛіМе" і "Полымі". Чарговае апавяданне "Рэня" змешчана ў часопісе "Беларусь". Як і ў ранейшых творах гэтага цыкла, пісьменнік праяўляе належны такт, расказваючы пра інтымныя ўзаемаадносіны персанажаў. Г. Далідовічу ўдалося тонка прыкмеціць той момант ва ўзаемаадносінах (найперш, вядома, з боку яго), калі звычайнае жаданне "правесці час" перарастае ў пачуццё, што кожны раз па-свойму непаўторнае. А гэта вядзе да душэўнага абнаўлення чалавека, яго духоўнага ачышчэння, маральнага ўдасканалення.

Увогуле, кастрычніцкі нумар "Беларусі" атрымаўся змястоўным і разнастайным. Прыцягне ўвагу чытача фотарэпартаж А. Сівага і В. Драчова (фота) "Пакуль беларускі прэзідэнт кіруе краінай, яго жонка кіруе ўласнай гаспадаркай". Канечне, публікацыі на гэтую тэму паспелі з'явіцца ў газетах раней, але ж у кожнага аўтара свой падыход, ды, думаецца, і цікавасць заканамерная. Як рэдакцыі, так і чытачоў.

Дзякуючы "Беларусі", можна вярнуцца ў май сёлетняга года, калі праходзіў Міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры пад назваю "Посттаталітарнае грамадства: асоба і нацыя". Кангрэс стаў па сутнасці першай значнай грамадска-культурнай акцыяй Пэн-цэнтра Беларусі, наладжанай пры дапамозе Фонду Сораса—Беларусь. Змешчаны найбольш цікавыя матэрыялы, падрыхтаваныя В. Аксак і фотажурналістам У. Кармілкіным, у тым ліку выступленне прэзідэнта Пэн-цэнтра Беларусі Р. Барадуліна "Асоба ўзбуйняе нацыю".

На пытанні галоўнага рэдактара "Беларусі" А. Шабаліна адказвае надзвычайны і паўнамоцны пасол Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Джан Лука Берцінета "Я дагэтуль не сумаваў тут ніводнага дня...", прапануецца дыялог паэтэсы Т. Бондар і крытыка М. Тычыны "У літаратуры трэба перамагаць кожны раз наноў". Ёсць што прачытаць і ў дзесятай кніжцы "Маладосці". Р. Барадулін у эсэ "На таку майго веку" азіраецца на пройдзены шлях. Згадвае ўласнае маленства, юнацтва, расказвае аб працы ў розных выданнях. А паколькі ўсё гэта напісана Майстрам, дык мімаходзь даюцца трапныя характарыстыкі асобным літаратарам. Безумоўна, без суб'ектывізму не абышлося, але ж у кожнага можа быць сваё меркаванне. Прымаць яго ці не прымаць — зноў жа справа кожнага. А вось, скажам, наконт гаворкі пра М. Стральцова, дык схоплена найбольш важнае ў паводзінах яго, характары... і творчасці. І перададзена па-барадулінску непаўторна. Вось як, прыкладам, пра першую кнігу М. Стральцова: "Пачалі з'яўляцца апавяданні. І выходзіць першая кніжка незвычайнай прозы, асязальнай і няўлоўнай, пластычнай і глыбінна-духоўнай. Як маладзенькая восень, яшчэ празрыстая, але з першымі хмурынкамі, яшчэ радасная, але з лёгкімі цянінкамі смутку, яшчэ летуценная, але з упартымі зморшчынкамі роздуму на высокім чале".

Згадкі і ў эсэ М. Лужаніна "Неспарадкаваная хата". Пакуль кладзецца ў яе вянец за вянцом. І прапанавана тое, што напісалася. А яшчэ, на шчасце, пішацца. І гэтаксама роздумна, як і многае з таго, што з'явілася з-пад пяра М. Лужаніна. Дзякаваць Богу, у творчым страі адзін з нашых Старэйшын. Як жа не прыслухоўвацца да яго голасу, як не далучыцца да яго роздуму.

А з паэзіі вылучыў бы вершы К. Камейшы. Пасталелы талент і ранейшая маладосць пачуцця, погляду на свет, душэўнай неўтаймаванасці...

**М. АНДРЭНКА**

# БЫКАЎ НАВЕДАЎ ВІЛЬНЮ

**Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава запрасілі ў госці Саюз пісьменнікаў Літвы, Асацыяцыя літоўскіх беларусістаў і Таварыства беларускай культуры Літвы. Васіль Уладзіміравіч ахвотна адгукнуўся на запрашэнне. У Вільні, у памяшканні Саюза пісьменнікаў, ён сустрэўся з літоўскімі калегамі па пяры, журналістамі, навукоўцамі, перакладчыкамі, прыхільнікамі свайго таленту. Падчас сустрэчы закраналіся самыя розныя пытанні. І не толькі творчага, а і палітычнага жыцця, у тым ліку і стасункаў паміж нашымі незалежнымі дзяржавамі.**

**Быкаў таксама меў і іншыя сустрэчы. Дарэчы, тыя, хто не трапіў на іх, маглі пра гэта даведацца з тэлерэпартажаў. Даў Васіль Уладзіміравіч і інтэрв'ю.**

**У сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў Літвы прыняў удзел пасол Беларусі ў Літве Я. Вайтовіч.**

# НЕ ЗНІШЧЫЦЬ ЧАС



**Яшчэ доўга мы будзем падлічваць урон, матэрыяльны і маральны, нанесены Беларусі чарнобыльскай катастрофай. У зоне радыяцыйнага паражэння апынуліся вёскі, чыё этнаграфічнае багацце цяжка перааацаніць.**

**Здавалася б, пра якую этнаграфію можна гаварыць, калі вакол такое няшчасце. І тым не менш, захаваць для нашчадкаў непаўторны пласт культуры Беларускага Палесся — задача сённяшняга дня. Бо заўтра можа быць позна.**

**А таму і заняўся Хойніцкі музей планамерным абследаваннем адселеных вёсак і зборам прадметаў сельскага побыту. Усе знаходкі падвяргаюцца строгаму радыяцыйнаму кантролю, пасля чаго вырашаецца іх лёс. Работнікі музея ўжо сабралі унікальныя экспанаты. Арыгінальная разная мэбля, керамічныя і кавальскія вырабы, прыстасаванні для ткацтва, рыбнай лоўлі, пчалярства і многае іншае не згіне ў часе, а стане здабыткам нашчадкаў.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ**

*На здымку: гэты гіганцкі вулей знайшлі супрацоўнікі музея ў вёсцы Ламачы.*

*Фота аўтара*

# ЖЫЎ У КРАШЫНЕ БАГРЫМ...

**Гэтым разам пашырылася аўдыторыя святкавання чарговых угодак (сёлета 182 гадовых) з дня нараджэння выдатнага паэта-самавука, майстра і каваля Паўлюка Багрыма. Урачыстасці прайшлі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры.**

**Каб ушанаваць памяць таго,хто стаў гонарам Бацькаўшчыны, сабраліся студэнты, выкладчыкі, дзеячы літаратуры і мастацтва. Мерапрыемства стала ўдвая святочным. Дзень нараджэння П.Багрыма і адначасова прэм'ера кнігі "Паўлюк Багрым". Гэтае унікальнае выданне, што з'явілася сёлета ў выдавецтве "Навука і тэхніка", выйшла дзякуючы рэдакцыі часопіса "Тэатральная Беларусь", галоўны рэдактар якога А. Сабалеўскі стаў ініцыятарам выпуску зборніка. У кнігу ўвайшлі па сутнасці ўсе на сённяшні дзень вядомыя матэрыялы (архіўныя дакументы, артыкулы, вершы, прысвячэнні, даследаванні, празаічныя творы), прысвечаныя П. Багрыму.**

**Мерапрыемства прайшло як свайго роду тэатральная кампазіцыя, у цэнтры якой было жыццё П. Багрыма, прачытанне яго лёсу як часткі лёсу ўсёй Беларусі. Да месца ў сувязі з гэтым стала інсцэніроўка знакамітай "Беларускай калыханкі" Васіля Віткі, у цэнтры якой, як вядома, і вобраз П. Багрыма. І ўвогуле, тэатральнае прадстаўленне ўвабрала ў сябе выступленні ўдзельнікаў студэнцкай мастацкай самадзейнасці (гучалі песні, выконваліся танцы, адбыліся прэм'еры песень), у тым ліку праслаўленых "Валачобнікаў".**

**Свайго роду звязкай гэтых нумароў сталі развагі доктара мастацтвазнаўства А.Сабалеўскага. Анатоль Вікенцьевіч вельмі грунтоўна і падрабязна акрэсліў ролю П. Багрыма ў гісторыі беларускай літаратуры і культуры ў цэлым.**

**Выступілі таксама М. Грынчык, М.Макарцоў, Л. Паўлікава, прарэктар універсітэта А. Лягчылаў...**

Паэзія

Алесь РАЗАНАЎ



# ВЕРСЭТЫ

## КЛАДКІ

**Мы ідзём па дрыгве.
Абапал тояцца прорвы, буяе жоўтая лотаць, тоўпяцца на куп'і пукі сітнягу.**

**"Нашто шукаць сваёй згубы? — нам кажуць старыя людзі. — Прыйдзе час, і яна сама, каго трэба, знойдзе".**

**Не згубы, аднак, мы шукаем, а выйсця — з жыцця, што, не маючы мэты, туліцца ўскрай дрыгвянога бязмежжа, і хіба мы прычынай таму, што выйсце ў ім гэтак шчыльна з'яднана са згубай, а тое, што ёсць, з тым, чаго няма?**

**Некалі праз дрыгву былі пакладзены кладкі, і людзі тады разумелі, к у д ы жывуць, але даўно ўжо кладкі ўбіліся ўглыб, засмакталіся прагнай дрыгвою, і трэба цяпер ісці наўздагад.**

**Мы гразнем, мы сумняваемся, мы вывяраем крокі, і калі раптам правальваемся ў згубную глыбіню, знаходзім, гэтак жа раптам, апірышча — страчанае, старое, аднятае, але ўсё роўна заўсёды прысутнае патаемна ў нашых адчайных памкненнях, —
к л а д к і.**

## БАЦЬКАВЫ РЭЧЫ

**Падворак зарос маліннікам і дзьмухаўцамі, і ў ім, паскіданыя, на паламаным старым варштаце, на лаве ляжаць бацькавы рэчы.**

**Я пазнаю іх, бы даўніх знаёмых: ватоўку, якую і сам надзяваў не раз, шапку-вушанку, кашулю, боты...**

**На іх свеціць сонца, на іх імжыць дождж, і хоць ніхто іх не носіць, яны захавалі свой даўні выгляд, свой даўні дух.**

**Я так і ведаў: не мог пайсці бацька з гэтага свету, не пакінуўшы пасля сябе недзе нейкага следу, і Коля Штунда, прыадчыніўшы варотцы ў свой адгароджаны ад астатняй сядзібы падворак, сочыць, што я вазьму.**

**Скрушна агледзеўшы ўсё, што тут ёсць, я бяру кашулю, бо, затуляючыся лахманамі ад выпадковых людскіх вачэй, я, можа, сюды й завярнуў, што не меў кашулі, але калі спрабую надзець яе на сябе, з прыкрасцю заўважаю: яна ў шмаравідле.**

**"Што б ты ні надзяваў, ты ўсё роўна заўжды застанешся голы", — дзіўная думка, якая даймала мяне ўвесь ранак, мне згадваецца наноў.**

**Пэцкаючыся шмаравідлам, я сцягваю, з цела свайго, не надзеўшы, кашулю — нічога з бацькавых рэчаў мне ўжо не трэба.
І Коля Штунда, усцешаны невымоўна, што я нічога сабе не ўзяў, зачыняе варотцы падворка за мною.**

## БУЛЬБІНЫ

**Жанчына б'ецца з жанчынай.
Адна ўжо старая, другая яшчэ маладая, адна патайком у лагчыне, на латцы, будоўляю не чапанай, нічыйнай зямлі, накапала бульбы, другая, што гэтую латку асвойвала і засявала, яе застала, адна спрабавала ўцячы, другая яе напярэсцігі даганяла, і вось...**

**З торбы, у якую ўчапіліся рукі адной і рукі другой, на дол падаюць буйныя белыя бульбіны.
Пэўна, яны не падобны да слёз, ды цяпер, ды цяпер усё-такі — слёзы.**

## ІДАЛ

**Утоены ў поцемках сноў, моўчкі чакае, калі хто ўвойдзе ў яго абсягі, і хто заўважае яго, заўважаецца ім.**

**Тады загараюцца яго вочы і, нібы ўключаецца нейкі дасведчаны механізм, ён пачынае ўсім целам сваім вібраваць-верашчаць і, трушчачы супраціўленне, бы ў павуціну, захоплівае ў гэтае вібраванне сваіх ахвяр.**

**Ён ведае, рана ці позна, кожны, як да апошняга раздарожжа, прыйдзе сюды, дзе ён;
але хто паддасца яго прыцягненню, ужо нікуды далей не пойдзе, хто ж пераможа сваю залежнасць, пойдзе дарогай багоў.**

**Тут, на паверхні, мы высвятляем свае стасункі з сабой і з багамі, а там, у сваёй глыбіні, не чуючы нашых размоў, нас чакае ідал — наш уцялеснены, намі забыты, сон.**

## НА СВЯТА ЗБАВЕННЯ ДУШЫ І ЦЕЛА

**На свята Збавення душы і цела прыходжу ў старую драўляную нашу бажніцу, куды не прыходзіў ужо даўно.**

**Аднак там вялікаю шчыльнаю грамадою стаяць нетутэйшыя хмурныя людзі і правіцца набажэнства на мове нязвычнай, чужой.**

**З бояззю перад імі я, ледзьве ўвайшоўшы ў бажніцу, выходжу і разам з усёю збянтэжанаю акругай чакаю ля ганка, калі настане наша чарга.**

**Мінуўся той час, калі мы прыходзілі ў нашу бажніцу, калі хацелі,
мінуўся той час, калі цела было тое самае, што душа, а душа тое самае, што і цела.**

## ЛІДЭР

**Няспынна нацэлены на барацьбу, ён узнаўляе няспынна сабой барацьбу, не пакідаючы месца таму, што мае настаць за ёю.**

**Узор дасканалых паводзін, што вызначаюцца ім самім, ён недаступны ў іх для памылак, і рэчаіснасць, што не спяшаецца спраўджваць яго задумы, прад ім апынаецца памылковай, а ён прарокам, які яе перарос.**

**Ён фармулюе й кідае ў прастору словы, бескампрамісныя, як прысуды, але, нібы не знайшоўшы ў прасторы тых, каго яны мусяць выкрыць, панізіць, зганьбіць, словы, ім сказаныя, неўпрыкметку вяртаюцца да яго.**

**"Ніхто гэтак справе не паспрыяў, як ён, і гэтак, як ён, ніхто не пашкодзіў", — кажуць яго аднадумцы, што адыйшлі, адштурхнутыя ім, убок.**

**Ён любіць Айчыну гарачай любоўю, але народ Айчыны не любіць яго.**

**Розум — у кулаку, у галаве — кулак: лідэр.**

Проза

Іван ЧЫГРЫНАЎ

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ



## ПРА ДЗЕДА ТАЛАША

У вайну вывезлі на самалёце дзеда Талаша партызаны ў Маскву. Ён там і жыў, пакуль не вызвалілі Гомель у сорак трэцім годзе, у гасцініцы "Якар", што на Цвярской вуліцы, а тады Максіма Горкага. У нас у Беларусі, здаецца, мала пра каго столькі баек-анекдотаў ходзіць, як пра гэтага дзівакаватага старога, якога ведалі раней усе ад малога да вялікага. Сам я анекдотаў не ўмею перадаваць, нават слухаць не заўсёды ахвочы, хоць смяюся з іх ад душы. Пра Талаша байкі-анекдоты мне з задавальненнем расказваў у Маскве па Кутузаўскім праспекце Панцеляймон Панамарэнка, колішні галоўны кіраўнік наш. Але сцвярджаць, што расказваў, не зусім дакладна. Што я яму расказваў, што ён мне. Але цяпер вось чамусьці прыйшлі на памяць тыя байкі-анекдоты — відаць, гэтак трэба называць іх. Паданкі? Легенды? Не, усё-ткі байкі-анекдоты, бо шмат там жартоўнага. Прынамсі, без шчырай усмешкі ўспамінаць іх нельга.

Я працаваў некалі ў часопісе "Полымя". Нас там, маладых ды таленавітых, няхай даруе чытач, сабралася няма-ла. Пташнікаў, Сачанка, Клышка ды і Максім Танк, галоўны рэдактар, таксама яшчэ быў малады, вясёлы, з іскрыстым гумарам. Не дужа багата гадоў меў Янка Скрыган. Не адставаў па бадзёрасці ды смеласці

Рыгор Шкраба. Мы тады павялічылі тыраж "Полымя". Пачалі старонкі беларускай энцыклапедыі, для якой першыя артыкульчыкі напісалі я і Анатоль Клышка. Пасля, калі ўжо Петрусём Броўкам выдавалася сапраўдная энцыклапедыя, на нашы першадрукі скрозь можна было сустрэць спасылкі. Ды і вучоных мы ў тыя гады прыцягнулі да супрацоўніцтва выдатных. Даволі назваць Міколу Алексютовіча, Вадзіма Круталевіча, Ёсіпа Юху; на старонках "Полымя" спрабавалі сваю здольнасць маладзейшыя гісторыкі, філосафы, эканамісты, без якіх цяпер нельга ўявіць нашу навуку, дарма што ўсё яшчэ хапае на яе нараканняў. Зразумела, што ўсе яны былі, мякка кажучы, на "ўвазе". Некаторым пісьменнікам, таксама вучоным вельмі ж хацелася разагнаць нас. Тым больш, што цкаванне часопіса ішло са згоды таго дома, які і цяпер стаіць, але пад другім сцягам, з тыльнага боку Купалаўскага сквера. Але паперадзе ў нас рухаўся Танк, і мы даволі часта хаваліся за яго браню. І вось нам прыслалі новага рэдактара. Дэмакратычнае "Полымя" неўзабаве набыло сур'ёзны выгляд, быццам усім нам параздавалі мундзіры. Часам ужо даходзіла да таго, што на пісьменнікаў, супрацоўнікаў рэдакцыі грукалі кулаком. Тым часам новы рэдактар наш некалі працаваў памочнікам у Панамарэнкі, вось ён і накіраваў мяне ў Маскву да былога кіраўніка рэспублікі, добра ведаючы, што апальны Панцеляймон Кандратавіч нікога з Беларусі не прымае. Але трэба ведаць таго рэдактара, маўляў, а ну-тка, разумнік, дабярыся да колішняга ўладара, вазьмі ў яго ўспаміны. (А тады якраз пачыналі гаварыць, што Панамарэнка піша кнігу). Дык хіба ж адмовішся ехаць? Тым больш, што мае сааўтары па шматсерыйным фільме пра мінскае падполле ў гады вайны таксама займелі цікавасць да Панамарэнкавых мемуараў. Цяпер я ўжо не згадваю, што канкрэтна яны мелі на ўвазе. Але запасся маскоўскім тэлефонам Панамарэнкі, паехаў. У першы ж вечар свайго знаходжання ў сталіцы пазваніў на кватэру да Панамарэнкі на Кутузаўскім праспекце. Голас на тым баку ў адказ пачуўся глухі і нездаволены. Вярней, Панамарэнка мне адмовіў у сустрэчы. Таму нічога не заставалася, акрамя як браць чыгуначны білет на зваротную дарогу. Аднак на другі дзень у маім нумары ў гасцініцы "Украіна" зазвінеў тэлефонны званок. Я пазнаў голас Панамарэнкі.

*Заканчэнне. Пачатак у нумары 46*

## АЛЁСЫ

Ад вёскі мала што засталося — адно некалькі хат са старымі людзьмі і яшчэ бальніца.

Па вузкай стаптанай бальнічнай лесвіцы, прытрымліваючыся за парэнчы, мы сходзім уніз.

— Мне ўсё тут знаёма з маленства, — дзялюся сваімі ўспамінамі са сваёй спадарожніцай, — тут працавала, сюды прыехаўшы шчэ да вайны, акушэркаю мая маці...

Яна глядзіць на мяне ціхмяным глыбокім блакітным паглядам.
— А я вось прыехала, — кажа яна, — сюды з далёкага свету, каб тут нарадзіць, каб у тым замежжы, дзе я цяпер жыву, прысутнічала, гучала і цешыла мне душу імя нашай вёскі —
А л ё с ы.

## НАВІНЫ

Калі між сабой сустракаюцца двое ці трое, яны перш за ўсё пачынаюць адно ў аднаго пытацца, адно аднаму казаць, што дзе адбываецца ў свеце, што дзе чуваць.

Усюды, як стравы, чакаюць навін і шукаюць навін, і той, хто трымае руку на навінах, амаль прарок.

Нібы набажэнства новага часу, усіх далучаюць навіны да нейкай (якой — невядома) з'явы, усіх уключаюць у нейкі (які — невядома) абрад.

Шчасце мінула, надзея знікла, жыццё, што квітнела і вабіла, раптам паблякла, і толькі ўзышоў з глыбіні перакуленых з'яў і сабою праняў навакольную рэчаіснасць адзін невідушчы, няўлоўны, спадманлівы колер —
колер навін.

## ДАРАГІ ЗАПАЛЯНЕЦ

Нагружаны кніжкамі, прыйшоў да мяне Дарагі Запалянец і — як падарунак мне — разам з сабою прывёў паэта, якога знайшоў ён і ўзгадаваў у сваім вясковым краі.

Я доўга чакаў яго — можа, гады, а можа, дзесяцігоддзі; адтуль, дзе ён жыў, надыходзілі сінія вёсны і каляровыя лістапады, адтуль напльвалі залевы і нарываліся завірухі, туды адыходзіла і абдымала сабою ўсё запалянскае наваколле, паволі развітваючыся са мною, мая маладосць.

Знаёміць мяне Дарагі Запалянец з кніжкамі, ім перажытымі, і са сваім гадаванцам, які на цэлую галаву вышэйшы і за мяне, й за яго, і кажа, што гэта — мая маладосць, а я, пасміхаючыся, пакідаю гэту сваю маладосць асвойвацца ў доме і на падворку,
а сам з Дарагім Запалянцам іду, паступова знікаючы, за той лес, які, нібы гутарыць з намі, становіцца вокамгненна то восеньскім, то вясновым, за тую рэчку, што, паслухмяная нейкай вялікай змене, цячы пачала назад.

## ПАДВОДНЫ ПЛЫВЕЦ

Падводны плывец, час ад часу выныраю на паверхню, і ўсё наваколле зварочвае на мяне сваю ўвагу, спрабуючы высветліць і мне давесці, хто я такі.

Дакуль я нераспазнаны — я ё с ц ь,
але калі я прыпамінаю, кім быў калісьці,
у вострай увазе свету ўзнікае нешта, што
вылучае мяне са свету і асуджае на смерць.

Мне падабаецца жыць, але адно толькі жыць немагчыма,
мне падабаецца ведаць, што людзі мяне разумеюць, аднак, аднак гэтаму разуменню заўсёды
пярэчыць адна неадольная перашкода, і гэтая перашкода я сам.

Злучаны з плынню, плыву ў невядомыя даля-
чыні, каб калі-небудзь у свеце недзе знайсціся зноў.

## АМАЛЬ

Ён можа амаль усё.

Абраны людзьмі, ён узвышаецца над людзьмі як іхняе спадзяванне, як іхні ратунак, як іхняя моц, і хто не згаджаецца з ім, хто яму пярэчыць, як бы пярэчыць усім.

І тады, як бы загадзя маючы ўсеагульны дазвол на ўсе свае дзеі, ён аддзяляе сваіх супярэчцаў ад грамады і чыніць, скіроўваючы на іх сваю знішчальную ўвагу, над імі свой прадузяты суд.

Але чым больш перамогаў ён здабывае сабе, тым больш прыкрымі робяцца гэтыя перамогі,

і чым больш умацоўваецца ён у сваёй, амаль неабсяжнай, уладзе, тым менш можа ён.

## МАЛЕНЬКІЯ НОЧВЫ

Нехта стукае ў дзверы.
Я доўга, не ведаючы, хто гэта стукае, не адчыняю, а калі адчыняю, бачу: стаіць за дзвярыма бацька з маленькімі ночвамі ў руках.

Ён кажа: "Пакуль ты мне адчыняў, я схадзіў пад царкву і ўзяў вось гэтыя ночвы, каб  і м і  стукаць у дзверы.
Ці помніш ты гэтыя ночвы: ты ў іх купаўся, калі быў малым..."

Я гляджу на маленькія ночвы і, нібы ўва мне адчыняюцца нейкія дзверы, у іх пазнаю, што і помніць не помню, што згадваць не згадваю і што не мае ні вобразу, ні наймення, а мае мяне самога, —
с в а ё.

## СЕРБСКАЯ ВЁСКА

Некуды падаў, траціў прытомнасць, поўз, а калі рассвіло, паўсталі з імглы будынкі і выйшлі людзі...

— Што гэта за мясціна? — спытаўся я ў першай, у чорнай хустцы, старой жанчыны, з якою сустрэўся на вуліцы...

— Козліцы, сербская вёска, — сказала яна і ўступіла ў дзверы адчыненай крайняй хаты, а я гэтаксама за ёю, спрабуючы высветліць, ці далёка ад Козліцаў да сталіцы...

Учора было ў гэтай хаце вяселле, а зараз — рэзрух.
Смуткуючы, маладая сядзіць ля акна, і востраць мужчыны нажы на ганку.

— Дваццаць чатыры д'яблы, — сказала, адказваючы, старая, і мне было дзіўна чуць аб гэтакай меры шляху,
і цяжка было мне даўмецца, ці месяцца ў д'ябле вёрсты, ці, можа, д'яблы ў вярсце.

Кожны з прысутных мне нешта хацеў растлумачыць, і спараджала ўсякае слова мноства наступных слоў, а кожная лічба мноства далейшых удакладненняў.

Адно маладая сядзела, як і раней, ля акна і моўчкі глядзела некуды ўдалеч.

## ПРЭЗІДЭНТ

Быццам гарыць тарфянішча, у ім тлее, то западаючы ўглыбіню, то прарываючыся на паверхню, патайны агонь і ўдыхае ў яго размовы і ўчынкі дымлівую гарачыню.

Ён не належыць дому, а той неабходнай справе, якая запатрабавала яго душы і рукі, і, як бы яе ні рабіць, не робіцца як работа, а настае і ўсталёўваецца як пагода, калі ўсе рады свету і свет — усім.

Аднак, нібы ў нечым не давяраючы гэтай, адзіна відушчай, справе, ён акружае сябе людзьмі, якія былі б адданы яму асабіста болей, чым справе, і, робячы яе асабіста-сваёю, тым самым адпрэчваецца ад яе.

Старанна, нібыта ўжываючыся ў экзамен, ён доўжыць і ўводзіць у сённяшні дзень этап, што мусіў ужо быў застацца ў мінулым, і знакі нятоеснага выяўлення кажуць, што ён не супаў са з'явай, а супадае з памежжам некалькіх з'яў.

Ён увасоблены ў сілу, што здольна выцягваць з багны і ўцягваць у багну, спыняць і ўтаймоўваць навалу і станавіцца навалай; ён увасоблены ў сілу, ды гэтая сіла шукае гаспадара.

## ДАСЯГНЕННІ

Каб дасягнуць таго, што вышэй за мяне, я адмаўляюся ад таго, што маю.

Удача і поспех, выпрабаваныя павадыры, выводзяць мяне са свету адвечнага кругазвароту і ўводзяць у свет барацьбы і падзей.

Я надаю жыццю сэнс, і жыццё адбываецца мной і са мною, паказваючы, што яно можа, што — не.

Я авалодваю доляй, доўжуся ў заваёвах, аднак мае новыя дні як найвялікшую мэту мне адкрываюць, што ўжо мінула, і як найвялікшую ўзнагароду мне абяцаюць тое, што я ўжо меў.

---

— Добра, — па-ранейшаму глуха сказаў ён, — прыходзьце сёння ўвечары. Цікава паглядзець, якія вы там, маладыя беларусы.

Панамарэнка жыў у тым доме, што і Брэжнеў. Здаецца, паверхам ніжэй. Варта генеральнага сакратара прамацала мяне вачамі, але прапусціла, няйначай, Панамарэнка прасіў за мяне. І вось я ў яго кватэры. Гаспадар, моцна апухлы, ся-дзіць на атаманцы, побач — сабака, які гатовы кожнае імгненне абараніць яго.

— Сядайце, — сказаў ён мне, паказаўшы на крэсла, што стаяла насупраць атаманкі. Я сеў і хутка агледзеўся. Панамарэнка не зводзіў вачэй з мяне. Я ж не зводзіў вачэй са сценаў ягонага кабінета. Амаль усе яны былі заклеены фатаграфічнымі партрэтамі былых і тагачасных крамлёўскіх правадыроў. У часе пагрому культу Сталіна ў кабінеце тым не менш стаяла скульптурная выява найвялікшага і наймудрэйшага. Нарэшце Панцеляймон Кандратавіч спытаў:

— Дык што вас прымусіла шукаць сустрэчы са мной?

Так і так, кажу, да нас дайшлі чуткі, што вы напісалі мемуары.

— Так, — сказаў ён, — інстытут другой сусветнай вайны, што ў Парыжы, заказаў мне кнігу. Маршалу Жукаву і мне. Мне належыць напісаць пра партызанскую барацьбу. Але гэта належыць. Кнігі яшчэ няма.

— Тады далі б для нашага часопіса раздзелы з кнігі?

— І раздзелаў яшчэ няма. Так што, малады чалавек, дарэмна вы ехалі.

Я не стаў расказваць, што на гэта была не мая воля. Ніякавата яшчэ трохі пасядзеў, тады заварушыўся, яўна збіраючыся адыходзіць.

— Ды вы не спяшайцеся, — стрымаў мяне Панамарэнка. — Кніга не гатова таму, што я цяпер заняты іншым. Згарэла мая дача. І я кожнага дня езджу на пажарышча. Думаю адбудаваць, але за што? Пенсія ў мяне малая, усяго трохі за сто рублёў, нават кнігі даводзіцца прадаваць. Некалі сабраў нядрэнную бібліятэку. Цяпер вось распрадаю.

Дзіўна, але гэтая шчырасць кранула мяне, і ў маіх вачах нібыта "прапаў" усходні хан на атаманцы. Перада мной ужо сядзеў звычайны апальны чалавек са сваім болем і сваім жыццёвым клопатам.

— Даўно ка мне не наведваліся беларускія пісьменнікі. А то ж...

Я прамаўчаў.

— А то ж раней не было адбою, — працягваў ён. — Праўда, найчасцей звярталіся да мяне, калі працаваў у Мінску. Помню, як прыходзілі яшчэ ў вайну Лынькоў, Крапіва, Броўка... Прасілі за жонку аднаго вашага паэта. Яна працавала ў нямецкай газеце, а тады, у сорак чацвёртым годзе, збегла разам з акупантамі. І вось яе злавілі недзе паблізу Кёнігсберга. Сядзець бы ёй не перасядзець, калі б я не заступіўся. Схапіла яе энкавэдэ, але я сказаў берыеўскім людзям, што яна працавала на партызанаў. Справа ў тым, што і армейская разведка, і берыеўская, і мая, партызанская, дзейнічалі паасобку. У нас нават архівы былі асобныя. Таму я і рашыўся заступіцца за аблудную жанчыну. Вашы пісьменнікі казалі, што той паэт вельмі кахае яе.

— Дарэчы, пра архівы, Панцеляймон Кандратавіч, — сказаў я. — Яны цяпер у Мінску. Ствараем шматсерыйны фільм аб падполлі ў часе вайны. Ці нельга штонебудзь скарыстаць?

— Але ж і мне цяпер доступу вольнага няма туды. Праўда, для напісання кнігі я сёе-тое атрымліваю. Не, я вам не памочнік.

— Шкада, — сказаў я, разумеючы, што канец нашай размовы ўсё роўна настане.

Тады Панамарэнка нечакана зноў пачаў.

— Не ведаю, як вы, малады чалавек, але Новікаў, ваш сааўтар, у мінскім партыйным падполлі да канца не разабраўся. Як вы думаеце, Кавалёў здраднік ці патрыёт?

— Нам не дазваляюць яго згадваць у фільме ўвогуле. Кансультантам палкоўнік Архіпаў з дзяржаўнай бяспекі. Дык ён, здаецца, пераканаў ужо ўсіх адступіцца ад Кавалёва.

— А вы самі, як думаеце пра Кавалёва?

— Ва ўсякім выпадку самае працаздольнае падполле ў Мінску было пры ім.

— Цікава. Значыць, вы маеце здольнасць адрозніваць сваіх ад чужых? — І, не чакаючы ад мяне адказу, дадаў: — Папрасіце ў архіве кнігу наведванняў СД. Пасядзіце над ёй, тады вам будзе лягчэй разбірацца ў тых падзеях.

Я падзякаваў. Зноў настала — усё роўна як — збянтэжанасць. Няйначай гэта адчуў і гаспадар, бо сказаў весела:

— Пра што б яшчэ нам пагаварыць з вамі? Га? Хоць, папраўдзе, не дужа тут разгаворышся. — І ён паказаў галавой на столь.

Я паглядзеў следам угору, усміхнуўся. А ён сказаў:

— Мне поліэтыленавая плёнка патрэбна. Але як дастаць? Хоць ты звяртайся ў Мінск! Ладна, я вам раскажу пару анекдотаў напаследак. Пра дзеда Талаша. Прыходзіць той аднаго разу да мяне ў споднім і кажа: выдай мне, Паламарэнка, такую чырвоную зорку, як у Казловага. А мы толькі што ўзнагародзілі некаторых партызанскіх камандзіраў залатымі звёздамі, у тым ліку і Васіля Іванавіча Казлова. І вось дзед дзесьці ўбачыў Казлова з ёй. Я спрабую адбыцца жартам. Але стары не ўступае. Дай, моў, Паламарэнка, і мне такую зорку, як у Казловага. Ды не я такія зоркі даю, спрабую пераканаць, Калінін імі распараджаецца. Ага, ківае дзед галавой, значыць, Калінін? Устаў і пайшоў. Назаўтра нацягнуў штаны вайсковыя, абуўся ў галёшы ды шась у канцылярыю да Калініна. Трэба сказаць, прахадзімасць у яго была незвычайная, дамогся ён і да Калініна. Я не ведаю, пра што яны гаварылі там, але ў той жа дзень стары пастукаўся і да мяне. Кажа, дай мне паперку, бо без яе Калінін не мае права ўзнагародзіць мяне залатой зоркай. Бачу, пачынаецца гульня не на жарты. Я і так, я і гэтак, аднак Талаш нават слухаць не хоча. Моў, выдай мне даведку, каб Калінін узнагародзіў чырвонай зоркай, і ўсё там. Нарэшце адчапіўся я нейкім чынам ад яго. Зноў падаўся ён да ўсесаюзнага старасты. Гэта ўжо мне потым Калінін расказаў пры сустрэчы. Сапляк гэты Паламарэнка, кажа дзед Міхайлу Іванавічу, не хоча даваць паперкі. Слухай, Калінін, мы абое старыя людзі, навошта паміж нас Паламарэнка? Дай без яго даведкі залатую зорку, як у Казловага. Нарэшце Калінін бачыць, што нявыкрутка. Спрабуе зацягнуць час. Таму просіць кагосьці са сваіх людзей прынесці дзве шклянкі чаю, печыва. Прыносяць. Дзед Талаш нейкі час глядзіць на пачастунак, тады гаворыць: дык што, зоркі залатой не даеш, хочаш адным чаем адбыцца? Праўда, цікава?

Панамарэнка смяецца, і я смяюся.

— Але каб ведалі, гэта не анекдот. Гэта — быль. Так, ужо быль. Але вельмі цяпер шкадую, што не дапамог яму тады атрымаць зорку Героя. Тым больш, што зімой з сорак другога на сорак трэці год прыходзіць неяк Васіль Ісакавіч да мяне, таямніча азіраецца вакол, тады кажа:

— План у мяне ёсць, Паламарэнка. Загадай партызанам на Палессі, каб падрыхтавалі дзве сотні саней з добрымі коньмі. Я пасаджу на іх адважных хлопцаў ды ўдару па Лельчыцах. Гітлер адразу адступіць ад Сталінграда.

Я паабяцаў, спадзеючыся, што ён хутка забудзе пра свой ваяцкі парыў. Так яно і выйшла. А ў сорак трэцім мы пераехалі з Масквы ў Гомель. Прыехаў туды і Талаш. Выпрасіў у кагосьці каня з павозкай, паклаў нейкія транты, мусіць, з нямецкіх трафеяў, сабраўся ехаць у Петрыкаў, дарма што яшчэ не вызвалены. Ну, думаю, нарэшце хоць на час будзе скончана з дзедавымі дзівацтвамі. Але дзе там! Не прайшло і некалькі дзён, як ён зноў з'явіўся ў Гомелі. Канечне, без каня і павозкі. Ці то прапіў недзе ў дарозе, ці аддаў каму па дабраце душы. А ў мяне ў кабінеце якраз нарада. Сабраўся актыў, каб паразважаць разам, што рабіць, як адбудоўваць рэспубліку. Мы ўжо ў Гомелі думалі пра ўсю рэспубліку, бо не сумняваліся ў хуткім вызваленні. Зразумела, што я на ўзлёце быў, захапляўся сам і прымушаў верыць у тое, пра што гаварыў, прысутных. У захапленні сваім нават не заўважыў, калі ў кабінет зайшоў Васіль Ісакавіч. Убачыў яго ў

*(Працяг на стар. 12)*

# КЛОПАТАМ ВАЎКА І КУРАНЯЦІ



**З 11 па 20 лістапада ў Магілёве адбыліся гастролі Вялікага тэатра лялек з Санкт-Пецярбурга. Мастацкі кіраўнік тэатра — Ала Палухіна.**

**Гэта — адзін са старэйшых і самых вядомых тэатраў Расіі. Яго гісторыя пачалася ў 1931 годзе ў маленькім драўляным дамку ля Паклоннай гары стараннямі пяці энтузіястаў. Першай актрысе тэатра лялек Ніне Комінай у кастрычніку гэтага года споўнілася 95 гадоў.**

**У тэатра шчасліва склаўся творчы лёс, яму шанцавала на таленавітых людзей. Гісторыя БТК звязана з імёнамі Савелія Шапіры, Міхаіла Каралёва, Віктара Сударушкіна. Гэтыя рэжысёры склалі, стварылі тэатр, сфарміравалі яго рэпертуар. Далёка за межамі горада і краіны вядомы спектаклі розных гадоў: "1002-ая ноч", "Цудоўная Галатэя", "Гэтым вечарам здарылася", "Лавіце імгненне ўдачы". Тэатр заўсёды звяртаўся да вартай і якаснай драматургіі. Шмат што з яе ўвасаблялася менавіта з дапамогаю лялек — упершыню і ў Вялікім лялечным: "Швейк" Я. Гашэка, "Іншаземец у Рыме" М. Зошчанкі, "Клоп" У. Маякоўскага, "Да трэціх петухоў" В. Шукшына, "У залатым раі" братоў Чапэкаў.**

**У тэатры захоўваюцца шматлікія ўзнагароды, атрыманыя за ўвесь час існавання.**

**Тэатр лялек — гэта шмат у чым тэатр мастакоў. Гісторыя Вялікага лялечнага багатая на імёны мастакоў, якія шырока вядомы ў айчынным тэатры. Для спектакляў выбітных, непаўторных лялек стваралі мастакі Н. Канстанціноўская, Н. Хамякова, заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі В. Малахіева, В. Хаўралёў і В. Хаўралёва, Л. Баравенкава. У тэатры ёсць зусім фантастычны пакой-музей, дзе ад падлогі да столі сядзяць, стаяць, вісяць лялькі. Яны бачылі Еўропу, Азію, Афрыку... Але, на жаль, наш цяжкі час і на чараўнікоў робіць свой уплыў. Шмат гадоў тэатр не выязджаў на працяглыя гастролі. Беларускі глядач бачыў артыстаў з Пецярбурга больш за дзесяць гадоў таму назад. Магілёўскія гастролі — гэта прага творчых зносінаў. Неабходнасць умацаваць духоўныя сувязі. Таму рэжысёры з розных рэспублік удзельнічаюць у апошніх пастаноўках Вялікага лялечнага. Запрошаны і галоўны рэжысёр Магілёўскага абласнога тэатра лялек Алег Жугжда — для пастаноўкі спектакля паводле п'есы Тадэуша Ружэвіча "Цнатлівы шлюб".**

**На жаль, пецярбуржцы прывезлі ў Магілёў толькі адзін спектакль "Залатое кураня" па п'есе У. Арлова ў пастаноўцы В. Марцьянава. Адзін — прычына ўсё тых жа фінансавых цяжкасцей, без якіх цяпер не абыходзіцца ніводная справа. Але, думаю, гэты цудоўны спектакль дастойна прадставіць рэпертуар тэатра. Абраны ён невыпадкова: мы пераасэнсоўваем значэнне сям'і ў жыцці кожнага, вяртаем сабе разуменне таго, што сям'я — наша апора. "Залатое кураня" вяртае дзяцей у цёплую атмасферу клопатаў і пяшчоты. Дзятву не можа пакінуць абыякавымі тата-воўк, які рупіцца, клапоціцца пра куранятка... Будзем меркаваць, што клопатам ваўка і кураняці спраўдзіцца і наш клопат — пра зносіны і паразуменне.**

**Наталля АЎДЗЕЕНКА**

*Пецярбург — Магілёў*

# "НАША МІНУЛАЕ — НАША БУДУЧЫНЯ"

***Спадар Алан ФЛАЎЭРС, вялікі аматар сцэнічнага мастацтва, з'явіўся да мяне з Лондана з рэкамендацыйным лістом ад калегі — крытыка, даследчыка англійскага тэатра і драматурга Джона Элсама: доктар Флаўэрс пяты раз наведваў Беларусь, прывёз мне кнігі і публікацыі, ды прызнаўся, што... марыць наведаць Нацыянальны тэатр Беларусі, і ўсё — ніяк... Праграма ў доктара Флаўэрса была шчыльнаю і вельмі-вельмі канкрэтнаю: нават на вячэру ён з'яўляўся з велізарнаю кайстраю, напакаванаю дзелавымі паперамі. З-за спраў ледзьве не давялося ізноў пакінуць тэатр убаку, але госцева ўвага да яго прымусіла і мяне паставіцца да госця з пільнасцю газетчыка.***



— Мае прыхільнасці і цікавасць, — патлумачыў доктар Флаўэрс, — вызначае ўзаемасувязь навукі і мастацтва. Гэткае супрацоўніцтва — абсалютна натуральнае; у мінулыя часы, напрыклад, дачыненні між навукамі і мастацтвамі былі куды шчыльнейшыя — ад вытворчасці новых матэрыялаў, напрыклад, ад змен у тэхналогіі вытворчасці фарбаў або тканін наўпрост залежала з'яўленне новых мастацкіх форм... Цяпер гэтая сувязь не падаецца надзвычайнаю для музыкі, музычнага мастацтва, дзе матэматыкі дапамагаюць музыкам вынаходзіць і тэхніку, і тэхналогіі. У Шатландыі, напрыклад, арганізаваліся архітэктары і скульптары, маючы на мэце звязацца з навукоўцамі, якія займаюцца матэматыкай і іншымі дакладнымі навукамі, — каб вывучыць новыя структуры ды матэрыялы... Я — ядзерны фізік, я цаню мастацтва ўвогуле, а цяпер дамагаюся супрацоўніцтва з дзеячамі тэатра: па-першае, гэта прыносіць карысць маім студэнтам, бо навучае гнуткасці, эмацыйнасці, узбуйняе інтэлект, па-другое... Я стаю на тым, што мусіць з'явіцца навуковец новага кшталту, але ж і мастак не можа не мяняцца разам з навукаю...

**— Алан, а з якімі мэтамі вы апынуліся на Беларусі ўпершыню?**

— З мэтаю акадэмічнага супрацоўніцтва з Сакараў-каледжам (цяпер — Міжнародным інстытутам па радыялогіі імя А. Д. Сахарава — **Ж. Л.**). У 1991 годзе ягоны рэктар Аляксандр Люцко наведаў Кінгстан-універсітэт і зацікавіў нас сваімі намерамі ў развіцці адукацыі Беларусі, новымі формамі навучання, імкненнем да стварэння новага тыпу навукоўца. Усе планы рэктара былі звязаныя з чарнобыльскай катастрофай, пасля якой шмат што змянілася і для нас. Мой першы візіт на Беларусь прыпаў на лістапад 1992 года: прыляцеў у заснежаную Маскву, увечары ўжо быў у Мінску. І гэта была асалода... Нашу групу прадстаўнікоў Англіі і Шатландыі спаткала група беларускіх акадэмікаў. Я, агледзеўшыся наўкола, адразу падумаў пра Шатландыю, — маленькую, бо там каля пяці мільёнаў жыхароў, але такую спецыфічную і... падобную да Беларусі. Мне было лёгка ідэнтыфікаваць нацыянальны дух, інтэлект, — вельмі шмат характарыстык Беларусі нагадалі мне пра краіны на поўначы Вялікабрытаніі. Цяперашняя мэта нашага супрацоўніцтва — усталяванне трывалых эканамічных сувязей і іхняе развіццё. Сувязі гэтыя ўгрунтаваны еўрапейскаю супольнасцю ды брытанскім урадам. Супольнасць і ўрад даюць грошы і для навучання, і для акадэмічнага супрацоўніцтва. Грошы зрабілі магчымым і тое, што два беларускія акадэмікі ў 1993 годзе наведалі Кінгстан-універсітэт, а ў ліпені 1993 адбыўся мой першы візіт у Зону. І я ўвачавідкі пераканаўся, што такое вынік ядзернай катастрофы, што такое пакінутая зямля...

**— Але ж вы, вывучаючы, яе не пакідаеце?**

— Я ўвогуле захоплены Беларуссю. А што да вывучэння, дык для студэнтаў Сахараў-каледжа існуе цэлая праграма, якая ажыццяўляецца і па-за лабараторыямі, і па-за класамі на так званых палявых станцыях. Яны асталяваныя ў Хойніках. На два-тры тыдні штогод студэнты прыязджаюць, робяць замеры, вывучаюць усё, што робіцца ў мясцовым шпіталі, а таксама сельскагаспадарчыя і лясныя матэрыялы. Гэта — іхняя частка міжнароднай праграмы. Вядома, існуе шмат праграм для спецыялізаваных навучальных устаноў, перадусім — медычнага характару. З ліпеня 1993 сёе-тое ажыццяўляецца паспяхова: адбыўся абмен акадэмікамі Беларусі, Францыі і Вялікабрытаніі. Падчас свайго трэцяга візіту на Беларусь я чытаў лекцыі па радыяцыйнай экалогіі і па навуковай практычнай англійскай мове для студэнтаў Сахараў-каледжа. Чарговы візіт у Мінск — дзеля вывучэння акадэмічнай праграмы для студэнтаў. Яна была створана з улікам нашых прапаноў і яе трэба давесці да міжнароднага стандарту. З калегамі з Сахараў-каледжа я разумеюся выдатна. Адно ўражанне наймоцнае і вельмі памятнае: беларускія студэнты вельмі маладыя, вельмі здатныя і навучаюцца па адной з самых складаных праграм. І яе неабходна выканаць, агараць, спраўдзіць, бо толькі праз яе можна падступіцца да новых дачыненняў у навуцы, самім выявіцца іншым кшталтам — каб кваліфікавана зносіцца з калегамі, вывучыўшы некалькі замежных моў, і рабіць годныя ўклады ў міжнародныя навуковыя праекты. Шмат хто з сённяшніх навучэнцаў Сахараў-каледжа будзе адыгрываць важную ролю ў кампаніях, у даследчай рабоце, нават ва ўрадзе. Мой пяты візіт на Беларусь — у складзе дэлегацыі. Разам з кіраўніком Кінгстан-універсітэта, з прадстаўніком Гарварда і іншымі. Паводле распрацаваных намі праграм цяпер займаецца пяцьдзесят пяць чалавек з Беларусі, Расіі і Украіны; мы хочам хутчэй павялічыць іх колькасць да сотні. Саюз акадэмікаў пакуль маленькі, але пашыраецца. Што да маёй канкрэтнай работы, дык я даследую радыяцыйныя дозы ў дзіцячых зубках, перадусім у дзяцей, хворых на лейкемію. Дадам, што забяспечыць бальніцы і лабараторыі даследчымі прыладамі, прыборамі і нават падручнікамі спрыяюць замежныя навукоўцы, перадусім уражаныя таленавітасцю і працаздольнасцю калектыву Сахараў-каледжа. Самае вялікае расчараванне — ад праблем сацыяльных, арганізацыйных і падобных да іх. Бо з-за іх не ўсе доследы могуць выконвацца належным чынам. Увогуле Беларусь апанавала небяспека за небяспекаю. Ёй пагражае хімічная прамысловасць, ужыванне пестыцыдаў, гербіцыдаў і інш.; найнебяспечная хімічная прамысловасць Мазыра. Пагражаюць цяжкія металы. Пагражае радыяцыя. Магілёўскі інстытут радыяцыйнай медыцыны задакументаваў 600 выпадкаў хвароб, звязаных з Чарнобылем, але трэба ўлічваць, што відавочным робіцца зазвычай толькі нешта значнае. Драбнейшым, меншым выпадкам не заўжды надаецца ўвага. З іншага боку, развіваецца радыёфобія. Боязь ад няведання знаёмая і Вялікабрытаніі.

**— А як паводзілі сябе там пасля катастрофы?**

— Усім вядома, што энергія атама можа кантралявацца. І што развіццё атамнай энергетыкі і хваляванне з-за яе — непазбежныя. Будзем сыходзіць з таго, што рызыка ёсць ужо ў тым, што мы жывём. Вядома, будзе рызыка і з-за радыяцыі. Важная раўнавага між рызыкаю, на якую адважваецца краіна, і эканамічнай неабходнасцю атамнай энергіяй карыстацца. У беларусаў энергетычныя праблемы значныя, і як ніколі важна ўзважыць рызыку, звязаную з атамнай энергетыкай. Халадаваць узімку малапрыемна, праўда? У Вялікабрытаніі энергазабеспячэнне змешанае — трохі газу, трохі атаму. Але ж для незалежнай краіны неабходная незалежная энергія! Напрыклад, у нашай Шатландыі палову энергіі дае атам, але шатландцы распараджаюцца ёю так, што нават у Англію экспартуюць. А Беларусі, каб зрабіцца багатай, трэба яшчэ шмат гадоў, магчыма, аж да пачатку наступнага стагоддзя.

**— Алан, вы верыце ў гэта?**

— Я стараюся гэтаму паспрыяць.

**— А ваш брытанскі ўрад, ваша каралева, — як яны ставяцца — проста па-чалавечы — да атамнай небяспекі?**

— Не баяцца. Усё пытанне для іх — толькі ў эканамічнай выгадзе, іх больш за ўсё цікавіць цана электраэнергіі. Наша атамная энергетыка — гэта пытанне грошай, бо кантраляваць, ахоўваць і рупіцца пра найвялікшую бяспеку мы ўжо навучыліся.

**— А ці можа Каралеўскі універсітэт уплываць на палітыкаў і палітыку ў галіне атамнай энергіі і ўсяго, што з ёю звязана?**

— Вядома, што брытанскія універсітэты ўвогуле не звязаны з палітыкай. І — звязаны, бо гаворка ідзе пра адукацыю маладых людзей, пра яе ўзровень. Мая роля, як прафесара, які чытае лекцыі па радыяцыйнай бяспецы і ядзернай энергетыцы, патлумачыць ім і выгоды, і рызыку справы, якой яны хочуць займацца. І даць магчымасць вырашаць самому. Як і кожнаму — ацэньваць мае словы. Велічыня рызыкі мусіць быць зразумелай. Мэта нашага навучання, між іншым — не ўплываць на меркаванне студэнтаў, а дапамагчы ім выпрацаваць уласную думку, навучыць аналізаваць. Супраць атама — магчымасць згубіць кантроль над ім, шкода ад ядзернае зброі. За — адвечная патрэба ў энергетычных рэсурсах. У Вялікабрытаніі палітычныя погляды адыгрываюць вялікую ролю ў жыцці і становішчы чалавека: кожны вырашае сам, але на любое калектыўнае рашэнне ўплывае бальшыня. Яна галасуе за атамную энергетыку.

**— Алан, шмат маіх сяброў і калег мяркуюць, што на Чарнобыль Беларусь асудзіў сам Бог...**

— І мы так мяркуем. Гэта — ад Бога. І вы дарэмна ўяўляеце, што гэта толькі знішчэнне, хвароба і смерць. Я быў крануты, калі пачуў ад шмат якіх навукоўцаў Беларусі: "У нашай краіне наша мінулае — гэта наша будучыня". Праблемы мінулага абудзілі ваш нацыянальны дух, вялікую нацыянальную энергію, прымусілі (або прымушаюць) людзей працаваць і мяняцца якасна. Можна сказаць, што гэта трагічная работа Бога — дзіўным чынам карысная. Карысная тым, што вам выпадае магчымасць паразумецца і супрацоўнічаць з цэлым светам, адукоўвацца, неверагодна хутка развіваць здольнасці і мысленне. Я веру ў будучыню Беларусі. І, як аптыміст, — у вялікую будучыню.

**Гутарыла
Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота
Віктара СТРАЛКОЎСКАГА*

# БРАВА, ВІКТАР МАКСІМАВІЧ!

Бенефіс народнага артыста Беларусі Віктара Чарнабаева адбыўся ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета. У гэты вечар яго славуты бас апынуўся ў магутным сугуччы віншаванняў і воплескаў, згадак і выступленняў творчых партнёраў... Бенефіцыянта віталі гледачы, калегі, артысты-купалаўцы, ад імя якіх выйшаў на сцэну дырэктар тэатра І.Вашкевіч. У суправаджэнні аркестра на чале з дырыжорам Л. Ляхам спявалі І. Журко, Р. Палішчук, Ф. Севасцьянаў, Т. Варапай, Т.Кучынская, В. Скорабагатаў. З асаблівай нецярплівасцю чакала публіка выступленняў "вcase віноўніка ўрачыстасці", які стала прысутнічаў на сцэне, сяды-тады пакідаючы крэсла, уваходзячы ў вобраз і... і — пераўвасабляючыся то ў Мефістофеля, то ў Дон-Кіхота, то ў камічнага раўніўца Паскуале (сцэна і дуэт з оперы "Дон Паскуале" бліскуча была ўзноўлена В.Чарнабаевым ды В. Скорабагатавым, які спяваў партыю Малатэсты). Пасля антракта В. Чарнабаеў спяваў камерныя творы ў суправаджэнні канцэртмайстра Г.Каранта. Усё было шчыра, утульна, амаль па-сямейнаму. Тым болей, што вяла вечар дачка Віктара Максімавіча — Галіна, таксама артыстка, а яшчэ ўдзельнічала ў праграме ўнучка Маша — даравітая юная піяністка, навучэнка Рэспубліканскага ліцэя пры Акадэміі музыкі, лаўрэат міжнароднага конкурсу Марыя Палазкова.

**С. Б.**

# МАЛЯВАЦЬ АЛЬБО КЛЕІЦЬ?

У Рэспубліканскай мастацкай галерэі ў рэчышчы Дзён культуры горада Бона праходзіла выстава трыццаці пяці нямецкіх мастакоў. Дарэчы, жадаючых пазнаёміць мінчан са сваёй творчасцю было ўдвая больш, але спецыяльная камісія ў Германіі адабрала толькі сто твораў у галіне жывапісу, графікі, фотамастацтва, інсталяцыі.

Пры ўсёй непадобнасці прац экспазіцыя пакінула даволі цэльнае ўражанне: нямецкія мастакі часцей карыстаюцца клеем (сапраўдным альбо сімвалічным), чымсьці фарбамі. Выключэнне складаюць хіба што некаторыя прыхільнікі абстрактнага жывапісу, якія імкнуцца праз гульню колераў выявіць нешта пазачасавае і пазаіснае. У большасці сваёй мастакі адлюстроўваюць, так ці інакш, матэрыяльную рэчаіснасць. Але рэч у тым, што ў эпоху "пасля сучаснасці" яна самаператварылася ў калаж сапраўднага і ўяўнага, цяперашняга і невядомаколішняга.

На выставе панаваў постмадэрнізм з характэрнай для яго мешанінай у межах аднаго твору розных стыляў, матэрыялаў, гістарычных эпох альбо абшараў прасторы. Так, напрыклад, Карына Хойман паверх зграбных выяў старажытнагрэчаскіх герояў малюе Мікі Мауса альбо фрагменты іншых коміксаў, каб "склеіць" сучаснасць з антычнасцю, але таксама каб паказаць збядненне чалавечай фантазіі на працягу апошніх стагоддзяў.

Многія жывапісцы актыўна скарыстоўваюць гіпс ці іншыя нязвыклыя матэрыялы, ператвараючы свае палотны, скажам, часткова ў барэльеф. Вольфган Аўэр выбудоўвае такім чынам цэлы архіпелаг у акіяне, якім ён бачыцца з ілюмінатара самалёта. Левіс Яня фон Вербеек пакрывае палатно (апрача алею) пяском, крэйдай і воскам. Мастак не малюе выяву, а выскрабае яе. Рольф Малат піша фарбамі, але палярэдне наклейвае на палатно кавалкі старых газет ды іншага смецця. Паўль Адвена працуе ў тэхніцы "воска і жалеза па дрэве" (грувасціць на драўлянай аснове важкія кавалкі металу, што, магчыма, сімвалізуе перамогу індустрыяльнай цывілізацыі над прыродай). Адзін з твораў жывапісца Карла Грушэля ўражвае яшчэ большай важкасцю: спатрэбілася металічная рама, каб вытрымаць прываранья да яе вялікія кавалкі жалеза, да якіх прымацаваны яшчэ камяні (дарэчы, іхня цені і намаляваны на палатне). Серыя прац Гертруды Юхемс "Амаль пазабыта" таксама ўразіла садыстычным стаўленнем да матэрыялу (цвёрдае валакно, акрыл, полістылен): яго метадычна рублі, свідравалі, абпальвалі, пэцкалі фарбай, выпрабоўваючы на трываласць — і яго, і нервы гледачоў.

Іншыя мастакі "гуляюць" з рознымі слаямі альбо сімваламі прасторы. Напрыклад, Эраль Кіпалі дзеля доследаў у этналогіі (серыя "Людзі, любоў і краіны") малюе нацыянальныя тыпы на геаграфічных картах, наклееных на палатно (цікава, ці далучае сябе мастак да гэтак званага лэнд-арту ў яго сімвалічным варыянце?) Хіла Яблонскі знарок нядбайна, са шматлікімі складкамі, наклейвае свае абстрактныя палотны на значна шырэйшыя падрамнікі, таксама абцягнутыя блізкім па колерах палатном. Мастачка нібыта хавае ад гледачоў першы варыянт сваіх карцін, але не ў майстэрні, як звычайна робіцца, а непасрэдна на выставе. Цінка Госельбах "распілаваў" сваю карціну непрыглядной ночы на пяць роўных частак, што дазволіла ўвесці ў яе межы такую ж плошчу сцяны галерэі і такім чынам "склеіць" выяву з прасторай выставачнай залы. Петэр Туцаўэр піша алеем на наклееннай "друкаванай паперы" паміж фотаздымкамі, тэкстам і рэпрадукцыямі іншых мастакоў, "запазычаных" сваім мастацтвам прабелы ў германскай прэсе. Апрача таго, мастак скарыстоўвае люстраныя рамы, а ў некаторых працах уводзіць ахскепкі люстэрка ўнутр карціны, каб зрабіць і наведвальнікаў выставы яе персанажамі.

Нельга абмінуць увагай удзельнікаў выставы, якія працуюць у жанры калажа. Бернд Вешзлек збірае свае "клееныя карціны" з рупліва адабраных фрагментаў рэчаіснасці, скарыстоўваючы для аб'яднання іх цень, пакінуты на іх іншымі, адрэзанымі аб'ектамі: з выпадковых рэчаў атрымліваецца цэласная прастора з натуральнай перспектывай. Трохі інакш працуе Міхаэль Фаруз-Мер: свае "капілажы" ён папросту манціруе са здымкаў розных несумяшчальных рэчаў, размываючы іхнія межы, але пры гэтым выбудоўваецца адзіны, лагічна апраўданы вобраз. Мастак Гюнтэр Мут у сваёй серыі "Структурны аналіз" (фотакопія і акрыл), наадварот, "расклейвае" рэчаіснасць. Кожны твор складаецца з пятнаццаці паслядоўна павялічваемых "кадраў" выявы, напрыклад, натоўпу журналістаў: ужо дзесьці на пятым павелічэнні людзі знікаюць, застаюцца толькі структуры газетнай паперы і друкарскай фарбы. Па сутнасці, і людзі, і іхнія рэчы ў выніку такога "аналізу" ператвараюцца ў нішто, правальваюцца паміж нематэрыяльнымі структурамі светабудовы.

Апошняй згадаем манатыпію Ільзетраўт Глок "Прыступкі". Гэты вялікі твор складаецца з адасобленых геаметрычных фігур, на якіх дзе намаляваны, а дзе наклеены тонюсенькія валокны, якія ў літаральным сэнсе знітоўваюць унутраны свет карціны з нашай рэчаіснасцю, усю выставу — з галерэяй. А ў рэшце рэшт, гэтыя амаль незаўважныя ніткі сталіся — прынамсі, для мяне — сімвалічным мастком паміж сталіцамі дзвюх еўрапейскіх дзяржаў — паміж Бонам і Мінскам.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# ЗНАЁМСТВА ВЫМАГАЕ?

...У нашым асяродку мы б жартавалі: маўляў, пякарня для выпечкі відовішчаў. Ды згадвалі б пра "хлеб і відовішчы", напэўна...

21 і 22 кастрычніка, падчас дзён культуры Бона ў Мінску, цікавы доследа дзейнасці культурнай установы давёў нямецкі цэнтр "Бротфабрык". Так-так. У нашым абыходку казаць "хлебная фабрыка" не прынята. Завод — ён вырабляе, пячэ — пякарня...

Гісторыя "Бротфабрык" здаецца простаю. Бадай, толькі апантаныя стваральнікі гэтай фабрыкі культурных праяў усведамляюць, колькі выпала на іх долю мітрэнгаў ды скрутаў. Яны, стваральнікі, калісьці захапіліся ідэяй вызваліць тое, чым займаліся, ад кантролю чынавенства і так званых агульнапрынятых правілаў. Напэўна, яны і самі не ўяўлялі, як будуць вызваляцца. Але з 1981 года яны прайшлі праз грашовыя пазыкі, выгнанні з памяшканняў, абяцанні ўладаў, роспач і... нечаканую падтрымку насельніцтва бонскага раёна Баёля! Два мільёны марак рознымі шляхамі, высілкамі ды намаганнямі былі сабраны ды выдаткаваны на пераробку пакінутага будынка буйной хлебапякарні. У верасні 1988 цэнтр паспяхова атайбаваўся ў новых сценах. Здаецца, ці не самую вялікую вядомасць сярод тэатральных шукальнікаў займеў былы гараж хлебапякарні: памяшканне адразу ж замовілі розныя групы на год наперад... У 1991-м, на пяцігоддзе існавання, хісткія, нетрывалыя крэслы замянілі на зручныя тэатральныя фатэлі, дый яшчэ шмат што перарабілі...

Сёлета, у 1994-м, разам з зацікаўленай арганізацыяй зладзілі чарговы тэатральны фэст: сабралі ў сябе экалагічных тэатры. Пяты раз сустракалі фестываль альтэрнатыўнай музыкі. Увосень тэатр "АДАРОКА" адчыніў вольную тэатральную школу: трэба разумець, вольную ад кантролю чынавенства і нейкіх недарэчных струхлелых правілаў, якія замінаюць рабіць мастацтва іншым тэатральным утварэнням. Пра правілы, праўда, я б яшчэ магла паспрачацца. Спадзяюся, што мастацтва "Бротфабрык" не цэрпіць ад правілаў новых і найноўшых. Прынамсі, спектакль "Юбілеўмс-ансамбль", а ён мэў назву "Казкі братоў Грым, або Пракляты свет", даў мне падставу абачліва меркаваць пра сябе, як пра...тое, што з поспехам можа дадацца да надзённага хлеба. Хоць жыхары Бона, здаецца, хлебную нішчымніцу даўно зжылі. Але гэта ўвогуле сімвалічна — займацца мастацтвам у хлебных сценах...

Але чаму — "Пракляты свет"? (Казкі братоў Грым нібыта выклікаюць іншыя вызначэнні?) Верагодна, маецца на ўвазе прыкрая немагчымасць умяшацца, паўплываць на літаратуру? Не буду хітраваць: нямецкія акцёры не перакалалі мяне ў слушнасці сваіх праклёнаў. Тэксты казак, а таксама Сэрвантэса, Дастаеўскага, Шэкспіра, радкі з народных нямецкіх песень і дзіцячых гульняў, напэўна, перадусім мусілі ўтварыць асаблівую асацыятыўную прастору для гледачоў, каб кожны з іх — на свой густ — выбіраў тое, што падабаецца, адчуваў тое, што... Што? Сцэна мяняе сцэну. Акцёры праз бясконцы тэкст і, мовім так, праявы тэмпераменту, прадстаўляюць нам дачыненні персанажаў, — розных у кожнай сцэне. Эмацыйна, тэхнічна, не без сэнсу. Найболыш, аднак, уздзейнічае музычны шэраг: гучанне нефангармнага фартэпіяна, налоўчанасць выканаўцы, імправізацыі (як у джазе)... Яго імя Норберт Родэнкірхен. Спявачка — казачная істота ў спектаклі, босая паненка ў футры, — таксама ўразіла культураю выканання. Яе імя — Ёхана Ханзэн. Рэжысёр Франк Хойель прыдумаў эфектны фінальны эпізод: удзельнікі сцэнічных размоў змаўкаюць і, падпарадкуючыся музычнаму рытму, спяваюць старасвецкую (мабыць) і заўжды сучасную калыханку. Прыгожы бутафорскі снег (мабыць) засыпае спевакоў. Яны ці то засынаюць, ці то супакойваюцца пад калыханкавай завеяй. О, як бы ўразіў спектакль, калі б увесь быў такім празрыста-эмацыйным! Бо гутаркі ды перажывацьбенні, на жаль, нічога на дадалі да нашых агульных уяўленняў пра праявы чалавечых стасункаў...

Няшмат дадала да іх і фотавыстава, наладжаная ў фае Маладзёжнага тэатра (шчырае маё прызнанне яго адміністрацыі — мовім так, за культуру прыёму гасцей). Аўтары — Торсцен Бэрм і Гізэла Менгельберг. Яны мелі самае шчырае памкненне: даць уяўленне пра будні, святы і агульную дзейнасць "Бротфабрык". Мілы сямейны альбом-рэпартаж прадставіў утульны свет спартоўцаў, музыкаў, кінааматараў, танцораў, дыскутантаў з розных нагод, усмешлівых дзетак... Для азнаямлення больш і не трэба. А знаёмства — вымагае. Хоць бы беларускага візіту ў адказ.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**



*На здымку: сцэна са спектакля "Казкі братоў Грым або...".*

*Фота Аляксея МАЦЮША*

Пошта

# УЗРОСТ ХРЫСТА

"Няўжо цяжка быць добрым?" — гэта радок з верша Уладзіміра Захарава, вядомага гродзенскага гітарыста і кампазітара. Нядаўна яму споўнілася 33 гады. Многа гэта ці мала? Мне, першаму настаўніку Уладзіміра Захарава па складанні музыкі, здаецца, што гэта многа, бо помню яго 15-гадовым юнаком, які толькі пачынаў спасцігаць асновы музычнага мастацтва. Але гэта і мала, калі суаднесці дасягнутае Уладзімірам Захаравым (ён пакуль адзіны лаўрэат некалькіх міжнародных конкурсаў сярод гітарыстаў Беларусі) з яго узростам.

У ранняй маладосці Валодзя быў паэтычным, удумлівым і ўнутрана безабаронным чалавекам. Акрамя музыкі, ён складаў вершы. Калі служыў у арміі, пісаў пісьмы пра свае пачуцці і перажыванні. Ім валодала мара стаць гітарыстам.

Сёння Уладзімір Захараў — сталы музыкант. Ён знайшоў у сабе сілы пераадолець жыццёвыя перашкоды, звёдаўшы нямала гора. І вось перад намі — артыст, улюбёнец публікі, таленавіты педагог і нястомны асветнік!

Аднак у Захарава ёсць праблемы, якія не даюць працаваць з максімальнай аддачай. Я маю на ўвазе яго кватэрныя ўмовы. Уявіце сабе двухпакаёвую кватэру без вугла і фактычна на тры сям'і! Дзе яму рэпеціраваць? Ці пацікавіцца хто з чыноўнікаў, у якіх умовах жыве не абы-які для Беларусі музыкант? На жаль, у нас мала зважаюць на класічную музыку. Чаму? З-за абывацельскага разумення мастацтва? Ці з-за некампетэнтнасці тых, хто па абавязку службы павінен клапаціцца пра развіццё культуры?

А памагчы Захараву няцяжка: трэба знайсці яму невялікі пакой для заняткаў на інструменце. Выдзяляюць жа ўлады мастакам — вядомым і малавядомым, таленавітым і досыць пасрэдным — майстэрні! Чаму ж не даць такую майстэрню прызнанаму музыканту? Хто ведае, магчыма "куток для гітарыста" станецца выдатнай мясцінай Гродна, кшталту тых памятных мясцін, якія звязаны з імёнамі Максіма Багдановіча і Элізы Ажэшкі.

Балазе, абыякавасць не канчаткова авалодала намі, і сярод нас жывуць добрыя і чулыя людзі. Яны-то і сабраліся ў гродзенскай галерэі "У майстра", каб выказаць Уладзіміру Захараву сваю ўдзячнасць. У салоне панавала атмасфера радасці. Для прысутных была разыграна музычна-паэтычная кампазіцыя "Час адлёту лісця". Растрывожылі душу чароўныя песні Алены Пячынінай. Настройвалі на лірычны лад вершы Сяргея Рамашова. Іх дыялог дапаўняла вытанчаная ігра Уладзіміра Захарава. Гэта камернае трыо паэта, аўтара песень і выканаўцы ўразіла аўдыторыю крыштальным чыстым пачуццём.

Знаходзячыся ў палоне ўзвышаных эмоцый, я разважаў: менавіта ў такіх паэтыка-музычных салонах узнікае новае мастацтва. Варта толькі дадаць да слова, да спеваў, да музыкі сцэнічную ігру, танец, пантаміму, дэкарацыі, святло, як мы наблізімся да абноўленай оперы! Не ў зацішшы оперных тэатраў і не пры ўдзеле кансерватыўных оперных кампазітараў нараджаецца жыватворны сінтэз мастацтваў! Толькі мастакі з незамутнёнай паэтычнай свядомасцю ствараюць мастацтва заўтрашняга дня.

Святочны вечар закончыўся. Уладзіміра Захарава павіншавалі з днём нараджэння яго сябры, яго паклоннікі — людзі, чые думкі звернуты да Дабра і Прыгажосці!

**Віталь РАДЗІЁНАЎ,**
**старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

# ПАЯДНАЛА... "ЗОРКА ВЕНЕРА"

Спецыяльна для паездкі ў Рэспубліку Беларусь хор з невялікага мястэчка Кетэнбах, што ў Германіі, падрыхтаваў славутую "Зорку Венеру" на словы М. Багдановіча. Калектыў, які заснаваны больш за сто гадоў назад, наведаўся на беларускую зямлю ў сваім поўным складзе, а гэта нямнога-нямала, а 60 чалавек. Адбылося некалькі выступленняў, у тым ліку ў Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі Акадэміі навук Беларусі і ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі. Прычым — разам з харавой капэлай Акадэміі навук Беларусі. Пачатак кантактам і быў пакладзены акадэмічнай харавой капэлай, якая ў маі мінулага года прымала ўдзел у Міжнародным фестывалі "Гармонія-93", што праходзіў у нямецкім горадзе Лімбургу, непадалёку ад якога і знаходзіцца Кетэнбах.

## ІВАНУ СКАРЫНКІНУ — 75



**Іван Скарынкін надоўга звязаў свой лёс з арміяй. Выхадзец з сялянскай сям'і (нарадзіўся 26 лістапада 1919 года ў вёсцы Тратнае цяперашняга Клімавіцкага раёна), ён у 1939 годзе паступіў у тагачасны Камуністычны інстытут журналістыкі, што працаваў у Мінску, але праз некалькі месяцаў быў прызваны ў Чырвоную Армію. У 1941—1942 гадах вучыўся ў ваенным авіяцыйным вучылішчы, затым быў накіраваны на Паўночна-Каўказскі фронт, пазней яго перавялі служыць у Забайкалле. Удзельнічаў у вайне з мілітарысцкай Японіяй.**

**З 1946 па 1948 год І. Скарынкін працаваў літаратурным супрацоўнікам дывізійнай газеты "Красный кавалерист". У 1952 годзе скончыў рэдактарскі факультэт Ваенна-палітычнай акадэміі імя У. І. Леніна ў Маскве. Быў спецыяльным карэспандэнтам газеты Паўночнай групы войск "Знамя победы", а з 1958 года — карэспандэнтам, начальнікам аддзела газеты Беларускай ваеннай акругі "Во славу Родины". Пасля звальнення ў запас працаваў старшым рэдактарам выдавецтва "Беларусь" (з 1972 па 1985 год).**

**З першымі мастацкімі творамі І. Скарынкін выступіў у 1950 годзе на старонках газеты "Во славу Родины". Выдаў шэраг кніг нарысаў і прозы, у тым ліку ў маскоўскіх выдавецтвах. "Завещано отцами" (1974), "О чем шумят сосны" (1980), "Тугие ветры" (1983), "Резерв комбата" (1988) — гэтыя і іншыя зборнікі І. Скарынкіна тэматычна звязаны з гераізмам народа ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі і з мірнымі буднямі воінаў.**

**З днём нараджэння, дарагі Іван Яфімавіч! Няхай доўжыцца Ваш жыццёвы і творчы шлях!**

## А ПАМЯЦЬ — ВЕЧНАЯ




**"Жыццё чалавечае — імгненне ў вечнасці, а памяць людская — вечная", — гаворыць народная мудрасць.**

**На тэрыторыі шматпакутнай Беларусі помнік кожнаму загінуўшаму ў мінулай вайне паставіць практычна немагчыма. Але ўпарадкаваць брацкія магілы, рэстаўраваць старыя могілкі — у нашых сілах.**

**Вельмі шмат па ўвекавечанні памяці паўшых робіцца ў Бярозаўскім раёне. Ініцыятарам гэтай высакароднай справы з'яўляецца старшыня таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, галоўны архітэктар раёна Аляксандр Мікалаевіч Алексяюк. Толькі нядаўна тут адрэстаўраваны могілкі часоў першай сусветнай вайны, якія ў народзе называюць "аўстрыйскімі", хоць пахаваны на іх таксама рускія, немцы, венгры, беларусы. На тэрыторыі раёна ўстаноўлены памятны знак на Броннай Гары — месцы расстрэлу фашыстамі 50 тысяч грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці, помнік загінуўшым у Афганістане, рэстаўраваны помнікі ў многіх населеных пунктах на брацкіх могілках партызан, воінаў Савецкай Арміі, аднасяльчан, загінуўшых у Вялікую Айчынную.**

*На здымку: Аляксандр Мікалаевіч Алексяюк каля знака-абеліска на Броннай Гары.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

*(Пачатак на стар. 8-9)*

пярэднім радзе трохі пазней. Як і кожны спрактыкаваны выступоўца, я таксама выбіраў каго-небудзь у зале, каб мець падтрымку. "Дык як будзем жыць пасля вайны?" — пытаюся ў дзеда.

— Ды, відаць, як пры цары, — адказвае ён.

Зала, зразумела, пачынае хіхікаць, нарэшце выбухае рогатам. Выходзіць, усе мае намаганні дарэмныя? А дзед тым часам сядзіць сабе, акурат асалавелы, і ні шманае.

Мы з Панамарэнкам зноў пасмяяліся, але цяпер ужо нібыта дзеля прыліку.

Дзіўна, але гаворка наша раптам перакінулася на небяспечнае, нягледзячы, што гаспадар перад гэтым паказваў на столь. Панцеляймон Кандратавіч неспадзявана пачаў успамінаць, як пры Сталіне і Хрушчове "разбазарвалася" Беларусь. Але пра гэта я ўжо трохі згадваў у дзённікавых нататках. "Кожны шукае сябе". Можа, толькі за выключэннем таго, як аддавалі Друскенікі і Вільню літоўцам, а Беласток — палякам.

## ЗА ДВАЦЦАЦЬ КРОКАЎ

— Як толькі бачу цябе, дык яшчэ ажно за дваццаць крокаў хочацца даць табе арышту.

Не ведаю чаму, але словы гэтыя не адзін раз гаварыў мне Іван Паўлавіч Мележ. Відаць, штосьці ў выглядзе маім было выклікаючае. Мы, можна сказаць, сябравалі з ім, дарма што ні ў адным з яго пісьмовых выступленняў прозвішча майго няма. Але тым не менш, рэкамендацыю для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў ён мне даў, прыслаў з Ялты, дзе тады адпачываў. Праўда, спасылаўся чамусьці не на апавяданні, якія адны друкаваў я на пачатку свайго творчага шляху, а на кніжку пра нашага фальклярыста і этнографа Нікіфароўскага, дзе мной былі напісаны асобныя раздзелы. Прасіў я рэкамендацыю для паступлення ў саюз і ў Шамякіна, аднак Іван Пятровіч напісаў яе толькі пасля таго, як на агульным пісьменніцкім сходзе я нарэшце быў прыняты ў члены СП. Ну ды ладна. З усіх успамінаў пра Мележа найбольш жывымі і цяпер застаюцца ўспаміны з паездак. Асабліва ў Маскву.

Ішоў чарговы ўсесаюзны з'езд наш у Крамлі. Здаецца, па-за ўвагай літаратурнай грамадскасці не засталіся ні творчасць Мележа, ні ўвогуле беларуская літаратура. Георгій Маркаў не скупіўся на словы. Нарэшце справа на з'ездзе дайшла да выбараў кіруючых органаў. Як і заўсёды, партыйная група пасля апошняга пасяджэння абмеркавала кандыдатуры будучых членаў праўлення, затым членаў рэвізійнай камісіі. Пісьменніцкі сход, які адбыўся праз колькі часу, мала што змяніў у спісе прапанаваных кандыдатур. Мы прагаласавалі тайным шляхам, кінуўшы бюлетэні ў чырвоныя скрынкі, сталі чакаць вынікаў. І ў тыя хвіліны да мяне падышоў Мележ — нейкі вясёлы і мяккі.

— Хадзем са мною, паабедаем, — кажа ён.

— Дзякуй за ласку, — сказаў я, хоць толькі што паабедаў: тады кармілі дэлегатаў з'езда там жа, у Крамлі.

І мы пайшлі, хоць Іван Паўлавіч і быў чалавек, можна сказаць, скупы, але той раз не шкадаваў грошай, балазе, іх не шмат трэба было плаціць тады за абед.

— Нешта мне трывожна сёння, — прызнаўся Іван Паўлавіч. — Якія будуць вынікі галасавання?

— А навошта вам хваляваацца? Масквічы няхай чубяцца, а мы...

Я і праўда так думаў, маўляў, уся калатэча на з'ездзе скончыцца тым, што некаторыя маскоўскія пісьменнікі, асабліва з кіраўнічага складу, атрымаюць па дзесятку-два адмоўных галасоў. На большае тады пісьменнікаў не ставала. І як жа здзіўлены быў, калі даведаўся, што Мележ не дарэмна турбаваўся: супраць яго прагаласавалі ажно шасцёра. Іван Паўлавіч выйшаў з Крамлёўскага палаца змрочны і, нібыта вінаваты ў чымсьці, хаваючы вочы, адказаў:

— Заўтра еду ў Ялту. Бывай.

Так і разышліся: ён паехаў у Ялту, у санаторый "Беларусь", я — У Мінск. І вось праз якога паўмесяца чую па тэлефоне жаночы голас:

— Іван Паўлавіч прасіў пазваніць вам. Ён у лячэбніцы.

Здалося, што яму зарана знаходзіцца ў Мінску.

— Дзе? — пытаюся.

— У лечкамісіі. У дзевятай палаце. Прасіў вас прыйсці да яго.

Сапраўды, Іван Паўлавіч ляжаў у палаце N 9. На другім паверсе. Насупраць дзвярэй стаяў дзяжурны столік, і дзяўчына ў белым халаце, якая сядзела за ім, здаецца, залішне доўга прыглядалася да мяне, нібыта я спрабаваў прынесці штосьці шкоднае.

Ложак, на якім ляжаў Іван Паўлавіч, стаяў па левы бок, супраць акна, але ў палаце адчувалася нейкая запушчанасць; нават пасцельная бялізна пад хворым мела брудны выгляд. Мележ расплюшчыў вочы, усміхнуўся.

— А-а, прыйшоў?.. — усё роўна як няветліва сказаў ён. — Бачыш, хутка памру.

Ён паказаў на крэсла і сам звесіў ногі ў шкарпэтках да падлогі. "Нядобра пачынаецца сустрэча", — падумаў я, марудзячы са словамі ў адказ.

У Мележа з вачэй па шчаках пацяклі слёзы. Ён іх не чапаў, быццам і зусім не адчуваў на сабе. Нарэшце зноў усміхнуўся. Нягледзячы на слёзы, лёгка і светла.

— Я гэта пазваў цябе, — казаў Іван Паўлавіч далей, — што не паспеў давесці тады ў Маскве...

— Што ж?

— А тое, што я ўсіх вас люблю. — І ён пачаў пералічваць маладых празаікаў пайменна, здзівіўшы мяне, можа, тым, што не назваў пры гэтым прозвішча чалавека, што найбольш цёрся каля яго. — І мне шкада вас. Шкада таксама нашу прозу. Гэтыя людзі, што застаюцца над вамі, малая радасць для вас. Наадварот. Трэба апасацца іх, каб на свой капыл не павярнулі.

Што гаварыць у такім разе? Збянтэжаны, я сядзеў, маўчаў, а калі і вымаўляў слоўца, то неяк блазнуючы ў душы, дарма што не паказваў гэтага.

Нарэшце ён спытаў увогуле пра літаратуру, пацікавіўся, што новае надрукавана ў часопісах.

— Дзённікі Ісакоўскага ў "Дружбе народов", — сказаў я.

— Прынясі заўтра, пачытай мне. А то баляць мае вочы.

Вядома, я паабяцаў. З гэтай ягонай просьбай я і выйшаў з палаты, адчуваючы, што Івану Паўлавічу нялёгка доўга размаўляць. Тым часам вочы ягоныя высахлі ад слёз, і сам ён выглядаў прыстойна. У бальнічным калідоры стаяў Браніслаў Спрынчан, мы пагаварылі трохі і разышліся. На рагу Купалаўскага сквера мне трапіўся Дзмітрый Бугаёў.

— Мележ памірае, — кажу я яму.

Але Дзмітрый Якаўлевіч са сваім неўтаймаваным характарам не хоча слухаць — што ты, дзівак?

Назаўтра давялося ехаць на дачу да Шамякіна.

— Нешта ўсю ноч сёння скуліў Мележаў сабака, — сказаў ён найперш.

Я стаў расказваць, як хадзіў учора ў лячэбніцу да Івана Паўлавіча, якое ўражанне вынес адтуль.

— Трэба неяк памагчы яму, — сказаў я. — Бо нават пасцельная бялізна на ягоным ложку брудная. Можа, у лепшую бальніцу перавезці?

— Усе яны ў нас аднолькавыя, гэтыя бальніцы, — паморшчыўся Іван Пятровіч. — Але я пазваню Кузьміну. Няхай у ЦК падумаюць.

І тады я нарэшце пачуў, што зусім блізка за плотам сапраўды енчыў Мележаў пёс. Дамоў я вярнуўся якраз к абеду, ужо гатовы быў сесці за стол, як пачуўся тэлефонны званок.

— Гэта з Саюза пісьменнікаў. Мележ памёр!.. — сказаў у трубку нейчы голас.

Я здрыгануўся.

Пра Івана Паўлавіча пасля шмат хто пісаў. У нас увогуле абы-хто любіць "навязвацца" вялікім нябожчыкам у сябры!..

Напісаў і Шамякін успаміны пра свайго сябра, у канцы якіх раптам згадаў, усё роўна, як паміж іншым, маўляў, казалі, што ў Мележа перад тым нібыта быў... Чыгрынаў. Прачытаўшы такое, я падумаў сабе: "Э-э, Іван Пятровіч, ды ты, аказваецца, вельмі кароткую памяць маеш?.." Няйначай, як на што!..

## І НАПАСЛЕДАК...

Я ўжо пісаў недзе, што кароткія апавяданні, як гэтыя вось, чамусьці з цяжкасцю даюцца, можа, таму, што нібыта не падпарадкоўваюцца яны жанравым законам; але, бадай, якраз з гэтай прычыны так званыя карацелькі і дазваляюць распаўзацца ва ўяўленні вавёркай па дрэве. У іх можна змясціць літаральна ўсё, сягаючы ад аднаго да другога.

Таму хочацца трохі патлумачыць. Аднак не згаданую асаблівасць пісьма. У жыцці чалавечым нямала акалічнасцяў, якія спадарожнічаюць яму, але ўсё роўна як ціснуць ды муляюць. Апошні час раз-пораз узнікае ў памяці восень ужо таго даўняга года, калі з Савецкага Саюза праганялі Салжаніцына, скарыстоўваючы сабачае слова "выдворяли". Пісьмо тады ў падтрымку ўрадавага рашэння (напэўна, можна так сказаць) падпісалі ад беларускіх пісьменнікаў Мележ і Быкаў. Прынамсі, іх прозвішчы стаялі ў шэрагу іншых вядомых дзеячаў літаратуры. І вось нядаўна газета "Время и мы" выдала даўні мой сакрэт. Не знаю адкуль, але ім стала раптам вядома, што да мяне таксама звярталіся, каб і я дазволіў паставіць свой подпіс. Вось ужо больш за дваццаць гадоў мне вельмі не хацелася прызнавацца ў гэтым. Але ж і папраўдзе было, што мне званілі з ЦК КПБ, прапаноўвалі далучыцца да цкавання выдатнага рускага пісьменніка. Ды я не згадзіўся. А часта думаў над тым, чаму ад мяне тады лёгка адчапіліся. Ды і прапаноўвалі быццам сіраце: маўляў, хочаш хлеба, ну не хочаш, дык і не трэба. Словам, адмаўлялі хутчэй, чым я паспяваў штосьці пэўнае адказаць. Няйначай, што подпіс мой патрэбны быў пра запас — ці не думалі ў Цэнтральным Камітэце, што нехта з двух нашых падпісантаў адмовіцца. Аднак адмовіўся я. Не надта рашуча, з агаворкамі, якія адразу ж не спадабаліся чалавеку, які размаўляў са мной па тэлефоне.

У тую восень Саюз пісьменнікаў наладзіў творчы выезд у Магілёў, на Лаўсанбуд. Была такая практыка тады — кіраўнічым колам вельмі хацелася далучыць творчых работнікаў да жыцця. У вялікіх камяніцах чамусьці лічылі, што пісьменнікі, мастакі, рэжысёры, артысты не маюць сувязі з працоўнымі калектывамі, адарваліся ад народа і гэтак далей. Праработкі к таму часу ўжо скончыліся, з Хрушчовым яны неяк самі па сабе адышлі ў нябыт. Але нядрэмнае вока партыйных ідэолагаў заставалася напагатове.

І вось мы ў Магілёве. Зразумела, што пабылі адразу ж у абкоме партыі, папярэдне пазнаёміліся з кіраўніцтвам Лаўсанбуда, тады ў гарадскім парткабінеце разам з прадстаўнікамі працоўных Магілёва праслухалі лекцыі аб тагачасным стане літаратуры. Словам, мы далучаліся да жыцця, да народа, а тым часам той жа народ далучаўся да нашае сферы. У гэты час хтосьці з магілёўскіх таварышаў і сказаў мне, што трэба падысці да тэлефона, на провадзе Мінск. Канечне ж, я нават не здагадваўся, што тэлефонны званок прыйшоў у Магілёў з ЦК КПБ. Але голас у трубцы гучаў знаёмы. Маўляў, так і так, браце Іване, трэба падпісаць пісьмо, не адставаць жа нам ад іншых рэспублік. Салжаніцына я высока цаніў, асабліва ягоныя апавяданні "Матронін двор", "На полі Куліковым", "Выпадак на станцыі "Крэчатаўка". Зразумелая справа, што "Адзін дзень Івана Дзянісавіча" таксама стаяў дома на відным месцы ў кніжнай шафе. Апавяданні Салжаніцына для савецкай літаратуры зрабіліся такой жа з'явай, як і некалі, але ўжо доўга пасля вайны, "Лёс чалавека" Міхаіла Шолахава. Мне толькі не зусім зразумелымі былі нападкі Салжаніцына на вялікага рускага пісьменніка. За што? Хіба ёсць яшчэ ў якой літаратуры "Ціхі Дон"? Гэта цяпер нават у "Новом мире", які ўсё яшчэ рэдагуе Сяргей Залыгін, можна прачытаць чорт ведама што пра Шолахава і яго вялікі раман. Але ў гады маёй літаратурнай маладосці, нягледзячы на розныя плёткі, нічога падобнага не магло адбыцца. І як бы ні было, аднак я "выкруціўся" тады ў Магілёве, каб не ставіць свайго подпісу пад вядомым пісьмом супраць Салжаніцына. Бадай, гэтае слова — выкруціцца — найбольш адпавядае сутнасці.

Між тым, ужо на Лаўсанбудзе сярод пісьменнікаў пайшоў погалас, што Быкава паклікалі ў абком. Павезлі яго ў горад на "Волзе". Я то ведаў, дзеля чаго Васіль Уладзіміравіч спатрэбіўся. Ды маўчаў. Распаўсюджвацца аб тым было не толькі не далікатна, але і небяспечна. Групы падтрымкі тады я не меў. Дарэчы, як і пасля, як і цяпер, таму трапляць у мясарубку было боязна, тым больш, што за апавяданне "Маці" ўжо дасталося адзін раз, калі гады са два не давалі друкавацца. Трэба сказаць — Быкаў з абкома на Лаўсанбуд вярнуўся даволі хутка. Выгляд меў чарней за ноч. Я не лез да яго з роспытамі, аднак Анатоль Вярцінскі ў той час быў нібыта давераной асобай у Быкава, ён і сказаў, з якой прычыны выклікалі Васіля Уладзіміравіча ў Магілёў...

Што ж, у кожнага свая рацыя. І я нікому не суддзя. Але паверце — пасля выступлення газеты "Время и мы" не мог не азвацца!..







# ІМПРАВІЗАЦЫЯ НА ТЭМУ...

(Пачатак на стар. 1)

ім рэалізоўваць індывідуальныя праекты. На другім дні фестывалю панавалі якраз тыя салісты: выступалі калектывы, створаныя ўдзельнікамі аркестра. Гэта ансамблі Б. Бярнштэйна, І. Сацэвіча ("Яблычная гарбата"), квінтэт С. Анцішына, квінтэт саксафонаў І. Голікава, трыо М. Няронскага. Кожны з гэтых калектываў варты асобнага артыкула, але абмяжуюся пакуль кароткім рэзюмэ: другі дзень фестывалю блісну́ў феерверкам розных стыляў ды індывідуальнасцей, віртуозных сольных партый і адмысловых аранжыровак.

Трэці, заключны дзень быў святам вакальнага джаза. Тут аркестр з бэнда ператварыўся ў біг-бэнд (далучылася струнная група) і выступаў як акампаніятар. Трэба заўважыць, што без намаганняў М. Фінберга ды аранжыроўшчыка А. Шпянёва гэты канцэрт быў бы немагчымы -- такую складаную праграму падрыхтавалі за кароткі тэрмін! Але першы калектыў, які выйшаў на сцэну, спяваў без суправаджэння. Маскоўскі секстэт "Вакал Бэнд" уразіў найвышэйшай тэхнікай выканання джаза a capella, даў публіцы магчымасць пачуць уласцівае толькі джазавым вакальным ансамблям -- асаблівы, "спецыяльны" гук, інструментальныя спевы, "празрыстае" шматгалоссе, лёгкасць і адначасова прачуласць выканання.

Затым на сцэну выйшаў калектыў, зусім не ўласцівы джазу, -- дзіцячы вакальны ансамбль. Тым не меней "Джаз Айленд" з Літвы паказаў, што джаз -- не толькі "дарослая" музыка, што дзеці таксама могуць адчуваць, а значыць і цудоўна гэтую музыку выконваць. І не дзіва, бо ансамблем кіруе бліскучы педагог і фанатык джаза Артурас Новікас.

Яшчэ адзін госць фестывалю з Літвы -- Нэда Малунавічутэ. На зімовым джаз-фестывалі яна была ў нас разам з квінтэтам і выконвала складаную "халаднаватую" сучасную музыку. Цяпер -- класічныя джазавыя песні, ды яшчэ ў суправаджэнні вялікага аркестра. Змяніўся рэпертуар, змянілася сцэнічнае імя (цяпер проста Нэда). Але галоўнае засталося: цудоўны глыбокі голас, віртуознае ім валоданне, экспрэсія, дынамізм і пачуццёвасць выканання. Несумненна -- новая "зорка" джаза!

Яркі ўдзельнік фестывалю -- С. Манукян, прадстаўнік расійскага джазавага вакалу. Ён ужо добра знаёмы нашай публіцы, і дзякуючы аркестру М. Фінберга адбылася новая сустрэча з яго мастацтвам.

Пасля ўрачыстай часткі, на якой былі выступленні афіцыйных асоб, спонсараў, падарункі ды віншаванні, фестываль завяршала тое, чым ён і павінен завяршацца, -- джэм-сэйшн, сумеснае музіцыраванне ўдзельнікаў, спаборніцтва ў мастацтве імправізацыі. Між іншым, Беларускае радыё плануе серыю перадач з нагоды фестывалю. Першая -- 30 лістапада ўвечары.

Засталося назваць аб'екты асаблівых сімпатый публікі. Гэта салісты А. Матлін, Дз. Бударын і Нэда. Джазавы фестываль, як адзін са звычайных атрыбутаў культуры сапраўднай краіны, стаўся яшчэ адной нагодай для спадзеву, што ўрэшце мы такою краінай зробімся.

**С. ШЛЁНСКІ**

*На здымках: фотаімправізацыя В. СТРАЛКОЎСКАГА на фестывальныя матывы.*







ЛіМ
ЧАСАПІС

## НА МОВЕ ДРУЖБЫ



У майстэрні мастака, прафесара Акадэміі мастацтваў Мая Данцыга нядаўна пабывалі нямецкія госці. У складзе дэлегацыі з горада Ніенбурга, якую ўзначальваў Вольфганг Копф, былі сем настаўнікаў, медсястра і хатняя гаспадыня. Мэта прыезду – наведаць мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю Марка Шагала.

Пералоўненыя віцебскімі ўражаннямі, немцы з цікавасцю выслухалі Мая Данцыга, удзельніка I Міжнароднага Шагалаўскага пленэра. Мастак расказаў пра гэтую памятную падзею, паказаў свае карціны з цыкла "Стары Віцебск".

А потым адбылася нязмушаная размова. І не толькі пра Шагала. Пра вечнае. Пра тое, што ў гэтым свеце, перапоўненым зброяй і ўзаемным недаверам, гуманістычнае мастацтва – як глыток вады, як светлы праменьчык у нашым, у многім яшчэ змрочным жыцці. Гаварылі аб правах чалавека, аб пагрозе фашызму, аб тым, як важна, каб людзі ўсіх краін працягнулі адзін аднаму рукі дружбы.

– Магчыма, вам, хто перажыў сусветную вайну, – сказаў Клаус Дзінглінгер, – непрыемная нямецкая мова, як напамін аб фашысцкай акупацыі...

Ды яму запярэчылі. Мова, на якой размаўлялі і стваралі свае творы сусветна вядомыя паэты і музыканты, вучоныя і мысліцелі, мова, якая наталіла жывымі сокамі іншыя мовы, да фашызму адносін не мае. Фашызм – з'ява не нацыянальная, а міжнародная. Ён, як ракавая пухліна: слабее ахоўная імунная сістэма, і хвароба развіваецца ў той або іншай частцы цела. Дарэчы, сучасная Германія не на словах, а на справе даказала, што нягледзячы на такую страшную спадчыну, дзяржава можа паспяхова процістаяць нацысцкай ідэалогіі.

Гэтая сустрэча ўмацавала ў перакананні, што будучыня Германіі – не за неанацыстамі, а такімі вось людзьмі з абвостраным сумленнем.

**Міхаіл НОРДШТЭЙН, БЕЛІНФАРМ**

*На здымку: нямецкія госці ў майстэрні мастака М. Данцыга.*

*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ*

## СЯМЕЙНАЯ ФАНТАЗІЯ



У Віцебскай музычнай гасцёўні адкрылася незвычайная выстаўка. Яе аўтары – члены адной сям'і, выкладчыкі мастацкай школы Наталля Пяўцова, Ігар Кучарэнка і іх сын Мікіта. Яны вынеслі на суд гледачоў свае работы, у асноўным, акварэлі. Многія з прадстаўленых палотнаў экспанаваліся сёлетнім летам у Германіі.

*На здымку: Наталля Пяўцова, Ігар Кучарэнка і іх сын Мікіта.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ*

Адгалоскі

# НЕ ПІШЫ І БОГВЕДАМА ЯК

## АДКАЗ АПАНЕНТАМ

Пытанні, узнятыя ў маім артыкуле "Не пішы чортведама як" ("ЛіМ", 5.08.94) патрабуюць шырокай і вольнай дыскусіі. Тыя заўвагі на мой артыкул, што з'явіліся ў друку ("ЛіМ", 16.09.94), выказалі супярэчлівыя погляды і спрэчныя думкі. Станоўчая ацэнка маіх прапаноў дадзена ўскосна ў той частцы, дзе я выказаў сумненне, што "не ў лёгкі, а можа, нават не ў свой час праводзім рэформу ці ўдакладненне правапісу беларускай мовы. У такой справе нельга спяшацца, трэба ўважліва прыслухацца да голасу народа. Рэформу правапісу нельга разглядаць адасоблена ад грамадска-палітычнае сітуацыі ў краіне. Зараз у нашым грамадстве пануе поўны разброд".

Станоўчую ўскосную ацэнку гэтым маім думкам я бачу ў "Высновах" дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы, у якіх адзначана: "Большасць навукоўцаў і прадстаўнікоў грамадскасці лічаць, што ў сучасных умовах дзяржаўнай неўпарадкаванасці, палітычнай раз'яднанасці грамадства і эканамічнай нестабільнасці ў рэспубліцы гэта з'яўляецца несвоечасовым і немэтазгодным. Наяве крайне неспрыяльныя ўмовы для ўнясення істотных змен у правапіс, калі нават ёсць апраўданасць у інтарэсах самой мовы. Праводзіць рэформу правапісу беларускай літаратурнай мовы можна будзе толькі тады, як наступіць трывалая палітычная стабілізацыя ў рэспубліцы, канчаткова ўсталюецца дзяржаўнасць Беларусі, яе суверэнітэт і незалежнасць. Небяспекі ў такім стрыманым падыходзе да вырашэння гэтай праблемы – няма, мова не належыць да такіх катэгорый, дзе трэба праяўляць паспешнасць".

Такім чынам, мае думкі і прапановы супалі з думкамі грамадскасці. Гэта адносна рэформы правапісу.

З'явілася і даволі вострая крытыка майго артыкула той жа "ЛіМ", за 16.09.94, якая патрабуе майго адказу. У большай частцы крытыка неабгрунтаваная, некаторыя пытанні, што ўздымаюцца ў маім артыкуле, трактуюцца адвольна або не маюць адносін да майго артыкула.

Мой апанент і цёзка па прозвішчы І. Чарняўскі пачаў свой крытычны артыкул з рэагавання на выступленні ў друку іншых аўтараў, па іншых пытаннях. Што ж да заўваг па маім артыкуле, то з імі пагадзіцца я не магу.

Пра назву нашай сталіцы – Мінск ці Менск? Я сказаў у сваім артыкуле, што "ёсць пастанова Мінскага гарадскога Савета называць сталіцу Беларусі Мінскам". Пастанова была прынята Мінскім гарсаветам у канцы 30-х гадоў. З таго часу назва не змянялася да нашых дзён. На гэтай аснове я пісаў, што ёсць пастанова Мінскага гарадскога Савета называць сталіцу Беларусі Мінскам. Гэта так і ёсць. І. Чарняўскі пярэчыць і нагадвае, што 5 верасня 1991 года Мінскі гарсавет прыняў рашэнне звярнуцца ў ВС БССР з прапановай перамяніць назву Мінск на Менск. Але ж Вярхоўны Савет Беларусі прапановы гарсавета не разглядаў, таму што вялася падтрыхтоўка новай Канстытуцыі рэспублікі. Новая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь пацвердзіла назву сталіцы, прынятую яшчэ ў 1939 годзе Мінскім гарсаветам. У артыкуле 20 новай Канстытуцыі лаканічна запісана: "Сталіца Рэспублікі Беларусь – горад Мінск". Але што нам да тых законаў, нават самых вышэйшых. Ма ствараем прававую дзяржаву і можам пісаць як каму ўздумаецца.

Слушную заўвагу робіць І. Чарняўскі, што сваю сталіцу англічане называюць не Лондан, як напісана ў мяне, а Ландан. Я гэта добра ведаю. У свой час вывучаў англійскую мову, бываў у Лондане, ведаю, што англічане пішуць назву сваёй сталіцы Лондан, а вымаўляюць Ландн, як аднаскладовае слова. Мной дапушчана механічная памылка, дакладней – апіска. Прашу прабачэння.

І. Чарняўскі прыпісвае мне ініцыятыву атаясамлення слоў "нацыяналізм" і "фашызм". Такое атаясамленне зрабілася задоўга да з'яўлення майго артыкула. Шмат разоў даводзілася мне чытаць у друку атаясамленасць гэтых слоў. Сінанімічнасць іх зрабілі самі фашысты. Фашысцкая ідэалогія, як яны заяўлялі самі, грунтуецца на расізме, на перавазе так званай арыйскай расы, якая мае перавагу над усімі іншымі расамі, прызначана Богам і прыродай да сусветнага панавання.

Здавалася б, нацыяналізм не мае ніякіх сувязей з фашызмам. На практыцы ж ён зліўся з фашызмам. "Нацыяналізм робіцца сродкам імперыялістычнай і каланіяльнай палітыкі і зближаецца з расізмам", адзначаецца ў "Большой советской энциклопедии" (том 17, стар. 358, 1974 г.). Фашысцкая расавая тэорыя злілася з нямецкім нацыяналізмам. Гэта пацвярджаецца нямецкім фашысцкім дэвізам: "Германія, Германія вышэй над усімі!" Тут ужо арыйская раса заменена Германіяй і немцамі.

Гітлераўская ідэя стварэння тысячагадовага райха, заваёва для гэтага прасторы рэспублік Савецкага Саюза, уключаючы і Беларусь, выдаленне і знішчэнне карэннага насельніцтва, за выключэннем невялікай часткі ў якасці рабоў, з'яўляецца сведчаннем практычнага зліцця расізму з нацыяналізмам. У час Вялікай Айчыннай вайны мне давялося бачыць на гарадскіх вуліцах Германіі транспаранты з надпісам: "Працуеш ты ці адпачываеш, марыш ці вандруеш – заўсёды памятай, што ты немец". У гэтым закліку нельга аддзяліць расізм ад нацыяналізму. Не арыйская раса, а нямецкая нацыя абвяшчалася фашыстамі вышэйшай над усімі нацыямі ў свеце і мела "натуральнае" права не толькі панаваць, але і знішчаць іншыя нацыі.

Найбольш слушныя заўвагі па маім артыкуле зрабіў намеснік старшыні Беларускай сялянскай партыі А. Заронак: "На мой погляд, беларускаму народу сёння, як ніколі неабходна здаровая нацыянальная свядомасць. Гэтага нам не трэба баяцца". Абсалютна згодзен. Не толькі не трэба баяцца нацыянальнай свядомасці беларусаў, а павышаць яе ўсімі мерамі. Без высокай нацыянальнай свядомасці няма самадзейнай нацыі.

Адносна маіх слоў, што сёння паняцце патрыятызм падмянілі нацыяналізмам, А. Заронак заўважае: "З аўтарам тут можна і пагадзіцца, і паспрачацца. Наогул нашым вучоным трэба вызначыцца са словамі – нацыяналізм і патрыятызм". І я лічу, што гэта вельмі неабходна.

Ёсць за што паспрачацца і з А. Заронкам. Ён у нейкай меры адстойвае станоўчае значэнне слова нацыяналізм, надае яму сінанімічны сэнс нацыянальнай свядомасці і падае ў пацвярджэнне цытату з прац рускага філосафа І. Ільіна. "Национализм есть любовь к историческому облику и творческому акту своего народа во всем его своеобразии. Национализм есть Вера в инстинктивность и духовную силу своего народа, вера в его духовное признание. Национализм есть Воля к тому, чтобы мой народ творчески и свободно цвел в Божием саду. Национализм есть Созерцание своего народа перед лицом Божием, созерцание его души, его недостатков, его талантов, его исторической проблематики, его опасностей и его соблазнов. Национализм есть Система Поступков, вытекающая из этой любви, из этой веры, из этой воли и из этого созерцания".

Спасылка на філасофскія працы Ільіна ў вызначэнні сэнсу слова нацыяналізм непераканаўчая. Іван Аляксандравіч Ільін быў філосафам рэлігійнага напрамку і разглядаў нацыянальныя і сацыяльныя з'явы ў рамках аднаго народа, народа адной канфесіі. У Ільіна слова народ падаецца ў адзіночным ліку. Нацыяналізм разглядаецца як унутрынацыянальная з'ява, тады як у рэальнасці нацыяналізм праяўляў сваю сапраўдную сутнасць у міжнацыянальных адносінах.

Рэлігіі не аб'ядноўваюць народы, але адасабляюць. Зносіны і адносіны між народамі адбываюцца па-за рэлігійнай сферай, за выключэннем народаў, якія належаць да адной канфесіі. У працах Ільіна праяўляюцца адценні біблейскага стылю, ужываюцца біблейскія звароты: Бог да народа – мой народ, народ да Бога – перад тварам Божым. Рэлігійная сутнасць, напрамак прац Ільіна аддаляла яго ад рэальнага жыцця, рэальных з'яў. Тлумачэнне слова нацыяналізм у Ільіна блізкае да паняцця нацыянальная свядомасць, але не зусім супадае з ім. Можа, ён ужываў слова нацыяналізм у такім сэнсе таму, што паняцце нацыянальная свядомасць у той час рэдка ўжывалася ў літаратуры. Так ці інакш сёння ўжываць гэтыя словы ў аднолькавым станоўчым сэнсе немагчыма, проста нельга.

Слова нацыяналізм з'явілася ў 80-ых гадах мінулага стагоддзя, калі сфармаваліся нацыі ў перадавых капіталістычных краінах і стаў праяўляцца нацыяналізм у міжнацыянальных адносінах. Вучоныя заўважылі гэту новую з'яву і далі ёй сваё вызначэнне: "Последовательного теоретического оправдания национализм, как и все отвлеченные начала, не допускает. Практическое значение он отчасти имеет как знамя дурных народных страстей, особенно в странах с пестрым многонародным населением. Основание некоторой популярности, которой еще пользуется национализм, есть ошибочное смешание с патриотизмом" (Энциклопедический словарь. Ф. А. Брокгауз и И. А. Эфрон, том ХХА, стар. 710, СПб, 1897 г.).

А вось больш позняе і больш поўнае вызначэнне слова нацыяналізм, калі гэта з'ява ў міжнацыянальных адносінах выявіла сваё аблічча. "Национализм, историческое явление, возникшее в качестве значительного фактора всемирной истории не ранее XIX в. Сущность этого явления заключается в таком переразвитии национального чувства, при котором люди, целые группы людей, очень часто очень многочисленные, начинают переоценивать свою национальность, иногда и свою нацию и считают поэтому совершенно справедливым всяческие для нее преимущества сравнительно с другими национальностями и другими нациями, сравнительно со всем человечеством. Подчинение других народов, или по крайней мере их интересов и самостоятельности, а если возможно, то и поглощение других народов, их ассимиляция ставится целью таких националистических программ. Одни ничего не жалеют для германизации, другие применяют самые грубые меры мадьяризации, третьи ведут тонкую самоотверженную борьбу для полонизации, четвертые проповедуют обрусение и т. д. Всяким этим ассимиляционным опытам народности отвечают сопротивлением, часто отчаянною борьбою, порождающею рознь и ненависть там, где еще недавно об этом нельзя было и думать" ("Большая энциклопедия", том 13, стар. 713, СПб, 1903 г.).

Так вызначаецца нацыяналізм у энцыклапедыях дарэвалюцыйных выданняў. Прыблізна так вызначаецца ён і ў савецкіх энцыклапедыях, толькі ў святле сталінскай камуністычнай ідэалогіі. Ідэалізм аб'яўляецца класавай буржуазнай ідэалогіяй, што безумоўна няправільна. Нацыяналістам можа быць буржуй, інтэлігент, рабочы і люмпенпралетарый.

Нацыяналізм не можа ахопліваць усю нацыю, стаць нацыянальнай ідэяй. Нацыяналізм праяўляецца асобнымі людзьмі, групамі людзей або партыямі, што стаяць або імкнуцца стаць да дзяржаўнага стырна, якім вызначаюць гістарычныя шляхі дзяржавы. Правільнае вызначэнне нацыяналізму ў нашых сучасных умовах дала партыя Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада: "БДСГ упэўнена, што на Беларусі няма падстаў для міжнацыянальных спрэчак. Мы маем ўсе ўмовы для ўзаемаразумення, узаемапавагі і супрацоўніцтва паміж людзьмі ўсіх нацыянальнасцей, якія складаюць народ Беларусі, на карысць нашай Радзімы. Мы адмоўна ставімся да ўсякіх праяўленняў шавінізму і нацыянальнага экстрэмізму, да ўмяшання ў той ці іншай форме ў справы іншых краін".

У Беларусі сапраўды няма падстаў для міжнацыянальных спрэчак для нацыянальнай розні. Але ў нас вядзецца гутарка пра слова нацыяналізм, якім вызначаюцца пэўныя з'явы не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім свеце, пра значэнне гэтага слова наогул. Узнікае пытанне, чаму з'явілася патрэба ў некаторых дзеячаў змены семантыкі слова нацыяналізм з адмоўнага сэнсу на станоўчы? Можа, у свеце не стала імперыялізму? Можа, начыста знікла пачуццё пагардлівых адносін прадстаўнікоў адной нацыі да нацый другіх? Можа, не стала імкнення прадстаўнікоў вялікіх нацый панаваць над нацыямі меншымі? Можа, знікла пагроза асіміляцыі адных нацый другімі?

Жыццё паказвае, што тыя варункі і з'явы, якія спарадзілі слова нацыяналізм, у пэўнай меры існуюць і сёння (Югаславія, Каўказ, Малдова, Асецыя). Няма ніякіх падстаў і апраўдання змяняць сэнс гэтага слова, тым больш замяняць ім слова патрыятызм. Ці не навязваюць некаторым нашым дзеячам такія думкі ўсякія "добразычлівыя" філосафы і дарадчыкі краін Заход-

няй Еўропы і Амерыкі? Такога ўплыву трэба асцерагацца.

Шкада, што А. Заронак сказаў пра патрыятызм мімаходзь, што не спыніўся на яго значэнні ў дасягненні нацыянальнага адзінства і адзінства беларускага народа. А. Заронак – прадстаўнік сялянства, чалавек ён цвярозамыслячы і можна меркаваць, што добра ведае традыцыйны, непахісны патрыятызм сялян. Ці не з'яўляецца патрыятызм сялян прыкладам апірышчам укаранення патрыятызму ва ўсім нашым грамадстве, ператварэння яго ў дзейсную сілу па выхадзе Беларусі з крызісу?

Крытычна адгукнуўся на мой артыкул і А. Бернат. Ён кранаецца пытанняў мовы. Абвінаваціў мяне, што я не збіраюся нічога шукаць па ўдасканаленні мовы, што я за "трасянку", на якой размаўляе сёння народ. Мой крытык кінуўся ў песімізм, ён піша: "Пра беларусаў можна сказаць нават больш смела – яны не толькі згубілі мову, а пакуль што нават не існуюць як нацыя", што мы "адышлі ад продкаў". Але ж ёсць і супроцьлеглыя погляды:

**Вы бачыце, як сатанеюць тыя,**
**Што ў нашых душах так і не змаглі**
**Усмерціць мовы зерняткі жывыя?**

Гэта Ніл Гілевіч. Ёсць беларуская мова, а калі ёсць мова, ёсць і беларуская нацыя, на жаль, пакуль яшчэ з невысокай нацыянальнай свядомасцю.

Адкуль А. Бернат узяў, што ўсе беларусы размаўляюць на "трасянцы" і нібы я за такую мову? Беларуская гутарковая мова складаецца з некалькіх дыялектаў, з якіх пісьменнікі выбіраюць словы для стварэння і ўзбагачэння беларускай літаратурнай мовы. Пра такую мову ідзе гаворка ў маім артыкуле. А вось ад продкаў мы сапраўды адышлі, што праўда, то праўда. Мы не жывём у курных хатках з глінянай падлогай і падслепаватымі вокнамі, не ходзім у лапцях, не носім сярмаг і андаракаў, суцэльна ўсе пісьменныя, патроху, марудна, але ўваходзім у цывілізацыю. Адышлі мы ад продкаў і па ўзроўні, і па тэхналогіі вытворчасці. Не забыта і мінулае. Выдадзены збор беларускага фальклору, выпушчана "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі" і іншыя выданні. Працуюць гісторыкі над вывучэннем мінулага. Выпушчана і сабрана далёка не ўсё, але ўсё ж пра многае з мінулага мы ведаем, а вось як будаваць будучыню, якой яна павінна быць, куды мы ідзём - - мы не ведаем. Мы зацыкліліся на вяртанні мінулага. Наогул, прынцыпова мінулага вярнуць нельга, яго трэба ведаць. Можна і пажадана скарыстаць некаторыя здабыткі гісторыі – літаратуры, культуры, народнай творчасці, традыцыі побыту.

Каб скарыстаць практычна такія здабыткі, трэба найперш стварыць умовы вольнага развіцця сучаснай нацыянальнай культуры. Пры такіх умовах будзе ясна, што можна і што варта ўзяць з мінулага для ўзбагачэння нашай нацыянальнай культуры, яно як бы само вернецца. Адзін мудры чалавек сказаў: "Не збудаваць будучыні, паварочваючыся тварам заўсёды толькі да мінулага".

Не прызнае А. Бернат вынікаў апытання, праведзенага ў Гомельскай вобласці, у якім 54,3 працэнта беларусаў адказалі адмоўна на прапанову вярнуць правапіс 20-х гадоў. Ён спасылаецца на М. Бярдзяева: "Что можно сказать в такой атмосфере, насыщенной страстями, при такой интеллектуальной элементарности". Паважаю Мікалая Аляксандравіча Бярдзяева, але ўсё ж ён не заканадаўца. У нашых неспакойных умовах існуюць спецыяльныя інстытуты, ствараюцца новыя, вядуцца апытанні людзей па актуальных праблемах, вынікі якіх часта пацвярджаюцца. Выходзіць, паводле А. Берната, што ў неспакойныя часы не варта прыслухоўвацца да думкі народа. Няма логікі.

Найважнейшай задачай у будаўніцтве будучага грамадства, дзяржавы з'яўляецца павышэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў, еднасці беларускага народа, які складаецца з некалькіх нацый. Паняцце "нацыянальная свядомасць" вельмі шырокае і змястоўнае, яно ахоплівае веданне гісторыі сваёй краіны і нацыі; высокую дасведчанасць у пытаннях культуры ў поўным яе сэнсе; усведамленне ролі навукі ў развіцці грамадства; дабрачынныя, паважлівыя адносіны да другіх нацый і шмат іншага, уключаючы і этыку, самую элементарную – ад паводзін у грамадстве да паважлівасці ў дыскусіях. У нас дыскусіі іншы раз з-за недахопу аргументаў пераходзяць у абразлівую лаянку, наклейванне ярлыкоў аж да абзывання адны адных фашыстамі, хоць ні тыя, ні другія такімі не з'яўляюцца.

У нас жа робіцца нешта адваротнае выхаванню нацыянальнай свядомасці. Як, напрыклад, зразумець выдачу новых пашпартоў, у якіх няма адзнакі аб нацыянальнай прыналежнасці асобы? Хто ж мы цяпер будзем? Касмапаліты без роду і племені? Цяпер любы рускамоўны беларус можа назваць сябе рускім. Ці не з'яўляецца такая пашпартызацыя праяўленнем вялікадзяржаўнага шавінізму? Ці не прывядзе гэта да таго, што беларусы стануць нацыянальнай меншасцю на сваёй роднай зямлі? Ці не робіцца гэта дзеля таго, каб

**У віры такой ашукі**
**Знішчыць нашы ўсе сляды,**
**Каб не ведалі і ўнукі,**
**Хто такія іх дзяды.**

*(Якуб Колас).*

Спасылаюцца на тое, што ў Злучаных Штатах Амерыкі, у Францыі і іншых краінах няма пашпартоў і ні ў якіх асабовых дакументах не вызначаецца нацыянальная прыналежнасць. Там ёсць толькі асабовыя пасведчанні. (Нашы пашпарты таксама становяцца асабовымі пасведчаннямі). Але там высокая цывілізацыя, моцна развіта пачуццё патрыятызму народа. Там органы дзяржаўнай бяспекі маюць магутную сучасную тэхніку. На кожную асобу камп'ютэр можа даць самыя падрабязныя звесткі, аж да генеалагічных.

Нельга бяздумна наследаваць парадкам і правілам іншых краін. У нас свой лёс, свая дарога. Трэба пераймаць у іх усё тое, што адпавядае і спрыяе развіццю нашай навукі, вытворчасці, росквіту культуры, павышэнню дабрабыту нашага народа.

Пачаткам выхавання нацыянальнай свядомасці павінны стаць пачатковыя і сярэднія школы. У нашых сучасных школах навучаюць моладзь пісьменнасці і даюць мінімальныя веды пераважна з натуральных навук. Грамадскае выхаванне ў сістэме навучання амаль адсутнічае. Уласны карэспандэнт газеты "Звязда" Барыс Пракопчык правёў на вуліцах Гродна экспрэс-апытанне моладзі. Выявілася, што яго рэспандэнты нічога не ведалі "ні аб юбілейнай даце ў жыцці Гродзеншчыны (пяцідзесяцігоддзя вызвалення ад фашысцкай акупацыі. – **І. Д.**), ні аб тым, што таксама ў верасні, але 1939 года, Заходняя Беларусь уз'ядналася з яе ўсходняй часткай" ("Звязда", 20.09.94). Якой нацыянальнай свядомасці можна чакаць пры такім выхаванні моладзі?!. А выхаванне, павышэнне нацыянальнай свядомасці павінна пачынацца ў пачатковай і сярэдняй школе.

На добры лад, задачы павышэння нацыянальнай свядомасці беларусаў, развіцця патрыятычнага пачуцця нашага народа павінны б увайсці адным з раздзелаў у праграму развіцця навукі, уздыму вытворчасці, росту культуры і павышэння дабрабыту народа, стаць клопатам выканаўчых улад, ад вышэйшых да мясцовых органаў, як і перавод гэтых органаў на дзяржаўную, беларускую мову. Пакуль што новае кіраўніцтва вышэйшых органаў улады не вызначыла сваіх пазіцый у праводзенні нацыянальнай палітыкі.

Нацыянальная свядомасць і патрыятызм будуць плённымі тады, калі будзе выпрацавана рэальная канцэпцыя ўздыму вытворчасці, навукі, культуры і дабрабыту народа – канцэпцыя стварэння новай дэмакратычнай дзяржавы Рэспубліка Беларусь. Гарантам выканання такой канцэпцыі і ўмацавання суверэнітэту, незалежнасці Беларусі будзе нацыянальная свядомасць беларусаў і адзінства беларускага народа.

**Ігнат ДУБРОЎСКІ**

# СМАЛЕНСКІ СЛЕД УСЕВАЛАДА ФАЛЬСКАГА

Біяграфія вядомага дзеяча беларускай культуры Усевалада Фальскага таямніча абрываецца недзе на пачатку 20-х гадоў. Дагэтуль нікому з даследчыкаў не ўдалося высвятліць акалічнасці ягонага знікнення з Менска і далейшы лёс. Яўхім Кіпель у сваіх успамінах згадаў Фальскага як аднаго з кіраўнікоў тэатральнае секцыі менскага гуртка моладзі "Беларуская хатка". Напрыканцы 22-га года рэпрэсіі з боку ўлады вымусілі гурток спыніць працу. "У гэтым жа часе быў арыштаваны Фальскі й прысуджаны да расстрэлу, – пісаў Я. Кіпель, – але пасля расстрэл быў заменены на 10 гадоў катаргі" ("Маладосць", N 1, 1994, с. 210).

Так ці інакш, але пазнейшае месцазнаходжанне Фальскага сапраўды было загадкай. Гісторык Віталь Скалабан меркаваў, што след Фальскага трэба шукаць у Смаленску, бо захаваўся стуль напісаны ў 1924 годзе ліст Фальскага да ўрада БССР з просьбай дазволіць яму вярнуцца ў Беларускую рэспубліку. І вось, нарэшце першы след Усевалада Фальскага па-за межамі БССР знойдзены.

У Дзяржаўным архіве Смаленскай вобласці ў фондзе рабфака пры Смаленскім універсітэце захавалася асабовая справа "делопроизводителя Фальского Всеволода Степановича". Рэквізіты справы: ф. 55, спр. 4206, арк. 1–10.

Справа не пакінула ніякіх сумненняў, – гэта наш, беларускі Усевалад Фальскі. Апошні ў справе аркуш пад N 10 з'яўляецца асобовай анкетай: нарадзіўся ў 1886 годзе ў Лошыцы Самахвалавіцкага павета Менскай губерні; беларус, скончыў Менскую гарадскую і Віленскую рэальную вучэльні, музычную школу імя Рубінштэйна і чатыры курсы Петраградскага ляснога інстытута; працуе з 1906 года; мае "статьи публицистического характера в прессе"; да лютага 1917 і да кастрычніка 1917 – "работал в Минске и в Петрограде"; "женат, не собственник, крестьянин, в армии не служил, оружия нет"; ад сапраўднай вайсковай службы вызвалены "по семейному положению"; на вайсковым уліку з 1923 года ў Смалгубваенкамаце, "личное отношение" N 375; стаўленне да савецкай улады "вполне сочувственное"; "беспартийный марксист"; "наказаниям не подвергался"; хатні адрас – вул. Іллінская, дом N 8. Дата запаўнення анкеты – 2 верасня 1923 года. Анкетныя дадзеныя істотна дапаўняюць пададзеную ў Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі (т. 5, с. 384) біяграфію У. Фальскага.

Заяву з просьбай прыняць яго на працу на пасаду справавода вучэбнай часткі Фальскі падаў 31 жніўня 1923 года (арк. 5).

22 кастрычніка таго ж года прэзідыум рабфака звяртаўся з лістом за подпісам загадчыка рабфака Якаўлева ў камунальны аддзел (гарадскога савета? – **Ю. В.**) з просьбай "замацаваць за ... Усеваладам Фальскім два пакоі ў доме N 8 па вул. Кастрычніцкай рэвалюцыі (б. Іллінская) ў памяшканні Дзіцячага Дома скураных захворванняў" (арк. 2). Дадаткова паведамлялася, што Фальскі "мае права на 20 кв. арш." жыллёвае плошчы звыш нормы (арк. 3). Дакументы, між іншым, ставяць пытанне, чаму высланы з БССР. У. Фальскі меў у Смаленску жыллёвыя прывілеі ды яшчэ жыў у памяшканні лячэбнай установы.

Наступныя дакументы справы датуюцца ўжо 1924 годам. 25 лютага ўжо не справавод, а "зав.соцобеспечением" Фальскі падаў заяву з просьбай адпачынку па сямейных абставінах (арк. 6).

У пасведчанні ад 17 кастрычніка 1924 года зазначалася, што, працуючы на рабфаку на пасадах справавода, заг. сац. забяспечаннем і заг. улікам, У. Фальскі "зарекомендовал себя, как честный, исполнительный и знающий работник" (арк. 8). Гэта й ёсць самая апошняя дата ў асабовай справе.

Для беларускага літаратурнага краязнаўства будзе не лішнім ўказаць, што вуліца Кастрычніцкай рэвалюцыі (былая Іллінская) дагэтуль захавалася ў Смаленску. Дом N 8, у якім жыў Фальскі, знаходзіўся ў самым цэнтры горада, прыкладна на месцы сённяшняга галоўпаштамта насупраць парку Блонь, побач з былым Домам губернатара і мураванай крапаснай вежай, блізу так званага губернатарскага палому. Працаваў У. Фальскі недалёка ад дому. Рабфак і ўніверсітэт месціліся тады ў адным будынку, у якім сёння знаходзіцца Смаленскі педагагічны інстытут.

У часе жыцця У. Фальскага ў Смаленску пры універсітэце існавала зямляцтва беларускіх студэнтаў. ("Беларускі Сцяг", NN 2–3, чэрвень-ліпень, 1922, Коўна. С. 46). У сценах універсітэта і рабфака зрэдку ладзіліся беларускія культурныя імпрэзы і чыталіся лекцыі па беларусазнаўстве. Цалкам верагодна, што У. Фальскі кантактаваў з беларускім гарадскім асяродкам, хоць пакуль што шматлікія архіўныя дакументы зямляцтва гэтага не пацвярджаюць. Мог мець сувязі Фальскі са студэнтам СДзУ маладым беларускім археолагам Аляксандрам Ляўданскім, а таксама з тагачасным загадчыкам Беларускай секцыі пры Смаленскім губеранскім аддзеле народнай адукацыі М. Агейчыкам – "беспартийным националистом" паводле характарыстыкі аднаго адказнага супрацоўніка Смаленскага губкама РКП(б) (Цэнтр дакументацыі навейшай гісторыі Смаленскай вобласці, Ф. 3, воп. 1, спр. 2598, арк. 1-2). Гэтаксама магчыма, што выгнанец з БССР У. Фальскі, наадварот, свядома цураўся беларускага асяродку ў горадзе, каб тым самым запабегчы дадатковых праблем. Зрэшты, адшукаць імя Усевалада Фальскага ў смаленскіх архівах сярод рэпрэсаваных у Смаленску ў 20–30-х гадах людзей гэтаксама не ўдалося. Смаленскі след Фальскага знойдзены. Якім будзе наступны этап ягонай біяграфіі?

**Юрка ВАСІЛЕЎСКІ**

*Смаленск – Менск*

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю Асташонку з прычыны напаткаўшага яго гора – смерці бацькі.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Веніяміну Рудаву з прычыны напаткаўшага яго гора – смерці жонкі Валянціны Дзянісаўны.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі шчыра спачувае дырэктару Літаратурна-інфармацыйнага прадпрыемства СПБ "Роднае слова" Волкавай Ядвізе Пятроўне з прычыны напаткаўшага яе гора – смерці бацькі.**


ЛіМ
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Выходзіць з 1932 года

*Газету рэдагавалі*

*Х.Дунец (1932–35)*
*І.Гурскі (1935–41)*
*А.Куляшоў (1945–46)*
*М.Горцаў (1947–49)*
*П.Кавалёў (1949–50)*
*В.Вітка (1951–57)*
*М.Ткачоў (1957–59)*
*Я.Шарахоўскі (1959–61)*
*Н.Пашкевіч (1961–69)*
*Л.Прокша (1969–72)*
*Х.Жычка (1972–76)*
*А.Асіпенка (1976–80)*
*А.Жук (1980–86)*
*А.Вярцінскі (1986–90)*

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)
Індэкс 63856. Наклад 11534.
Нумар падпісаны 24.11.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

